Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 50 (4696) 14 снежня 2012 г.

## Думка пісьменніка

# Пакацігарошак



Як ні дзіўна, у дзяцінстве я не вельмі любіў чытаць. Асабліва палохаўся тоўстых кніг з манатонным тэкстам без малюнкаў. Не хапала нейкай іскры, якая б распаліла ў сэрцы пажар любові да кнігі, у прыватнасці, да дзіцячай. Але ўсё ж знайшоўся твор, які яскрава адкрыў чароўны свет літаратуры для дзяцей. Гэта была кніга пра сапраўднага беларускага асілка, волата, які змагаўся са злом і бараніў дабро. Пакацігарошак. Цяпер мала хто з дзяцей ведае гэта імя, а калісьці на яго подзвігах гадавалiся цэлыя пакаленні... Сёння на паліцах кнігарняў "Пакацігарошка" я не знаходжу. Увогуле, цяжка ўбачыць кнігу пра героя, на ўчынкі якога цалкам хочацца раўняцца, быць ва ўсім да яго падобным... Пакацігарошак саступіў месца розным Шрэкам і Гары Потэрам, якія, на маю думку, увогуле не з'яўляюцца дзіцячымі персанажамі.

На жаль, сёння добрай кнігай многімі лічыцца больш раскручаная, папулярная. Тут выходзіць на першы план маркетынг. А значыць, рэкламавацца будзе часцей не кніга вышэйшай мастацкай вартасці, а тая, што прынясе больш прыбытку. Такім чынам камерцыя можа скрасці ў дзяцей любоў да мастацтва, густ і нават часцінку дзяцінства.

Пасля "Пакацігарошка" я з вялікім задавальненнем прачытаў кнігі А. Дзяржынскага "Вяселікі", В. Зуёнка "Хата поўная гасцей", В. Лукшы "Чароўны камень", У. Мазго "Калі спрачаюцца маланкі", У. Ліпскага "Як Бог стварыў свет" і шмат іншых. Але бліжэй да старэйшых класаў цікавасць да літаратуры зноўзнікла. Магчыма, школьная праграма была залішне сур'ёзна і надакучлівай, а можа, настаўнікі ці бацькі не маглі зацікавіць добрым творам... Затое, калі стаў студэнтам, пачаў пісаць вершы, у душы нібыта штосьці перавярнулася і з'явілася страшэнная літаратурная смага. Думаю, на гэта паўплываў шырокі асартымент сталічных кнігарняў і творчае пісьменніцкае асяроддзе, у якім я апынуўся пасля першых публікацый у "ЛіМе", "Полымі" і "Маладосці" дзесяць гадоў таму. Скупляў літаральна ўсю сучасную паэзію, бо гэта было штосьці вельмі адрознае ад таго, што праходзіў у школе. Ды і хацелася ведаць, што пішуць больш вопытныя калегі. Цяпер жа чытаю ў асноўным класічную літаратуру, шкадую, што многае не паспеў адолець у школьныя гады... На жаль, як і кнігі "Пакацігарошак", не магу знайсці ў кнігарнях зборніка вершаў Уладзіміра Дубоўкі. Не заўсёды выдавецтвы своечасова ўспамінаюць нашых класікаў.

У літаратуру я прыйшоў рамантыкам і лірыкам, і поруч ішлі такія ж рамантыкі. Але з гадамі стаў заўважаць, наколькі цяжка такім заставацца. Хтосьці здраджвае сабе або творчасці, а хтосьці ўвогуле кідае пісаць. Час і рэчаіснасць пакідаюць суровыя адмеціны на душы. Сучасны пісьменнік мне ўяўляецца тым самым Пакацігарошкам, які змагаецца за дабро са злосным Цмокам — рэчаіснасцю. І змаганне гэта будзе, пакуль існуе слова.

Рагнед МАЛАХОЎСКІ

# Прыязджайце да нас у Беларусь

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Кастуся Дробава

Так называецца песня-пераможца ў намінацыі "Лепшая беларускамоўная песня" ІІ Нацыянальнай музычнай прэміі. Напісаную на словы Івана Юркіна, на гала-канцэрце, які адбыўся 12 снежня ў Палацы спорту, яе выканаў кампазітар Алег Елісеенкаў.

Усяго вызначыліся лідары ў 18 найбольш папулярных намінацыях. Паводле арганізатараў, сёлета на ўдзел у музычным конкурсе, які ўзносіць на Алімп творцаў песеннага мастацтва, пададзена больш як тысяча заявак. Гасцямі фінальнага канцэрта сталі міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, першы намеснік міністра культуры Уладзімір Карачэўскі, першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч; сярод членаў журы былі Эдуард Ханок, Віктар Бабарыкін, Аляксандр Яфрэмаў, Таццяна Бандарчук ды іншыя.

"Лепшым этна-фольк-калектывам" прызнаны "Стары Ольса", "Лепшая песня года" — "Не обижай меня"— прагучала ў выкананні Ларысы Грыбалёвай.

На наступны дзень быў прадстаўлены другі альбом "Залатой калекцыі беларускай песні".

Пра ход і вынікі ІІ Нацыянальнай музычнай прэміі, заснавальнікамі якой выступаюць Міністэрства культуры Беларусі і Сталічнае тэлебачанне, чытайце ў наступным нумары "ЛіМа".



*Пераможца ў намінацыі "Лепшы этна-фольк-калектыў" гурт "Стары Ольса".*

# Ніякага крызісу

*50 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАМУ САЮЗУ КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ*

У час свайго стварэння ў 1962 г. і ў наступныя тры дзесяцігоддзі Беларускі саюз кінематаграфістаў быў вельмі ўплывовай, нават "каставай" арганізацыяй. Яго першыя кіраўнікі В. Корш-Саблін, І. Дабравольскі, В. Тураў і іх пераемнікі ўсімі сродкамі падтрымлівалі элітарны імідж. Былі і магчымасці: дзякуючы рэспубліканскаму фінансаванню Саюз кінематаграфістаў не толькі папулярызаваў сваю галіну, але і мог узнагароджваць найлепшых у ёй. Іншымі словамі — уплываў на кінапрацэс.

Таццяна СТУДЗЕНКА

Змяніліся ўмовы (геапалітычныя, культурныя, эканамічныя), і аўтарытэт грамадскага аб'яднання дзеячаў беларускага кіно… не, не знік, але стаў іншым. "Дапамагаць, арганізоўваць, вырашаць творчыя праблемы", — так акрэсліў мэты Беларускага саюза кінематаграфістаў на сучасным этапе яго цяперашні старшыня Віктар Васільеў. Акцёру, рэжысёру, члену экспертнага Савета па кінематаграфіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, члену праўлення Гільдыі акцёраў кіно не засцідь вочы зорны пыл. Пазіцыянаванне легендарнай арганізацыі ён бачыць "літаральна", на падставе тытульнага слова яе назвы — "Саюз": аб'яднанне, узаемадзеянне, узаемападтрымка. Пра тое, што гэта не толькі суб'ектыўная, але рэальна запатрабаваная надзённая пазіцыя, сведчыць і праграма Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў. Абарона мастацкіх ініцыятыў, сацыяльна-эканамічных інтарэсаў і аўтарскіх правоў дзеячаў нацыянальнай культуры і мастацтва — аснова дзейнасці гэтага творчага аб'яднання.

Наконт прыняцця пасады старшыні Беларускага саюза кінематаграфістаў чатыры гады таму Віктар Ігаравіч распавядае вобразна-эмацыянальна (асабісты



стыль яго размовы). Сітуацыя была такая, што "фізічны і юрыдычны распад Саюза мог адбыцца ў межах аднаго дня". У межах аднаго дня можна было, адпаведна, і "ўратаваць гэту лодку", згадзіўшыся ўзначаліць арганізацыю, на рахунку якой у той момант не было ані рубля. "Нікому нічога не абяцаў, акрамя аднаго: захаваць арганізацыю". Як гэта атрымліваецца, Віктар Васільеў расказаў падчас нашай з ім гаворкі, якая пачалася не зусім "па тэме" (юбілею): наконт сучаснага стану беларускага кінематографа.

Тут мяне асабіста ўразіла, што для Віктара Васільева "вызначальнае" пытанне апошніх дзесяцігоддзяў ("Ці існуе беларускае кіно?") калі і стаіць, дык стаіць таксама рэалістычна. Без экстрэмізму. "— Крызіс? — Так. — У кіно? — У кіно. — Ніякага крызісу ў сітуацыі з кіно няма і быць не можа".

**— Але ж гэта амаль агульнапрызнана.**

— Таму што кожны тут адстойвае свае інтарэсы, толькі не інтарэсы гледача, на жаль. Сапраўды, ёсць пытанні, якія патрэбна вырашаць "у працоўным парадку", — іх вырашае кіраўніцтва кінематаграфіі. А "крызіс", па вызначэнні, — гэта што? Калі няма штату, няма дысцыпліны, няма рамонту, нічога не ствараецца — ні ігравога кіно, ні анімацыйнага, ні дакументальнага — вось крызіс. Асобныя яго праявы — напрыклад, крызіс кадраў — сапраўды, ёсць. Але гэта не крызіс увогуле, гэта этап развіцця — этап гліны, так бы мовіць. Трэба прайсці "гліну", каб дабрацца да "чыстай вады". Разумееце?

**— Я разумею, але грамадскасць — прэса, крытыкі, навукоўцы, асобныя гледачы — усе спрэс дэкларуюць…**

— Справа ў тым, што цяпер каго ні запытай — усе ўсё ведаюць. І дэкларуюць направа-налева. Будуюць становішча, якое ім пасуе. Кіно ў занепадзе — чаго вы чакаеце ад крытыкі? Ей няма чаго аналізаваць. Чаго вы чакаеце ад кінадзеячаў? У іх няма ўмоў для творчасці. Чаго вы чакаеце ад гледача, якой культуры? Ім жа няма чаго глядзець. Яшчэ раз паўтараю: беларускае кіно сёння — гэта месіва гліны. Сырэц! Вось гэта самае трапнае слова.

(Заканчэнне на стар. 4.)

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прызначыў міністрам культуры Беларусі Барыса Святлова. З 2008 года Барыс Уладзіміравіч працаваў на пасадзе рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне Алеся Карлюкевіча дырэктарам — галоўным рэдактарам рэдакцыйна-выдавецкай установы "Выдавецкі дом "Звязда".

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў глыбокія спачуванні ў сувязі са смерцю народнай артысткі СССР Галіны Вішнеўскай яе родным, блізкім і калегам.

✔ На сустрэчы з членамі Клуба галоўных рэдактараў дзяржаў СНД, Балтыі і Грузіі Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка выказаў свой погляд на ролю сродкаў масавай інфармацыі. Так, СМІ не павінны насаджаць аднамернае бачанне свету, а павінны арганізаваць паўнавартасны дыялог людзей і ўлады, служыць індыкатарам настрояў у грамадстве, перашкаджаць пранікненню дэструктыўных ідэй.

✔ У Гродне на гэтым тыдні прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Нацыянальны гонар Беларусі" да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, якая сабрала навукоўцаў, краязнаўцаў і супрацоўнікаў музеяў і бібліятэк з Беларусі, Польшчы, Латвіі ды іншых краін.

✔ 18 — 19 снежня ў Магілёве адбудзецца рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Археалогія, этнаграфія і гісторыя Магілёўшчыны і Верхняга Падняпроўя". Акрамя даследчыкаў з рэгіёнаў Беларусі ўдзел у ёй возьмуць спецыялісты з Ізраіля.

✔ Сёння ў Маскве ў беларускім павільёне Усерасійскага выставачнага цэнтра адкрываецца экспазіцыя "Народныя мастацкія промыслы Беларусі. Гісторыя і сучаснасць", якая дапаможа ўявіць побыт беларускіх сялян у XIX — XX стагоддзях.

✔ Каляндар турыстычных падзей наступнага года складзены ў Беларусі. Увайшло ў яго каля ста самых арыгінальных мерапрыемстваў, цікавых для гасцей краіны і саміх беларусаў.

✔ Перасоўная выстаўка "Грашовая рэформа 1947 года", што адкрылася ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, прапануе рассакрэчаныя ў 1990-х гадах дакументы фонду Міністэрства фінансаў СССР. Яны раскрываюць падрыхтоўку і механізм правядзення рэформы.

✔ XXV Міжнародны фестываль класічнай музыкі "Студзеньскія музычныя вечары" пройдзе ў Брэсце з 8 па 12 студзеня і аб'яднае артыстаў з 25 краін свету — усяго каля 700 музыкантаў і выканаўцаў. Праграма фестывалю абяцае шмат сюрпрызаў і навінак.

Падрыхтавала
**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

## Незабыўнае

# «Біце ў сэрцы іх!..»

**Сёлета ў літаратурным свеце Беларусі багата юбілеяў, за якімі губляюцца іншыя, не менш значныя даты. Напрыклад, дзень народзінаў любімага намі Кніжніка — паэта Максіма Багдановіча.**

**Анастасія ГРЫШЧУК**

9 снежня 1891 года ў Мінску ў сям'і настаўніка Адама Багдановіча і былой яго вучаніцы Марыі Мякоты нарадзіўся хлопчык Максім, які стаўся класікам беларускай літаратуры і вывеў нашае прыгожае пісьменства на еўрапейскі ўзровень. Памяць вялікага паэта ўшанавалі 9 снежня ўрачыстым ускладаннем кветак.

Каля помніка Багдановічу сярод іншых былі Навум Гальпяровіч, паэт, галоўны дырэктар радыёстанцыі "Беларусь"; прафесар і літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша; Эдуард Агуновіч, аўтар канцэпцыі экспазіцыі ў Літаратурным музеі імя М. Багдановіча; старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп; актрыса і кіраўнік тэатра "Зьніч" Галіна Дзягілева і дырэктар Літаратурнага музея імя М. Багдановіча Таццяна Шэлягові.

Максім Багдановіч не пакінуў прамых нашчадкаў, але род Багдановічаў працягваецца. Ушанаваць памяць далёкага родзіча прыйшлі Вольга Дашкоўская і Валерый Кормаз, чыя прабабуля была стрыечнай сястрой дзеда паэта. Пра сваяцтва яны даведаліся гадоў 15 таму.

— Я інжынер, сястра — медык. Мы размаўляем па-руску, так склалася, але вельмі прыемна быць тут і чуць прыгожую, — роднюю! — беларускую мову.

Пра значэнне творчасці Максіма Багдановіча хораша сказаў Вячаслаў Рагойша:

— Калісьці ўкраінскі паэт Паўло Тычына назваў Купалу першай вяршыняй Эльбруса беларускай паэзіі. Другая вяршыня — Колас. Калі гэтую метафару перанесці на сённяшняе свята, мы будзем гаварыць пра альпійскі Трыглаў, вяршынямі якога стануцца Купала, Колас — і Багдановіч. Кожны з вялікіх людзей пакідае нам, нашчадкам, вялікі вопыт, з якога мы мусім пераняць тры значныя моманты. Першы — працавітасць. Максім пражыў толькі 25 гадоў, пры гэтым цяжка хварэў і тым не менш пакінуў па сабе такую творчую спадчыну, якой хапіла на тры тамы. Другі запавет — патрыятызм. Максім апынуўся ў Ніжнім Ноўгарадзе, калі яму было пяць гадоў, вырас там, адарваны ад радзімы і беларускай мовы, — і стаў класікам беларускай літаратуры. І трэцяе — аптымізм. Багдановіч памёр у маі 1917-га, за паўтара года да стварэння першай беларускай дзяржавы, хоць бы і ў складзе СССР. Але ён заўсёды верыў, што Беларусь стане незалежнай і моцнай краінай. І ўсё, што б ні рабіў, рабіў для Беларусі і беларускага народа.

Навум Гальпяровіч нагадаў запавет Багдановіча, які пакінуў ён нам у вершы "Пагоня":

*Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць...*

## Свет фантазіі



*Кацярына Хадасевіч-Лісавая і яе чытачы.*

# Пасябраваць з кнігай

**Кіра МУРАЎСКАЯ,**
**фота Кастуся Дробава**

Другая спецыялізаваная выстаўка-кірмаш дзіцячай кнігі "Книжки в штанишках" у Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі давяла, што дзіцячая літаратура ў нашай краіне ёсць, што дзеці ўсё яшчэ хочуць гартаць старонкі сапраўдных, а не электронных выданняў, аднак...

...Кнігу і дзіця сёння трэба прыводзіць адно да аднаго: пазнаёміць, зацікавіць, даць магчымасць пабачыць яе аўтара, каб у выніку пертварыць працэс чытання ў захапляльнае падарожжа ў свет фантазіі. Вопытам на прагу пяці выставачных дзён дзяліліся і айчынныя творцы, і калегі-пісьменнікі з Расіі, але галоўная роля на свяце кнігі належала маленькім чытачам. І пакуль дарослыя літаратары праводзілі семінары і дэбаты, прысвечаныя важнасці дзіцячага чытання і працы бібліятэк для дзяцей, наведвальнікі выстаўкі дашкольнага і школьнага ўзросту слухалі, гулялі, танчылі і спявалі, гулялі і нават уласнаручна стваралі кнігі!

У кірмашы ўдзельнічалі і выдаўцы з Расіі і Беларусі: Выдавецтва Дзмітрыя Харчанкі, Выдавецтва Марыны Волкавай, "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі", РВУ "Выдавецкі дом "Звязда", "Пачатковая школа" ды іншыя, свае стэнды падрыхтавалі таксама Саюз пісьменнікаў Беларусі, "Белкніга" і Мінскае духоўнае вучылішча. На кожным адбываліся прэзентацыі, аўтограф-сесіі, вікторыны і творчыя майстэрні. Дзеці зацікаўлена гарталі старонкі каляровых выданняў. Бацькі і бібліятэкары радаваліся магчымасці пакамунікаваць і зрабіць выбар на карысць самага цікавага і карыснага чытання.

А на галоўнай сцэне юных вершатворцаў на вясёлы ўрок паэзіі запрасіў дзіцячы пісьменнік Андрэй Смятанін, фея-казачніца Кацярына Хадасевіч-Лісавая загадвала загадкі, частавала цукеркамі і пакідала свае чарадзейныя візітоўкі з аўтографамі, артысты тэатра і кіно выконвалі ўрыўкі з кніг, аўтары з абедзвюх краін знаёмілі чытачоў са сваімі героямі, пераможцы фестывалю дзіцячага чытання атрымлівалі ўзнагароды... Знаёмства з кнігай атрымалася, а значыць, напярэдзе доўгае сяброўства!

# Заява

Саюз пісьменнікаў Беларусі падтрымлівае сусветную супольнасць, што паўстала на абарону кубінскіх змагароў з міжнародным тэрарызмам: Херарда Эрнандэса, Рамона Лабаньіна, Антоніа Герэра, Фернанда Гансалеса і Рэнэ Гансалеса, якія па сфабрыкаванай справе ўтрымліваюцца ў турмах ЗША. Арыштаваныя ў верасні 1998 года ў Маямі, яны па сёння знаходзяцца ў зняволенні. Паводле надуманага абвінавачвання яны нібыта займаліся шпіянажам супраць ЗША і мелі на мэце здзяйсненне забойства. Аднак на самай справе іх віна толькі ў тым, што яны праводзілі маніторынг дзейнасці арганізацый і груп, замешаных у тэрарыстычнай дзейнасці супраць Кубы.

Не сакрэт, што менавіта ў штаце Маямі сканцэнтраваны выхадцы з Кубы, якія пастаянна здзяйсняюць правакацыі супраць Вострава Свабоды. І мы разумеем занепакоенасць кіраўніцтва Кубы ў справе забеспячэння ўласнай бяспекі.

Пісьменнікі абураныя тымі тэрмінамі, на якія былі асуджаны грамадзяне Кубы, а таксама тэрмінам разгляду апеляцыйнай скаргі, што склаў амаль 9 гадоў.

Нас здзіўляе і абурае, што Вярхоўны суд ЗША заявіў, без тлумачэнняў, пра сваё рашэнне не разглядаць справу кубінскай пяцёркі, нягледзячы на сур'ёзныя аргументы, прад'яўленыя адвакатамі да парушэнняў закона, якія адбываліся на працягу ўсяго судовага працэсу.

Дзесяць лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі паўсталі на абарону кубінскай пяцёркі. Рабочая група ААН выказала сваё меркаванне па адвольным затрыманні грамадзян пасля вывучэння доказаў, прад'яўленых як сем'ямі затрыманых, так і кіраўніцтвам ЗША. Рабочая група ААН прыйшла да высновы, што пазбаўленне волі было беспадстаўным, і заклікала Вашынгтон прыняць неабходныя меры для ўрэгулявання гэтага незаконнага акта.

Члены творчага саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь звяртаюцца да Прэзідэнта Злучаных штатаў Амерыкі спадара Барака Абамы з просьбай выкарыстаць сваё канстытуцыйнае права і пакласці канец абуральнаму беззаконню, праявіць увагу і павагу да міжнароднай грамадскай думкі. На жаль, судовая сістэма ЗША па сёння не паказала сваёй здольнасці адрозніць сапраўдную барацьбу з тэрарызмам ад імкнення дзяржавы абараніць сваіх грамадзян ад гэтага самага тэрарызму.

**Прэзідыум**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі

**ЗАВАЦКАЯ**
***Жанна Яўгенаўна***
*Паэтэса*



Нарадзілася 10 верасня 1963 года ў г. Пінску Брэсцкай вобласці. Скончыла Мінскі інстытут культуры па спецыяльнасці "Бібліятэказнаўства". Працуе галоўным бібліятэкарам Пінскай гарадской цэнтральнай бібліятэкі.

Вершы друкаваліся ў маскоўскім часопісе "Братина", часопісе "Нёман" і іншых беларускіх выданнях, увайшлі ў анталогію "Современное русское зарубежье" (Масква).

**ЗЯЛКОЎСКІ**
***Яўген Фаміч***
*Паэт*



Нарадзіўся 21 верасня 1933 года ў в. Мілашы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў курсы мастацкага афармлення і працаваў мастакам-афарміцелем. Аўтар кніг "З вамі сэрца маё" (2006), "Заручыны" (2007), "Ручаіны" (2009), "Што кранула душу"(2010).

**СЯЗЁМІН**
***Дзмітрый Юр'евіч***
*Паэт*



Нарадзіўся 31 студзеня 1973 года ў г. Шэлехаў Іркуцкай вобласці (Расійская Федэрацыя). Скончыў Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут. Працуе педагогам у Доме дзіцячай і юнацкай творчасці "Эверэст".

Друкаваўся ў газетах "Магілёўскія ведамасці", "Зямля і людзі". Займаў прызавыя месцы ў абласных літаратурных конкурсах, прысвечаных К. Сіманаву і Ю. Гагарыну.

У 2011 годзе выйшла першая кніга вершаў "Вечное и земное".

*Літабсягі*

# І на хіндзі, і па-кітайску

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы пры падтрымцы Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь запрасіў на літаратурны вечар “Янка Купала ў дыялогу культур”.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

У сёлетні юбілейны год, калі адзначаецца 130-годдзе з дня нараджэння Песняра, музей праводзіць грамадска-культурную акцыю “Чытаем Купалу разам”, асноўная мэта якой — аб’яднаць людзей жывым і мілагучным словам класіка. Больш як сем тысяч чалавек атрымалі магчымасць дакрануцца да высокай паэзіі Янкі Купалы.

Акцыя бачыцца лагічнай і абгрунтаванай і ў дачыненні да замежнікаў, бо знаёмства з беларускай культурай для многіх прадстаўнікоў іншых народаў пачынаецца менавіта з Купалавых твораў, у якіх увасобілася душа нашага народа. Пясняр далучыў айчынную культуру да сусветнай, дзякуючы яго творчасці пра Беларусь ведаюць далёка за межамі нашай краіны. Творы Купалы перакладзены амаль на 100 замежных моў. Адзін толькі верш “А хто там ідзе?” гучыць на 84 мовах свету.

Менавіта на гэта звярнула ўвагу Алена Ляшковіч, дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы, выступаючы на пачатку імпрэзы. Яна адзначыла сімвалічны факт: сёлета Год кнігі ў музеі адкрываў тагачасны міністр культуры Павел Латушка. А цяпер яму было прадастаўлена слова як прызначанаму Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Беларусі ў Францыі. У сваёй сціслай прамове Павел Паўлавіч падкрэсліў, што пераклад верша “А хто там ідзе?” на французскую мову стаў адным з першых у свеце. А таксама паведаміў, што ўжо пачаў вучыць “Бандароўну” на мове Бальзака і Гюго.

На літаратурны вечар былі запрошаны прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, акрэдытаваныя ў Рэспубліцы Беларусь, якія прачыталі вершы Купалы на сваіх родных мовах. Сярод іх Надзвычайныя і Паўнамоцныя Паслы Індыі, Сербіі, Францыі, В’етнама, Чэхіі і Славакіі, часовыя паверaныя ў справах ЗША, Вялікабрытаніі, Таджыкістана і Малдовы, саветнік-пасланнік пасольства Германіі, першыя сакратары пасольстваў Кітая, Венесуэлы, Грузіі, трэція сакратары пасольстваў Турцыі і Казахстана. А таксама магістрантка БДУ Сіоры Кіосава, сябра пасольства Японіі. Цікава, што Марыян Сэрватка, пасол Славакіі і літаратар, прачытаў купалаўскі верш ва ўласным перакладзе.



*Уласны пераклад чытае Марыян Сэрватка.*

*Арт-лінія*

# Святло як сэнс быцця

Паглядзець на творы беларускіх і замежных мастакоў, якія прапагандуюць ідэі міру і ненасілля ў выяўленчым і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, народных рамёствах, можна ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, дзе ўрачыста адкрыўся мастацкі праект “Майстар-міратворца 2012”. Ініцыятарам і арганізатарам яго з’яўляецца Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Саюз майстроў-міратворцаў «Святло»”.

**Алеся АРЫЦКАЯ**

— Ідэя праекта — высокая і прыгожая, — адзначыла старшыня Саюза майстроў-міратворцаў “Святло” Іларыя Вечар. — Ён зарадзіўся не так даўно, у 1999 годзе, і паступова перарос у саюз “Святло”. Гэтае найменне ўключае ў сябе паняцці, якія фарміруюць глыбокі сэнс жыцця і ніколі не стануць утопіяй — дабро, любоў, узаемападтрымка. Для кожнага майстра, які праз сваю творчасць імкнецца да раскрыцця, святло вельмі важнае, як і для кожнага чалавека, які нарадзіўся на свет. Гэта менавіта тое, што аб’ядноўвае нас усіх.

Удзельнікі праекта: Анастасія Арайс, Аляксандра Дзятлава, Уладзімір Кожух, Дзмітрый Зайцаў, Іларыя Вечар, Ігар Адамовіч, а таксама Гуніла Пэтаў Шоберг (Швецыя), Людміла Бруевіч (Украіна), Валянціна Будзіна (Расія).

Галоўную ідэю выстаўкі мастакі імкнуцца данесці да гледачоў праз асабісты погляд на свет і глыбокія асабістыя ўражанні, эмоцыі, адчуванні. Кожную секунду ў свеце штосьці змяняецца, але зменлівасць бывае і на энергетычным узроўні. Вось толькі адчуць яе можна падсвядома альбо зразумець ва ўсёй цеснай узаемасувязі з навакольным светам. Такі стан можна ў нейкай ступені параўнаць са станам медытацыі, з тым толькі адрозненнем, што чалавек не сыходзіць у сябе, але застаецца ў рэальным свеце і на іншых, дадатковых, каналах. З іх дапамогай і атрымліваецца ўлавіць рух жыцця, якое не бачна нашаму воку. У творах глядач пабачыць і міфалогію, і паэтыку, і сакральнасць.



*У. Кожух “Галубка”. Палатно, алей.*

Прадстаўленыя работы экспазіцыі выкананы ў самых розных тэхніках: гэта жывапіс, графіка, скульптура, розныя інсталяцыі, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва вырабы рамеснікаў, якія працягваюць беларускія народныя традыцыі, сыходзяць каранямі ў глыбіню вякоў.

*Повязі*

# Казахстан у «Цэнтральным»

Тыдзень казахстанскага кіно, прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Казахстан, праходзіць у кінатэатры “Цэнтральны”. У праграму паказаў увайшлі фільмы рознай тэматыкі, якія адлюстроўваюць як гістарычнае мінулае краіны, так і сучасную культуру, жыццё казахстанскага народа.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

— Адносіны нашай краіны з Рэспублікай Беларусь паступова напаўняюцца добрым зместам, мы распачалі супрацоўніцтва праз культурныя і адукацыйныя праекты. Аднак, каб беларусы даведаліся больш пра гісторыю Казахстана, культуру яго народа, мы вырашылі правесці тыдзень казахстанскага кіно ў Мінску, — распавёўшы пра змест кінапраграмы, зазначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Беларусі Ергалі Булегенаў.

Тыдзень казахстанскага кіно адкрыўся кінадрамай “Неба майго дзяцінства” Рустэма Абдрашова пра дзяцінства першага Прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева, створанай паводле яго літаратурных успамінаў “Без правых і левых”, “У цэнтры Еўразіі” і інш. Фільм, зняты ў 2011 годзе на кінастудыі “Казахфільм”, распавядае пра станаўленне асобы і характару будучага прэзідэнта, яго першыя расчараванні і перамогі, надзеі і мары.

Паказы народных драм “Жеруйык” (2011) Сламбека Таўекела і “Бывай, Гульсары!” (2008) Ардака Амірkулава, а таксама культавай кінастужкі “Падарунак Сталіну” (2008) Рустэма Абдрашова, якая атрымала Гран-пры першага міжнароднага кінафестывалю “Усход&Захад. Класіка і Авангард” і адкрывала XIII Пусанскі кінафестываль у Карэі, была прадстаўлена на Берлінскім і Канскім кінафестывалях, ужо адбыліся, аднак магчымасць паглядзець сапраўднае казахстанскае кіно ў кінатэатры яшчэ ёсць: сёння будзе дэманстравацца моладзевая драма “Сказ пра ружовага зайца” (2010) Фархата Шарыпава, заўтра — гістарычная драма “Кыз-Жыбек” (1970) Султан-Ахмета Ходжыкава. За аснову фільма ўзята народная легенда “Кыз-Жыбек”, якая распавядае пра далёкае мінулае і адносіцца да эпасу XVI — XVII стст., калі казахская зямля пакутавала ад міжусобных войнаў і разладаў. Падзеі разгортваюцца вакол галоўных герояў — “Рамэа” і “Джульеты” народнага эпаса Казахстана — маладога Тулегена, які палюбіў прыгажуню Жыбек, прадстаўніцу варожага роду. На полі бою Тулеген братаецца з батырам з роду Жыбек — Бекажанам, які сам мае віды на дзяўчыну і выношвае планы перашкодзіць вяселлю закаханых. Усе фільмы дэманструюцца на рускай мове.



*Кадр з фільма “Кыз-Жыбек”.*

Сімвалічна, што Тыдзень казахстанскага кіно праходзіць у юбілей 20-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Казахстан.

*З-пад пяра*

➤ Беларуская моладзь пацвердзіла сваю дасведчанасць у моўнай культуры. Навучэнка 11 класа ліцэя БДУ Вікторыя Мігуля атрымала Дыплом I ступені за перамогу ў намінацыі “Гісторыя мовы як гісторыя культуры народа” на Міжнароднай пецярбургскай алімпіядзе па рускай мове і культуры для школьнікаў краін СНД і Балтыі. І яшчэ дзве ўдзельніцы з нашай краіны атрымалі дыпломы алімпіяды ў намінацыі “Мова ў літаратуры”: Святлана Алейнікава — за 1-е месца і Ірына Жэрко — за 3-е месца. Такім чынам, беларускі прадэманстравалі свае веды і ў прыгожым пісьменстве, і ў літаратуры: класічнай ды сучаснай. Як паведамляе прэс-служба БДУ, у спаборніцтве гуманітарыяў узялі ўдзел школьнікі з 12 краін-удзельніц СНД.

**Рыта СТАХ**

➤ Сямнаццаць пераможцаў конкурсу “Якуб Колас з намі ў XXI стагоддзі”, што праходзіў цягам усяго бягучага года, былі ўганараваны на святочнай імпрэзе, якая адбылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Арганізаваны Фундаментальнай бібліятэкай БДУ, Саюзам жанчын БДУ і Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Песняра, конкурс быў прымеркаваны да 130-годдзя з дня нараджэння класіка. Удзел у ім узялі студэнты БДУ — філалагічнага, юрыдычнага факультэтаў, факультэта міжнародных сувязей і Інстытута журналістыкі.

**Алеся БАЦЮСЬ**

➤ На гэтым тыдні ў аматараў аповедаў пра жыццё была цудоўная магчымасць пабываць на прэзентацыі кнігі менавіта такога кшталту. Гэта “Палескія былі Івана Супрунчыка”, альбом-манаграфія мастацтвазнаўцы Вольгі Лабачэўскай і фотамастака Георгія Ліхтаровіча. Высока ацаніў выданне, што пабачыла свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”, прафесар, доктар мастацтвазнаўства Рыгор Шаура.

**Арцём ВАСІЛЕВІЧ**

➤ Калядны “Джазавы мост” абяцае падараваць слухачам самыя станоўчыя эмоцыі ад чароўных гукаў музыкі. На сцэне Палаца Прафсаюзаў зоркі італьянскага джаза “Kekko Fornarelli Trio” і мэтры беларускага джаза — гурт “Яблычны чай”. Канцэрт у Мінску пройдзе ў межах Еўрапейскага тура, у якім музыканты трыа прадстаўляюць свой новы альбом “Room of Mirrors”. “Kekko Fornarelli Trio” даводзілася выступаць практычна на ўсіх аўтарытэтных фестывалях Еўропы. Музыканты арыгінальна інтэрпрэтуюць класікаў джаза, ствараючы незвычайна прыгожую каляровую гармонію пры дапамозе акустычных інструментаў і электронных элементаў, сучасных паўночна-еўрапейскіх ідэй і некласічнага лірызму. Нездарма іх называюць рамантыкамі ад джазу.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

➤ У Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна адкрыты тыфлакуток для слабабачачых і сляпых людзей. Ён складаецца з машынкі, якая чытае, і камп’ютарнага абсталявання, якое прадастаўляе доступ да інтэрнэту. Машынка аўтаматычна скануе і чытае друкаваны матэрыял на 18 мовах. Для слабабачачых маецца магчымасць падключэння да манітора для павелічэння шрыфту, а таксама да дысплея шрыфту Брайля.

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

# Ніякага крызісу

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)

**— Але ж беларускае кіно ўжо было — і зусім не "сырое": у 60-я, 70-я, 80-я гады?**

— Так. Вось мы з вамі цяпер на кінастудыі "Беларусьфільм". У пэўны час сюды прыйшлі вельмі дасціпныя, адукаваныя, таленавітыя людзі. Яны шанавалі краіну і яе гледача. Гэты час нарадзіў "дзіця" — беларускае кіно. "Дзіця" вырасла, эмансіпіравалася ад бацькоў — пайшло "на свой хлеб". Цяпер змагаецца за сваю самадастатковасць і годнасць. З цягам часу з яго штосьці выйдзе.

**— Магчыма, вы назавяце найбольш перспектыўных майстроў?**

— Не хацеў бы выдзяляць кагосьці асобна, бо іх насамрэч шмат. Гэта абнадзейвае. Абнадзейвае і тое, што ідзе рэканструяванне кінастудыі, што фарміруецца рэкламны аддзел. Паціху наладжваецца праца. Паціху. А мы часцяком хочам усё адразу. Трэба даць магчымасць працаваць — без прэсу.

**— Толькі што быў шырока адзначаны 90-гадовы юбілей легендарнага кінакрытыка Ефрасінні Бондаравай. Гэта стала нагодай актыўных дыскусій наконт ролі і месца крытыкі ў развіцці мастацтва ўвогуле і кінамастацтва ў прыватнасці. У інстытуце журналістыкі БДУ адбыўся цэлы навуковы форум, прысвечаны гэтым пытанням. Як лічыце асабіста вы: ці патрэбная крытыка і што яна значыць для кіно?**

— Крытыка, безумоўна, патрэбная. Вось вы мне скажыце: ці патрэбныя, прыкладам, чыноўнікі? Мы ж і самі можам пайсці да ўлады са сваімі патрэбамі, паперамі. Але што гэта будзе?.. Чыноўнікі — пасрэднікі, яны фільтруюць нашы ініцыятывы і патрэбы. І прызначаны на іх пасады не абы-хто. Таксама і крытыкі, і кінакрытыкі. Як я даведаюся праўду наконт таго, што раблю? Мне патрэбная ацэнка "збоку" — адтуль, як вядома, "відней". Зразумела, гэта павінна быць прафесійная ацэнка. Не знішчальная — канструктыўная. Каб, не руйнуючы, накіроўвала ў патрэбны бок. Крытыка неабходная і гледачам: як яны даведаюцца, што варта найбольшай увагі, а што ўвогуле не варта ніякай?..

**— Цяпер раскажыце, калі ласка, пра асноўныя кірункі працы Саюза.**

— Галоўнае — клапаціцца пра людзей. Пра тых, хто з'яўляюцца носьбітамі творчых зярнятак, парасткаў будучыні беларускага кіно. Зрэшты, чым жыве чалавек? Ён жыве верай у іншага чалавека. Верай у паразуменне і прызнанне. У кожнага свой боль. Свае цяжкасці. Асабліва цяжка пенсіянерам, людзям, якія ўжо не працуюць з намі побач. Важна паказаць, што яны дагэтуль запатрабаваныя. Уявіце: яго не забылі, узгадалі, знайшлі, патэлефанавалі, запрасілі. Дапамаглі. Так, у тым ліку — грашыма.

**— Крыніцы фінансавання Саюза, відаць, небагатыя?..**

— Сродкі — ад членскіх узносаў, ад спонсараў. Часам, калі маю добрыя здымкі, дапамагаю сам. Не падумайце, аднак, што Саюз кінематаграфістаў — гэта штосьці накшталт камітэта матэрыяльнай дапамогі. Дапамога можа быць і арганізацыйная — дапамога "маладым": "прасунуць" праект, асабліва сацыяльна значны. Знайсці пагадненне з вышэйшым кіраўніцтвам. Увогуле — быць пасрэднікамі паміж дзяржавай і творчымі людзьмі. Не ўсё яшчэ атрымліваецца. Але нічога — паступова вучымся. Прыкра і цяжка, што ў грамадскага Саюза няма прававой базы, каб зарабляць грошы. Без грошай кожны пачувае сябе бездапаможным. Часцяком усе твае сардэчныя парыванні стукаюцца аб глухую сцяну адсутнасці грошай. Таму, уласна кажучы, на сваім месцы я бачу іншага чалавека. Такога, які мае грошы і ўладу. Асабіста я не прымаю палітыку капіталізму, але разумею, што савецкіх парадкаў ужо не будзе, што трэба прыстасоўвацца да сучаснага ладу.

**— Ці існуюць па-ранейшаму грамадскія творчыя праекты, якія ладзіць Саюз?**

— Па-першае, гэта ўсе дзіцячыя святы ў Доме кіно. Праводзячы іх, мы імкнёмся закласці ў дзяцей дух дабрыні, спагады. Дарэчы, дапамагаем часам дзіцячым дамам "бясплатнымі" Дзядамі Марозамі. У Доме кіно ладзім дзіцячы кінафестываль "Сакавічок". Праводзім творчыя сустрэчы з акцёрамі і рэжысёрамі фільмаў для дзяцей і для юнацтва. У рамках кінафестывалю "Лістапад" арганізуем прэзентацыі беларускіх фільмаў (апошнім разам — "Украсть Бельмондо" і "Небо везде одинаково"). Ладзяцца кінапаказы да Дня інтэрнацыяналістаў і абаронцаў Айчыны. Памяці чарнобыльскай трагедыі — кінапраект "Чарнобыльская малітва". Даніна памяці Вялікай Айчыннай вайне — падборкі кінастужак "Памяці вогненных гадоў". Яшчэ адзін праект пры Доме кіно — "Палітра памяці", прысвечаны Леаніду Нячаеву. Падтрымліваем арганізацыю праекта "КіноАрт па-беларуску" — гэта шырокі паказ-фестываль курсавых і дыпломных кінастужак студэнтаў і выпускнікоў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтва.

**— Што ж, гэта ўражвае. Ініцыятывы Саюза не толькі не ўзанападзе, а нават на ўздыме — у першую чаргу, што датычыць камунікацыйных стасункаў з грамадствам, з моладдзю. А якім чынам здзяйсняецца прадстаўнічая місія Беларускага саюза кінематаграфістаў за межамі краіны?**

— Так, гэта значная частка працы. Мы падтрымліваем цесныя сувязі з расійскімі калегамі. Праводзім сустрэчы дэлегацый нацыянальных саюзаў у Мінску, удзельнічаем у адпаведных сустрэчах за мяжой. Бяром удзел у журы міжнародных кінафестываляў і конкурсаў. Бліжэйшая шырокая міжнародная ініцыятыва — святкаванне Дня беларускага кіно 17 снежня. Дарэчы, гэта таксама "другі этап" адзначэння юбілею Саюза. Запрашаем і "ЛіМ"!

# Народныя паэт і міністр

## З гісторыі стасункаў Якуба Коласа і Івана Інсарава

**На працягу апошняга дзесяцігоддзя на "Каласавінах" актыўна распрацоўваецца тэма "Акружэнне Якуба Коласа". Сёлета мне выпаў гонар распавесці пра новыя рукапісныя дакументы песняра, якія знаходзяцца ў прыватным архіве Наталлі Інсаравай, дацэнта кафедры медыцынскай і біялагічнай фізікі Беларускага медыцынскага ўніверсітэта, дачкі Івана Анісімавіча Інсарава, выдатнага арганізатара аховы здароўя Беларусі, заслужанага ўрача БССР. Я шчыра ўдзячна Наталлі Іванаўне і маёй маці Аляўціне Міцкевіч, менавіта пры іх спрыянні архіўныя дакументы выходзяць у свет.**

**Вера МІЦКЕВІЧ**

Звернем увагу на адрасата Якуба Коласа. Іван Інсараў — цёзка па прозвішчы знакамітага тургенеўскага персанажа — нарадзіўся 8 лютага 1903 года ў сялянскай сям'і ў в. Селішча Слуцкага павета. Пасля заканчэння медыцынскага факультэта БДУ ў 1927 годзе працаваў урачом у в. Магільнае Уздзенскага раёна, быў армейскім урачом, загадваў Барысаўскай амбулаторыяй і працаваў у гарадской клініцы. З 1937 па 1941 год — у Мінску, урач-ардынатар, загадчык неўралагічнага стацыянара Беларускага навукова-даследчага інстытута фізіятэрапіі, артапедыі і неўралогіі. Падчас Вялікай Айчыннай вайны кіраваў эвакашпіталямі, узначальваў санітарную службу Беларускага штаба партызанскага руху. Па ваенна-медыцынскай тэматыцы Іванам Інсаравым была абаронена і кандыдацкая дысертацыя. У 1948 — 1966 гадах ён займаў пост міністра аховы здароўя БССР. Па сутнасці на працягу гэтых 18 гадоў быў народным міністрам, які адраджаў з попелу такую жыццёва неабходную галіну ў грамадстве. Былі запатрабаванымі яго ініцыятыўнасць, уменне вырашаць складаныя задачы. Да гэтага трэба дадаць патрабавальнасць як да сябе, так і да падначаленых, тактоўнасць, чалавечнасць і дабрыню. У 1951 — 1967 гадах Іван Інсараў абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, у 1953 — 1966-м — у ЦК КПБ. Па ініцыятыве Івана Анісімавіча на дзяржаўным узроўні было прынята рашэнне пра будаўніцтва Рэспубліканскай клінікі ў Бараўлянах, якое пачалося ў 1960-х гадах. Так быў утвораны цэлы клінічны гарадок цяперашняй Мінскай абласной клінічнай бальніцы. Многія медыцынскія работнікі рэгіёна выказвалі слушную думку пра прысваенне імя Івана Інсарава дадзенай установе.

Шляхі-дарогі Івана Інсарава і Якуба Коласа перасякаліся ў пасляваенны час: і на дзяржаўным узроўні, і па-сяброўску, і навят па схеме "ўрач-пацыент". Асабіста мне бачыцца, што гэта супрацоўніцтва адбывалася на роўных. І Колас, і Інсараў паходзілі з сялян, былі патрыётамі Бацькаўшчыны, займалі высокія дзяржаўныя пасты. У пасляваенны час прыклалі шмат намаганняў, каб Беларусь хутчэй адрадзілася і загаіла раны. Да Якуба Коласа як да народнага паэта і дэпутата звярталася шмат людзей з рознымі просьбамі, у тым ліку і па медыцынскіх пытаннях.

У асабістым архіве Песняра, што захоўваецца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, ёсць справаздачны ліст да яго як дэпутата ВС СССР на афіцыйным бланку Міністэрства аховы здароўя за подпісам Івана Інсарава пра ўладкаванне інваліда ІІ групы Айчыннай вайны ў Магілёўскі шпіталь інвалідаў і ліст-запрашэнне на Рэспубліканскую канферэнцыю хірургаў Беларусі ад яго ж.

Паводле ўспамінаў Наталлі Інсаравай, Іван Анісімавіч быў знаёмы і сябраваў з Якубам Коласам, Петрусём Броўкам, Анатолем Астрэйкам, акцёрамі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, выдатна ведаў беларускую і рускую літаратуры, любіў музыку.

У архіве Івана Інсарава знаходзяцца тры лісты Якуба Коласа. Два з іх напісаны на адрыўных лістках з блакнота дэпутата Вярхоўнага Савета СССР (умоўна назавём іх афіцыйнымі) і адзін неафіцыйны, напісаны фіялетавым чарнілам на нелінаванай паперы.

Ліст ад 5 жніўня 1954 года:

*«Тав. І.А. Інсараву*

*Дарагі Іван Анісімавіч!*

*Перасылаю Вам паступіўшую на маё імя заяву ўрача Г. А. Сакаловай. Прашу уважыць яе просьбу і назначыць урачом пры Мінскай абласной бальніцы.*

*З тав. прыв. Якуб Колас.*

*5 VIII 1954 г.»*

На жаль, асоба Г. Сакаловай і яе далейшы працоўны шлях засталіся пакуль што нявысветленымі.

Другі афіцыйны ліст Якуба Коласа да Івана Інсарава напісаны 4 лютага 1956 года.

*"Дарагі Іван Анісімавіч!*

*Вельмі прашу Вас аказаць дапамогу маёй сваячцы і зямлячцы Людміле Ўладзіміраўне Дземідовіч. Яна хворая туберкулёзам, яе трэба памясціць дзе-небудзь у адпаведнай бальніцы.*

*Не адмоўце ў маёй просьбе.*

*З тав. прыв. Якуб Колас.*

*4 II 1956 г."*

На той час ужо сам вельмі хворы Якуб Колас апякуецца здароўем стрыечнай 34-гадовай пляменніцы па лініі маці Ганны Юр'еўны Лёсік. Людміла Уладзіміраўна была дачкой стрыечнай сястры Якуба Коласа — Дземідовіч (Лёсік) Алены Пятроўны. Яна жыла ў вёсцы Сверынава Стаўбцоўскага раёна, працавала настаўніцай пачатковых класаў. Памерла амаль у 85-гадовым узросце.

Нарэшце цытую трэці ліст, датаваны 18 жніўня 1952 года:

*"Дарагі Іван Анісімавіч!*

*Звярачаюся да Вас з наступнага повадУ. Урач Сяргей Іосіфавіч Ліяранцэвіч працуе ўжо сорак гадоў. Гэта адзін з лепшых дактароў-практыкаў. А таму ці не варта падумаць, як адзначыць яго беззаганную працу ў якасці ўрача, тым болей што Ліяранцэвіч атрымлівае невысокую зарплату і жыве болей, чым скромна, і сам ён чалавек дужа скромны.*

*Буду вельмі ўдзячны Вам, калі Вы тым ці іншым спосабам паклапаціцеся адзначыць саракагоддзе плённай працы С. І. Ліяранцэвіча.*

*З тав. прыв. Якуб Колас.*

*18 VIII 1952 г."*

Якуб Колас турбаваўся лёсам доктара, які лячыў яго ў 1950-я гады. Сяргею Іосіфавічу паэт прысвяціў шмат вершаў і жартаў. Пра гэта і пра самога доктара апавядае ў артыкуле "«Кроплі і слёзы» Якуба Коласа" Міхась Міцкевіч ("Полымя", 2007, № 11).

Сяргей Ліяранцэвіч з 1945 года працаваў у Мінску тэрапеўтам, намеснікам галоўнага ўрача Рэспубліканскай клінікі, меў ганаровае званне Заслужанага ўрача БССР, быў узнагароджаны ордэнам Леніна, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі. Яго скульптурны партрэт работы народнага мастака БССР Андрэя Бембеля захоўваецца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея РБ.

Так склалася, што летам 1959 года Сяргей Ліяранцэвіч лячыў майго другога роднага дзеда — Цімафея Васілевіча Міцкевіча. Дыягназ і прагноз былі несуцяшальнымі — другі інфаркт ускладніўся гангрэнай нагі. Сяргей Іосіфавіч балюча перажываў, што дактары бяссільныя дапамагчы. За некалькі дзён да сваёй раптоўнай канчыны 5 жніўня 1959 года ён размаўляў з маёй бабуляй пра цяжкі стан дзеда. Цімафей Васілевіч памёр неўзабаве, 14 жніўня, у Рэспубліканскай клініцы.

Іван Інсараў браў удзел у некалькіх кансіліумах, калі былі крытычныя моманты стану здароўя Якуба Коласа. Адзін з такіх кансіліумаў пацвердзіў дыягназ вострага апендыцыту а 2-й гадзіне ночы 19 студзеня 1955 года. Аперацыя была паспяхова зроблена выдатным хірургам, заслужаным урачом БССР Мікалаем Іванавічам Бобрыкам. А сітуацыя сапраўды была крытычная: пацыента даставілі ў хірургічнае аддзяленне з падазрэннем на востры апендыцыт, узрост — 72 гады, поўны "букет" хранічных хвароб.

Іван Анісімавіч пасля выхаду на пенсію працаваў прафесарам у БДУ і аднachасова з'яўляўся галоўным рэдактарам часопіса "Здравоохранение Белоруссии", быў сябрам Саюза журналістаў БССР. У 1972 годзе ў 12-м нумары часопіса выйшаў артыкул Івана Анісімавіча пра народнага камісара аховы здароўя Беларусі ў 1921 — 1922 гадах Аляксандра Сянкевіча, сябра і паплечніка Якуба Коласа. Адзін з экзэмпляраў на пачатку 1973 года быў падпісаны Іванам Інсаравым музею Якуба Коласа, але па нейкіх прычынах застаўся ў аўтара. Гэты экзэмпляр па даручэнні Наталлі Інсаравай я перадала ў фонды музея.

# Настаўнік і бацька

Сёлета адзначаецца 150-годдзе з дня нараджэння знакамітага навукоўца, этнографа, грамадскага дзеяча — Адама Багдановіча.

**Людміла САСОНКА, галоўны захавальнік фондаў ДУ "Літаратурны музей М. Багдановіча"**

Пра выбітную асобу Адама Ягоравіча можам меркаваць зыходзячы з яго навуковых прац, у якіх заўсёды прысутнічае ўласнае стаўленне аўтара да разглядаемага пытання. Але шмат успамінаў, рукапісаў, эпісталярыяў да гэтага часу яшчэ не пабачыла свет. Сёння ёсць магчымасць праз даследаванне раней не друкаваных рукапісаў, якія знаходзяцца ў фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, па-новаму паглядзець на складаны жыццёвы лёс мэтанакіраванага, дзейнага, энергічнага творцы.

З успамінаў пад назвай "Из прошлого местечка Холопеничи" даведваемся, што з маленства жыццё Адама Ягоравіча было больш чым складаным: "Что касается моей особы, то не многие из моих современников могут похвалиться столь сложной биографией, как моя. То, что ныне является заурядным делом, как высшее образование для крестьян, то для моего поколения было делом исключительным, и оно приобреталось большею частью не прямым путём, из гимназии или реального училища в ВУЗ, а обходными либо побочными путями, — путём самообразования… я должен был учиться — и работать, добывая свой хлеб… Уже с 7 лет я должен был помогать семье в её домашних работах, а зимой, сверх того, посещать школу, где в то время учили самым примитивным способом, где Иван Игнатьевич Барковский, чернокудрый мальчик подросток, по прозванию Иван Баранок, был моим первоучителем, которому я, как и другие мои сверстники, обязан был усвоением механизма чтения по-русски и славянски, со слабыми начатками арифметики и письма на чёрных деревянных досках меловыми чернилами (слыхали ль вы, нынешние, про такой способ обучения письму? Нет, не слыхали). В 10 лет я уже ходил «у двор», в помещичью усадьбу сезонным рабочим, получал сначала 10 коп. в день, а потом, с годами, 15 коп. и даже дошел до 20. По зимам я ходил в школу, где заменил Ивана Баранка, и обучал ребят почти теми же методами, как и Баранок, но уже не бил линейкой «по лапам», однако исправно драл за уши. Учителя мне платили 10 руб. за зиму, — такую же плату, как, в своё время, получал и Иван Баранок, которому ученики были больше обязаны, чем диакону Томашевскому, числившемуся номинально учителем. Думаю, что и мне они были больше обязаны, чем учителям — пьянице Горяинову, Сайковскому и другим".

Такая ранняя настаўніцкая дзейнасць дала Адаму Ягоравічу шэраг перавag перад сваімі аднагодкамі. Справа ў тым, што ў яго руках апынуліся ключы ад бібліятэчнай "шкапы", дзе былі кнігі "черносотенно-реакционного характера с так называемой «обрусительской» тенденцией" кшталту "Вестника Западной России", творы Д. Петрушэўскага, "Рассказы про старые времена на Руси", зборнік М. Шчарбіны "Пчела", хрэстаматыя для дамашняга чытання ў славяна-грэчаскім стылі, выданні Сміранскага "Сто русских литераторов" і іншыя. А таксама там былі творы Д. Фанвізіна, А. Грыбаедава, А. Пагарэльскага.

Адам Ягоравіч згадваў: "Я не без пользы читал реакционные издания: реакционером я не стал, но оттуда я почерпнул многие сведения, которые сильно раздвинули мой кругозор и мою осведомлённость в вопросах прошлого. Ну, а такие сочинения, как отмеченные выше — дай бог всякому доброму, как говорят мои земляки". Адам Ягоравіч адзначае, што гэты "шкап" і звёў яго са шляху, наканаванага лёсам звычайнаму селяніну.

Але спачатку была спроба атрымаць прафесію, з дапамогай якой ён мог бы мець уласны заробак: "С 10 и до 16 лет включительно я метался, как и моя семья, между Холопеничами и Минском, где мой отец, повар по профессии, иногда обосновывался для заработка по своей части… Он тащил и меня туда в интересах выучки какому либо ремеслу, которое бы надёжно меня кормило. И в следствии этого я немало натерпелся разных невзгод и страданий, скитаний по чужим людям".

Спачатку Адам Ягоравіч хадзіў на працу ў майстэрні пры Мінскім дэпо Лібава-Роменскай дарогі. Тут ён "пристрастился" да працоўнага акружэння: "Здесь, в мастерских, и в той каторжной работе, которую я нёс в кондитерских, сложились мои народнические убеждения. Книга, газета и журнал способствовали их выработке. Им я отдавал всякую свободную минутку, беспощадно урывая время у сна. Книги и журналы я брал из частной библиотеки Городенского (Минск), а газеты выписывались в кондитерских: они были нечто вроде клубов… Сентиментальная литература, вроде "Хижины дяди Тома", "Антона-Горемыки", действовала на меня неотразимо, захватывающе, пробуждая горячее сочувствие к жертвам и ненависть к угнетателям. Стихотворения Некрасова, смерть которого падает на это время, и знаменитые песни Роберта Гуда, с которыми я познакомился случайно и выучил напамять, как почти всего Некрасова, действовали в том же направлении. Из "Обрыва" Гончарова и "Нови" Тургеневской я получил понятие о революционном мире, а статья Добролюбова о Роберте Оуэне явилась первой основой моего социалистического миросозерцания. Надо ли говорить, что за отсутствием руководителя всё это я находил случайно, среди многого другого совершенно бесполезного, руководствуясь случайными заметками в газетах или читаемых книгах".



*Адам Багдановіч з жонкай і дзецьмі.*

Работа ў майстэрнях дэпо скончылася, і Адам Ягоравіч перайшоў у слясарнае аддзяленне, дзе, галоўным чынам, займаўся работамі па акоўцы рэчаў гаспадарчага ўжытку: кручкоў, петляў, завесаў, шпінгалетаў, замкоў і іншага.

Каваль і слесар з яго не атрымаліся, але навыкі засталіся на ўсё жыццё. У фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску захоўваецца шафа, зробленая рукамі Адама Ягоравіча, калісьці перададзеная нашчадкамі Багдановічаў з Яраслаўля.

Пасля была спроба засвоіць майстэрства кухара ў кандытарскай Роберта Шэнінга ў Мінску, але гэту працу Адам Ягоравіч згадваў як сапраўднае пекла: "Это была каторга, а не выучка, работа по своей тяжести ни с чем не сравнимая. Я от него сбежал, чтобы поступить в учительскую семинарию, но меня не приняли, потому что мне не было полных 16 лет: это требовалось правилами". Кандытарам Адам Ягоравіч стаў "хоть куда", але прага да адукацыі была мацнейшай.

У 1879 годзе ён паступае ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, якую скончыў першым вучнем у 1882 годзе, стаўшы народным настаўнікам і захапіўшыся ідэямі народавольцаў.

Дзесяць наступных год ён з натхненнем займаўся настаўніцкай працай ў вёсцы і горадзе. У гэты перыяд Адам Ягоравіч Багдановіч пабраўся шлюбам з Марыяй Апанасаўнай Мякотай. Сям'я жыла ў доме Карказовіча, на былой вуліцы Аляксандраўскай, дзе на першым паверсе знаходзілася Першая Мінская прыходская вучэльня, а на другім размяшчаліся кватэры настаўнікаў. У гэтым доме на свет з'явіліся сыны Багдановічаў: Вадзім і Максім. Адам Ягоравіч шмат часу аддаваў дзецям. Марыя Апанасаўна баялася пакінуць іх каму-небудзь, акрамя бацькі. Толькі яму давярала сваіх сыночкаў, а калі паехала адпачыць з дзецьмі ў вёску, то пісала любаму мужу: "Сказать по правде, я уже по тебе сильно соскучилась, а главное — без тебя страшно, страшна ответственность за детей, которая теперь исключительно лежит на мне одной". Адам Ягоравіч падзяляў адказнасць за жыццё і лёс сваіх дзетак, клапаціўся пра іх здароўе, выхаванне і адукацыю. Але ў сувязі са смерцю Марыі Апанасаўны ўвесь цяжар клопату лёг на плечы бацькі.

Яшчэ ў Мінску ў Адама Ягоравіча пайшла кроў горлам, і ён больш не змог настаўнічаць. А пасля смерці жонкі ўвогуле змяніў месца жыхарства. Разам з дзецьмі і сваімі сёстрамі (Марыяй і Магдаленай) ён пераехаў у Ніжні Ноўгарад.

Сем'і сясцёр (Гапановічы і Галаваны) спачатку жылі ў адным доме, але ў розных кватэрах, і па сутнасці з'яўляліся адной вялікай сям'ёй. Адам Ягоравіч займаўся адукацыяй як уласных дзетак, так і сваіх пляменнікаў. Ён пісаў: "Первоначальное обучение со всеми детьми, в том числе и с Максимом, я вёл сам, а по поступлении их в гимназию руководил их самостоятельным чтением. Обучение начиналось в 6 лет и велось после букваря по "Родному слову"… При обучении пускались в ход все отборные и наглядные пособия, какими располагает педагогика. В конце второго года вводились естествоведение, география, история. Учебником был преимущественно "Детский мир" Ушинского, но восполняемый другими книгами… Мои дети, в том числе и Максим, поступали в гимназию с полным маленьким кругом знаний и о прошлом, и обо всём окружающем мире. В гимназию они поступали вполне подготовленными, и учиться им было нетрудно. В дальнейшем я руководил только чтением, которое у меня ставилось систематически и тесно связывалось с общим ходом обучения".

На працягу ўсяго жыцця Адам Ягоравіч скіроўваў у пытаннях адукацыі сваякоў і родзічаў. У фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча захоўваюцца яго лісты да пляменнікаў і сыноў, дзе ён падрабязна распісвае, з якімі выданнямі трэба азнаёміцца падчас падрыхтоўкі да таго ці іншага экзамену, якія кнігі прачытаць для развіцця ўласнага светапогляду.

Сябар Максіма Багдановіча Аляксей Залатароў згадваў: "У отца поэта, Адама Егоровича, была тогда великолепнейшая библиотека. Она среди очень ценных ярославских частных библиотек отличалась своим исключительно ценным отбором книг. Библиотекою отца Максим очень гордился и, несомненно, многим был ей обязан".

Шлях дзяцей да навукі быў значна лягчэйшым, чым уласны шлях Адама Ягоравіча. Але зыходзячы са свайго досведу, ён склаў уласную сістэму адукацыі асобы: аналізаваў педагагічны працэс, калі сутыкаўся з апісаннем выкладання ў розных навучальных установах у розныя часы. Так, напрыклад, рыхтуючы ўспаміны пра мінуўшчыну мястэчка Халопенічы, Адам Ягоравіч спыніў сваю ўвагу на мясцовай школе: "Курс наук был шестилетним, и школа делилась на шесть классов. Первые два класса считались подготовительными, и в них один преподаватель обучал всем предметам, т.е. чтению, письму и счёту, а в следующих четырёх классах система преподавания была предметной (латынь, математика, науки моральные и право)".

Далей Адам Ягоравіч падрабязна аналізаваў, які ўплыў сістэма адукацыі аказвала на фарміраванне асобы, бо канчатковым вынікам педагагічнага працэсу лічыў выхаванне асобы з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, шчырым стаўленнем да людзей і з пачуццём любові да радзімы. Мы бачым, што сыны Адама Ягоравіча сталі выдатнымі прыкладамі ўзорнага выхавання і адукацыі.

# Літаратурны дом сямейнага тыпу

Так жартам называюць суполку "Літаратурнае прадмесце", якая 7 снежня адзначыла юбілей: вось ужо 10 гадоў, па чацвяргах, яна збірае пісьменнікаў, крытыкаў і музыкаў.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Вечарына прайшла ў мінскай бібліятэцы імя Цёткі. На святочнае "пасяджэнне" прыйшлі Маргарыта Аляшкевіч, Юлія Новік, Віка Трэнас, Алена Беланожка, Алесь Емяльянаў, Наталля Кучмель, Мікола Кандратаў, Таццяна Барысюк, Яна Явіч, Ігар Клепікаў, Таццяна Пратасевіч, Таццяна Будовіч, Іна Фралова, Ганна Федарук, Юрый Несцярэнка, Юрась Нераток і інш. Запытаецеся, дзеля чаго падаваць такі доўгі спіс? А гэта адна з традыцый "Літпрадмесця": праводзіць на пачатку пасяджэння "перапіс насельніцтва" і занатоўваць імя кожнага прысутнага.

Самае першае пасяджэнне адбылося 5 снежня 2002 года ў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва". На сустрэчах збіралася да 30 чалавек. Усяго ж праз суполку за дзесяць гадоў прайшло больш як сто творцаў.

Але напачатку аб'яднанне мела іншую назву — "Літаратурны квартал". Перайменаванне адбылося разам з наваселлем, а наваселляў было працьма: доўгі час не маглі знайсці пастаяннага "месца жыхарства". Урэшце спыніліся на Дзяржаўным літаратурным музеі імя Янкі Купалы, дзе суполка збіраецца і сёння, каб паслухаць новыя творы чальцоў — і як след іх "адчахвосціць".

Тут жа трэба зазначыць, што "Літпрадмесце" не толькі крытыкуе, але і заахвочвае. Так, суполка мае сваю прэмію — "Блакітны свін", якая іранічна называецца "першай беларускай антыгламурнай прэміяй". Лаўрэат атрымлівае арыгінальны дыплом і "сто чаго-небудзь": прыкладам, сто насовак альбо перапяліных яек.

Вядома ж, юбілей без падарунка не юбілей. А лепшы падарунак што? Правільна. Вось і да свайго дня народзінаў "Літаратурнае прадмесце" выдала аднайменны зборнік, які змяшчае творы 29 аўтараў. Як слушна пазначана ў анатацыі, "творы, якія ўвайшлі ў яго, адносяцца да розных жанраў і стыляў: чытач знойдзе і авангардысцкія вершы, і класічныя санеты, апавяданні з жыцця сучаснай моладзі і філасофскія прыпавесці…" Творы сапраўды вельмі розныя, як і сябры суполкі.

— Што такое шчасце? — задала пытанне нязменная кіраўніца суполкі Людміла Рублеўская і сама ж на яго адказала: — Гэта калі ў тваёй хрушчоўскай кватэры збіраецца 30 маладых пісьменнікаў, якія сядзяць хто на канапе, хто на падлакотніках фатэляў, а хто проста на падлозе, чытаюць вершы, смяюцца без усялякага алкаголю — і нам файна!

# След на зямлі

Творчыя людзі — пісьменнікі, мастакі, кампазітары, акцёры — асобы амбіцыйныя. Як правіла, яны прытрымліваюцца высокай думкі пра свае здольнасці, вынікі сваёй працы. Максім Танк тут выглядаў вялікім, слаўным, мілым выключэннем.

**Мікола МІКУЛІЧ**

Колькі разоў ён мне гаварыў пра тое, што хоча перапісаць паэму "Нарач", бо яна яму не ўдалася, перапрацаваць многія вершы, бо яны слабыя. І гэта пры тым, што паэму "Нарач" высока ацанілі айчынная і замежная крытыка і літаратуразнаўства, а пра такія "слабыя" вершы маглі толькі марыць многія аўтары. Неадназова Яўген Іванавіч адзначаў, што я перахваліў яго ў сваёй манаграфіі "Максім Танк і сучасная беларуская лірыка". А чаго варта ацэнка паэтам сваёй давераснёўскай творчасці, дадзеная ў дзённікавых нататках "Лісткі календара": "З жахам агледзеўся, што мне мінула 27 год! — пісаў ён 29 верасня 1939 года. — А ў мяне толькі некалькі зборнікаў вершаў, сярод якіх 75 працэнтаў слабых, 20 працэнтаў — сярэдніх і толькі 5 працэнтаў — добрых. Няма чым хваліцца".

Вы мала сёння знойдзеце беларускіх літаратараў з такімі ці блізкімі да іх думкамі пра сябе. А можа, і зусім не знойдзеце.

Шчырасць, сціпласць, сумленнасць, імкненне прыйсці на дапамогу таму, хто ў ёй меў пільную патрэбу, — вызначальныя рысы асобы М. Танка. На іх сапраўды ніяк не паўплывалі высокія званні і пасады выдатнага мастака. Памятаецца, у адной з нашых даўніх гутарак яго сын Максім Яўгенавіч падкрэсліваў: "Бацька гэтых пасад і званняў нават саромеўся. Ніколі ні ў сям'і, ні сярод сваякоў, ні дзе-небудзь яшчэ ён не сказаў, што з'яўляецца дэпутатам ці старшынёй Вярхоўнага Савета, Героем Сацыялістычнай Працы і г. д. Ён ніколі не насіў ардэноў, планак ніколі не насіў, хіба што толькі ў сувязі з нейкімі вельмі вялікімі ўрачыстасцямі. І то, адзене іх і саромеецца. У такіх выпадках ён меў выгляд дзіцяці, якое апранулі ў нязвыклае адзенне.

А вось пра гэта і маці гаварыла: ні на адным з фотаздымкаў, зробленых на нейкіх урадавых прыёмах і ўрачыстых мерапрыемствах, ён не стаяў на пярэднім плане, побач з галоўнай чыноўнай асобай. Заўсёды дзесьці ў кутку ці ў апошнім радзе, за спінамі іншых..."

Цікавыя назіранні прыводзіць у сваіх успамінах пра народнага паэта Беларусі Мікола Аўрамчык. Прыгадваючы сваю працу ў часопісе "Полымя", ён адзначае: "Калі б у часопісе ні пераlічваліся прозвішчы нашых пісьменнікаў, што дасягнулі значных здабыткаў у беларускай літаратуры, Максім Танк заўсёды акуратна выкрэсліваў з гэтага спісу сваё імя і на месца яго ўпісваў прозвішча Пімена Панчанкі.

У гэтым выяўлялася не толькі сціпласць рэдактара, але і яго павага да свайго сябра і калегі па працы, творчасць якога ён высока цаніў. Прычым нельга забываць таго, што праз вострыя і смелыя вершы Пімен Панчанка быў тады ў апале".

М. Танк быў падкрэслена адкрытым, высакародным, адказным і дужа ўдзячным чалавекам. Пасля кожнай маёй публікацыі пра яго народны паэт абавязкова званіў і дзякаваў ці пісаў паштоўку. Гэта амаль заўсёды было нязвыкла, таму што аніхто, пра каго б я дагэтуль ні пісаў, ніколі мяне не шукаў і не дзякаваў. Вельмі ўражвалі цёплыя, прачулыя, даверлівыя словы і пажаданні народнага паэта Беларусі...

У гады вайны жонка мастака Любоў Андрэеўна з малым сынам Максімам жыла ў Саратаве. Іх прытуліла адна ўжо немаладога веку руская пара. Удзячны паэт лічыў, што абавязаны гэтым людзям да канца свайго жыцця. Ён памагаў ім, як мог: слаў грошы, пасылкі з прадуктамі і рэчамі, арганізоўваў лячэнне і інш. Паколькі ў былых кватэрных гаспадароў яго жонкі і сына былі кепскія бытавыя ўмовы, М. Танк як дэпутат Вярхоўнага Савета СССР праз Саратаўскі гарвыканкам дабіўся выдзялення ім асобнай кватэры.

У кантэксце нашага дыскурсу цікавымі і паказальнымі з'яўляюцца развагі Таццяны Сівец, якая ў адной з нядаўніх публікацый заўважыла наступнае:

"Ці адказвае пісьменнік за жыццё свайго народа так, як гэта было хаця б у часы Танка? Яўген Іванавіч імкнуўся дапамагчы ўсім: каго не даў адлічыць, каму дапамог з жыллём... Мы сёння можам гаварыць пра яго не толькі як пра творцу, а як чалавека з актыўнай грамадскай пазіцыяй, што не баяўся быць "няўгодным" ці нязгодным... Ён да апошняга не здрадзіў сваім перакананням. Мажліва, менавіта таму яму давяралі кіраваць і Саюзам пісьменнікаў, і Вярхоўным Саветам, бо былі ўпэўненыя — Танк не схібіць..."

"Танк не схібіць..." — вельмі дакладна сказана. М. Танк не ашукае, не падвядзе, не будзе, хаваючы вочы, хітрыць і апраўдвацца, ускладаючы віну на іншага, не кіне слова на вецер... У гэтым быў упэўнены кожны, хто ў той ці іншай ступені ведаў Яўгена Іванавіча.

Бацька быў свядомым і выразным атэістам, разважаў у адной з нашых гутарак сын мастака Максім Яўгенавіч, але болей святога вы не знойдзеце. "Уявіце сабе такога шчырага, сумленнага, сціплага, уважлівага, лагоднага, добразычлівага чалавека... Ён увесь час клапаціўся аб тым, каб хаця каго не пакрыўдзіць, каб нехта пра яго кепска не падумаў. Што-небудзь робім, а ён: "Не-не, гэтага не трэба. Ці мала што пасля скажуць людзі..." Ён усё вымяраў асновамі народнай маралі.

Калі ўжо яго нехта аб нечым папросіць, дык ён не супакоіцца, пакуль не выканае просьбу. Звычайна ходзіць, пераважвае, раіцца з маці: "Любаша, трэба ж неяк дапамагчы. А як зрабіць, да каго звярнуцца?.." Ён так не любіў хадзіць да высокага начальства, а тутака трэба было ісці. Тады ж не грошы ўсё вырашалі, а сувязі..."

Так, да народнага паэта Беларусі са шматлікімі просьбамі пісьмова і вусна звярталіся сотні знаёмых і незнаёмых людзей.

Напрыклад, сур'ёзныя творчыя праблемы былі ў Алеся Стальмахова. "Добры дзень, паважаны Яўгеній Іванавіч! — пісаў ён у адным з лістоў, звяртаючыся да народнага паэта. — Выбачайце, калі ласка, што я турбую вас, але вось тут у чым справа — з рэспубліканскіх газет і часопісаў, куды я дасылаў свае белыя вершы, мне прад'яўляюць сур'ёзныя абвінавачванні ў тым, што я пераймаю Ваш голас. Я не адмаўляюся, што сапраўды даўно з'яўляюся гарачым прыхільнікам Вашага яркага і самабытнага таленту, шмат каштоўнага пачэрпнуў для сябе з Вашых кніг "Нарачанскія сосны" і "Дарога, закалыханая жытам". І ўсё ж упершыню з прыкладамі класічнага верлібра я сустрэўся ў замежнай літаратуры. І бадай, галоўную ролю ў выбары свабоднай манеры пісьма адыграла знаёмства з творчасцю Назыма Хікмета, Пабла Неруды, Гарсія Лоркі, шэрагу амерыканскіх і кубінскіх паэтаў. Шчыра кажучы, я не люблю рыфмаванай траскатні і "салаўіных трэляў" некаторых ахоўнікаў традыцый, слова ў вершы павінна быць важкім і пранікнёным, як напрыклад, ва Уладзіміра Маякоўскага:

*Мне наплевать на бронзы многопудье,*
*Мне наплевать на мраморную слизь,*
*Сочтёмся славою,*
*Ведь мы свои же люди.*
*Пускай нам общим памятником*
*Будет,*
*Построенный в боях социализм.*

Вось дзе сапраўды "сплаў думак і пачуцця"! Не ведаю, ці дадуць Вам поўнае ўяўленне аб маіх творчых намерах гэтыя чатыры вершы, якія я выразаў з раёнкі і дасылаю на Ваш суд. Хочацца ведаць менавіта Вашу думку наконт іх. Не буду ўтойваць, што мару надрукавацца ў "Полымі" ці ў якім-небудзь іншым выданні".

А вось ліст з г. п. Відзы Віцебскай вобласці ад кіраўніка мастацкай самадзейнасці мясцовай бальніцы Ганны Адамовіч. У яе — свой клопат. "Паважаны т. М. Танк, — пісала яна 25 лютага 1965 года. — Я вырашыла звярнуцца да Вас па наступным пытанні. Справа ў тым, што я кірую мастацкай самадзейнасцю ў Відзаўскай бальніцы, але ў мяне вельмі мала матэрыялаў, г. зн. не магу дастаць інтэрмедый, жартоўных частушак ці добрую п'еску. Я адначасова вучуся завочна ў БДУ, і вось, калі я была на зімовай сесіі, у нас была сустрэча з беларускімі пісьменнікамі, і сярод іх былі Вы. Гэта сустрэча зрабіла на мяне глыбокае ўражанне. Я вырашыла звярнуцца да Вас па дапамогу. Можа, Вы што-небудзь прышлеце мне, каб падрыхтаваць канцэрт. Вельмі прашу Вас дапамагчы мне хоць чым-небудзь".

Катэгарычная, валявая інтанацыя палягае ў аснове пісьма Ядвігі Бяганскай (ад 6 красавіка 1983 года): "Паважаны Яўген Іванавіч! Яшчэ і яшчэ раз звяртаюся да Вас у справе ўстаноўкі тэлефона ў маёй новай кватэры, у якім я маю вельмі вялікую патрэбу. Няўжо я, як пісьменніца і ветэран працы, не заслужыла на гэтую ласку і мушу ў свае гады ў выпадку патрэбы шукаць тэлефона-аўтамата, якога, дарэчы, паблізу няма.

Мой муж хварэе на сэрца і ныркі, і мне даволі часта даводзіцца звяртацца ў хуткую дапамогу, і тут без тэлефона ніяк не абысціся.

Вельмі прашу Вас, даражэнькі Яўген Іванавіч, задаволіць маю просьбу і дараваць за фатыгу".

Асобная старонка ў гісторыі жыцця і творчасці Максіма Танка — сувязі і дачыненні народнага паэта з даследчыкамі ягонай паэзіі. Як вядома, яму карэспандавалі У. Калеснік, М. Арочка, В. Рагойша, А. Клышка, многія іншыя літаратуразнаўцы і літаратурныя крытыкі, а таксама краязнаўцы, гісторыкі, моваазнаўцы, публіцысты.

У канцы 1970-х гадоў пачаў працу над манаграфіяй пра М. Танка вядомы даследчык і паэт М. Арочка. Па яго просьбе для гэтай працы народны паэт прапанаваў яму пазнаёміцца з шэрагам заходнебеларускіх перыёдыкаў. 28 лютага 1980 года М. Арочка пісаў М. Танку: "Вельмі прашу дараваць мне, што я перад ад'ездам у Трускавец не змог пабачыць Вас і вярнуць хоць частку тых каштоўна-гістарычных матэрыялаў, якія Вы далі мне пачытаць. Яны дома ў мяне не загубяцца, не змарнуюцца. Шкада, што я вялікі маруда ў чытанні — усё мне цікава, трэба ведаць, занатаваць. У тагачасных часопісах столькі рознага гістарычнага і непасрэдна з Вашага жывога асяроддзя змагання, што гартаеш старонкі і нібы пальцамі дакранаешся да прысаку".

Як бачна з ліста, М. Арочка ведаў пра асаблівасці дыялогу М. Танка і У. Калесніка ў сувязі з памылкамі і недакладнасцямі, дапушчанымі ў артыкуле даследчыка "Будзённы дзень з Максімам Танкам". Ён таксама раіўся з народным паэтам: "Перад ад'ездам быў я ў нашым мастацкім выдавецтве (здаваў па рэдакцыі В. С. Палтаран крытычную кнігу на 81 г.) і меў гаворку з Верай Сямёнаўнай не толькі наконт новай кнігі ("Максім Танк. Жыццё ў паэзіі"), але і кніжкі Ул. Калесніка. Калі я вярнуся, В. С. хацела б пагаварыць са мной. Не ведаю — аб чым. Можа, мяркуе даць на знешне-рэдакцыйнае рэцэнзаванне? Тады б я загадзя ведаў, што Ул. К. улічыў пасля сур'ёзнай перапіскі і гаворкі з Вамі. Ці лепш ужо чакаць яго кніжкі (выйдзе ў 1981 г.) і калі будзе патрэба, вельмі тактоўна запярэчыць ці аспрэчваць? Ну, будзе бачна — як там скіруецца гаворка з В. С."

Цёплыя, прыязныя адносіны звязвалі народнага паэта Беларусі і Вячаслава Рагойшу, аўтара цікавай манаграфічнай работы "Паэтыка Максіма Танка" (1968), многіх іншых даследаванняў. У лісце



да М. Танка, напісаным 1 лістапада 1979 года, крытык і літаратуразнаўца паведамляў: "У № 9 "Маладосці" пайшлі мае "штрыхі да партрэта" Максіма Танка. Ці чыталі Вы іх? Як успрынялі гэтыя "штрыхі"? Не ведаю, наколькі мне ўдалося ў невялікім артыкуле выявіць асноўнае ў Вашай творчасці, дарагі Яўген Іванавіч, але маім пяром, як заўсёды, вадзіла любоў да Вас, як да Чалавека, да Вашай Творчасці, Вашай Паэзіі.

Прыміце шчырае вітанне ад Таццяны Вячаславаўны!"

Аператыўны танкаўскі ліст у адказ (ад 2 лістапада 1979 года) звяртае на сябе ўвагу падкрэсленым лаканізмам і ёмістасцю зместу. "Дарагі Вячаслаў Пятровіч! Не ведаю, як Вам дзякаваць за Вашы цікавыя "Штрыхі да партрэта", за Вашу выдатную кнігу "Гутаркі пра верш" і прадмову да майго зборніка, які толькі што выйшаў у выдавецтве "Народная асвета". Адным словам, застаюся Вашым даўжніком на ўсё жыццё. Ад усяго сэрца шлю Вам і Вашай сям'і самыя гарачыя віншаванні са слаўнай 62-ой гадавінай Вялікага Кастрычніка і найлепшыя пажаданні шчасця, здароўя і здзяйснення ўсіх Вашых творчых задум і надзей".

Дзелавым і прадметным з'яўляецца ліст В. Рагойшы ад 7 жніўня 1987 года. "Карыстаючыся нашай вуснай дамоўленасцю, — пісаў ён М. Танку, — дасылаю Вам для ўзгаднення тэзісы майго выступлення на навуковай канферэнцыі, якая павінна адбыцца ў Вільнюскім дзяржаўным універсітэце на пачатку кастрычніка гэтага года. Прачытайце, калі ласка, магчыма, я нешта ўпусціў ці падаў не так, як трэба. У выступленні (а пазней — і ў публікацыі) ёсць магчымасць улічыць усе Вашы заўвагі.

Яшчэ вельмі прашу Вас адказаць на наступныя пытанні:

1) Хто з літоўскіх пісьменнікаў Вам бліжэй за ўсё? Чаму?

2) У чым, на Вашу думку, спецыфіка беларуска-літоўскіх літаратурных узаемасувязей і ці задаволены Вы станам гэтых сувязей?

3) Чаму мы можам павучыцца ў суседзяў літоўцаў? Што яны ў нас могуць пераняць?

4) Ці валодаеце Вы літоўскай мовай?

5) Якія ўспаміны і асацыяцыі звязаны ў Вас з Вільнюскім універсітэтам?

6) Вашы пажаданні літоўскім сябрам, літоўскай моладзі (якія я мог бы перадаць з трыбуны канферэнцыі).

Усяго Вам найлепшага!

Ваш

Вячаслаў Рагойша.

P. S. Толькі што вычытаў у "Бярозцы" карэктуру артыкула пра Максіма Танка, які я напісаў для № 9 гэтага часопіса. Юбілей Ваш часопіс адзначае маім артыкулам і публікацыяй некаторых Вашых вершаў".

Шмат у чым цікава і паказальна тое, што М. Танк падрыхтаваў адказы на пытанні даследчыка, але суправадзіў іх даволі іранічнай і дасціпнай сентэнцыяй. У лісце да В. Рагойшы ад 27 жніўня 1987 года ён пісаў: "Прачытаў я Вашы тэзісы і падумаў: а ці варта ў наш час глабальнай рэвалюцыйнай перабудовы ўдзяляць столькі ўвагі справам "даўно минувших дней"? Ну, ды гэта, відаць, тэма для нейкай наступнай навуковай канферэнцыі ці нашай сяброўскай бяседы..."

# Ці варта жыць?

Узяўся чытаць новы раман Ганада Чарказяна "Горький запах полыни" (пераклад з курдскай мовы Валерыя Ліпневіча), і ў памяці міжвольна ажылі радкі адной з вядомых песень Уладзіміра Высоцкага: "Лучше гор могут быть только горы, на которых ещё не бывал". Праўда, калі быць зусім дакладным, то пачатковаму эпізоду адпавядаюць не гэтыя радкі — іх успрымаеш як своеасаблівую запеўку, а тыя, якія нагадваюць, што бывае, калі чалавек у гарах нечакана аступіўся.




**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Аднак галоўнаму герою рамана "Горький запах полыни" Глебу Беразовіку на дапамогу разлічваць не выпадае: з гарамі ён сам-насам. Хоць, па праўдзе кажучы, ніхто яму не патрэбны, бо няма ўпэўненасці, што той, хто мог бы нечакана трапіцца на ягоным шляху, акажацца добразычліўцам. Хутчэй за ўсё, нечаканая сустрэча можа нават каштаваць Глебу жыцця.

Ды пра ўсё гэта даведаешся пасля. Пакуль што мускульна-напружаны радок прозы Г. Чарказяна пераконвае ў іншай небяспецы, якая спадарожнічае Беразовіку. Дастаткова Глебу зрабіць маленькі неасцярожны рух, як ён можа лёгка сарвацца ў прорву. Праўдзівасць, пераканаўчасць твора ўзмацняецца дзякуючы яшчэ і таму, што аўтар рамана выбраў найбольш апраўданы ў дадзеным выпадку мастацкі прыём: аповед ад першай асобы.

Галоўны герой Г. Чарказяна не проста гаворыць пра тое, што адбываецца з ім. Ён спавядаецца перад чытачом, пракручвае ў памяці вялікую частку ўласнай біяграфіі. Нічога не хаваючы і нічога не прыхарошваючы, што таксама сведчыць на карысць глыбокага пранікнення пісьменніка ў саму сутнасць чалавека.

Каб гэтак пераканаўча напісаць, да ўсяго неабходна як бы зліцца з вобразам, склаўшы з ім адзінае цэлае, ператварыцца ў плоць ад плоці яго. Каб не ўзнікала сумнення ў тым, што і ты сам ідзеш горнай пакручастай сцяжынкай, як гэта робіць і Глеб Беразовік. У дадзеным выпадку спрацоўвае яшчэ і добрае веданне Г. Чарказянам горных рэалій. Маленства і юнацтва яго, як вядома, прайшлі там, дзе і сапраўды "лучше гор могут быть только горы…"

Упершыню Глеб пазнаёміўся з гарамі пасля таго, як ён, беларускі юнак, стаў воінам-інтэрнацыяналістам, апынуўся ў Афганістане. Аднак тое было знаёмства павярхоўнае. Сапраўднае ж адбылося крыху пазней. Цяжкапараненага Глеба падабраў афганскі селянін Сайдула і выхадзіў яго. Пайшоў на тое, на што рэдка хто быў здатны з мясцовых жыхароў. Асабліва з тых, каму гэтая вайна прынесла асабістае гора: на ёй Сайдула страціў трох сыноў. Лёгка было азлобіцца на шураві — так тут называлі савецкіх людзей. Ды ён не толькі не пайшоў шляхам помсты, а і праявіў чуласць, сардэчнасць. Чаму?

Ніколькі не адмаўляючы глыбокай псіхалагічнай вымалёўкі вобраза галоўнага героя, не магу не адзначыць, што па той сэнсавай нагрузцы, якую ён нясе ў рамане, не менш пераканаўчым і праўдзівым атрымаўся і Сайдула. Больш за тое, правільным будзе сказаць, што абодва яны — Беразовік і Сайдула — шмат у чым падобныя. Дзіўнавата як быццам. Ды зноў жа, толькі на першы погляд. Калі ж лепей разабрацца, то, як гэта ні гучыць парадаксальна, абодвух зблізіла вайна. Менавіта яна парушыла іх звыклы лад жыцця і вымусіла прыстасоўвацца да новых абставін.

Не ў апошнюю чаргу Сайдулу. Але гэта акурат і пайшло на карысць Глебу Беразовіку. Сайдула не хавае таго, чаму зрабіў менавіта так, а не інакш: "Вот ты спрашиваешь, почему я стал выхаживать тебя? Прежде всего потому, что мне всегда хотелось сделать что-то угодное Аллаху, который воистину милостив и милосерден. А что может быть милосерднее, чем спасти жизнь своему врагу? Ну и, конечно, признаюсь тебе, Халеб (так па-мясцоваму усе завуць Глеба. — **А. М.**): желание иметь на старости лет своего собственного раба, помощника в тяжёлом крестьянском труде, тоже было не последним". А яшчэ Сайдула спадзяецца дачакацца ад адзінай дачкі Дурханы унука.

У новае жыццё мусіць упісвацца Глеб Беразовік: "Мне теперь часто казалось, что старая жизнь сошла с меня, как змеиная кожа, и теперь лежит сухой и никому ненужной шкуркой. А новая осторожно и медленно нарастает, радуя свежестью и чистотой". Аднак "пераўтварэнне" Глеба ў Халеба (зразумела, гэта датычыць не змены імя, а адаптацыі юнака да новых для яго ўмоў) даецца няпроста.

І Беразовік, і Сайдула знаходзяцца не ў нейкай ізаляванай прасторы. Ёсць жа і іншыя жыхары кішлака, а ў іх сваё стаўленне да шураві. Прытым далёка не адназначнае. Даходзіць да таго, што адзін з іх абвінавачвае Беразовіка: ён нібыта "покусился на честь и достоинство его любимой дочери Азизы".

Раман "Горький запах полыни" — твор дынамічны. У кампазіцыйную пабудову яго ўкліньваюцца вострыя сюжэтныя павароты. Аднак, несумненна, гэта раман яркіх, запамінальных характараў, якія ў залежнасці ад творчай задумы падаюцца Г. Чарказянам узбуйнена або паўстаюць эпізадычна. Пісьменнік дакладна перадае афганскі каларыт, з павагай ставіцца да тых традыцый афганскага народа, якія нельга не вітаць, але разам з тым праз успрыманне галоўнага героя твора не адмаўляе і мясцовых перажыткаў.

Жыццё Глеба Беразовіка — у пэўнай ступені і блуканне па пакутах. Праўда, часцей унутранае (неспакойна яму на чужыне). Але адначасова гэта імкненне да самасцвярджэння. Усё ж настаў момант, калі Глеб адчуў і тут, у далечыні ад Радзімы, сябе шчаслівым: ажаніўся з Дурханай, у іх нарадзіўся сын, пасля — дачка. На жаль, шчасце было нядоўгім: "Сель отрезал от кишлака семь домов с мирно спящими людьми и похоронил их в пропасти, куда впадала наша когда-то мирная и безобидная речка". Істотны момант: рэчку ён ужо называе "наша". Ды пасля таго, як не стала жонкі, дзяцей, заставацца тут далей для яго не мела сэнсу. Таму і вырашыў уцякаць.

"Горький запах полыни" — гэта твор, якога так неставала беларускай літаратуры. Не адмаўляючы значнасці ўсяго, што ўжо напісана на афганскую тэму, нельга не адзначыць, што Г. Чарказян закрануў такі аспект, на які раней калі і звярталася ўвага, дык як бы мімаходзь. Ніхто да яго так усебакова і праўдзіва не расказваў пра беларускіх юнакоў, якія, выконваючы свой інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане, трапілі ў палон.

Назва твора ўспрымаецца сімвалічна. Так, палын — трава горкая, але адначасова яна і гаючая. Нягледзячы ні на што, палын Афганістана стаў гаючым і для галоўнага героя рамана. Глеб Беразовік, годна прайшоўшы праз выпрабаванні, наканаваныя яму лёсам, не толькі не зламаўся, а і стаў яшчэ больш моцным. Ён не сумняваецца, што і далей трэба жыць. Бо праўда — усё-такі не мёртвая. Тая праўда, якую ён спасцігнуў на ростанях афганскіх дарог. Як баявых, так і мірных.

# Заставацца сабой

Кніга з серыі "Асоба і час" "Уладзімір Гніламёдаў: «Заставацца сабой...»" (укладальнік Мікола Мікуліч) уяўляе сабой зборнік артыкулаў, рэцэнзій, інтэрв'ю, успамінаў, апублікаваных у розны час у мінскіх, маскоўскіх, кіеўскіх выданнях. Артыкулы вядомых крытыкаў і літаратуразнаўцаў, такіх як І. Чарота, М. Мушынскі, Д. Бугаёў, М. Мішчанчук, І. Сачанка, Т. Шамякіна, Я. Гарадніцкі, В. Локун, В. Жураўлёў і іншыя, прадстаўляюць панараму літаратурнага працэсу XX ст. у сучаснай беларускай крытыцы.

**Ірына ШАТЫРОНАК**

Але мне, перш за ўсё, цікавая асоба самога У. Гніламёдава. Зварот пісьменніка, літаратурнага крытыка, літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара, акадэміка НАН Беларусі да чытачоў "З таго, што помніцца і што думаецца" здзіўляе сваёй пранікнёнай шчырасцю і мудрай прастатой, вольнай ад якога-небудзь ментарскага тону і павучальнай высакамернасці, якія ўласцівы часам людзям старэйшага пакалення.

Я так зачараваная, так суцешана мудрай прастатой і адначасова незвычайнай тонкасцю аўтарскага ўступлення, што ўсе артыкулы, сабраныя пад адной вокладкай, прысвечаныя літаратурнай творчасці філосафа-мысляра, здаюцца мне лагічным працягам знаёмства з ім і прысвечаны "асэнсаванню феномена Уладзіміра Гніламёдава… асобы першай велічыні ў сучаснай беларускай гуманітарыстыцы і культуры". Так сказаў у рэцэнзіі укладальнік кнігі, вучань акадэміка Мікола Мікуліч.

Увесь час хочацца саступіць месца аўтарскаму павольнаму маналогу з яго эсэ-прытчы. Такія прыгожыя гэтыя лаканічныя, глыбокія і ўзважаныя думкі філосафа, дзе ёсць месца жыццёвым абагульненням і вынікам, яны звернутыя да нас, сучаснікаў, і да тых, хто ідзе следам, цікавіцца гісторыяй літаратуры як духоўнай спадчынай.

Пры ўсіх высокіх навуковых рэгаліях апавядальніка раптам натыкаюся на больш чым сціплую рэмарку: "Справа ў тым, што я гісторык літаратуры, начытаны чалавек". І далей: "Я ўсё ці амаль усё прачытаў — ад Гамера і Апулея да Казлова і Малахоўскага… Я чытаў Дантэ, Сервантэса, Мальера, Шэкспіра, Гётэ, Байрана, Гюго, Бальзака, Флабэра, Заля і, натуральна, не хачу паўтараць тое, што было да мяне. У той жа час мне добра вядома: груба кажучы, уся літаратура пра адно і тое ж. У яе аснове ляжаць пэўныя архетыпы, міфы, якія некалі хвалявалі Гамера, Шэкспіра, Талстога, Купалу, Кафку і Джойса і хвалююць сучасных пісьменнікаў".




Вось яно, простае і яснае разуменне часу і яго вечных праблем!

Раз-пораз вяртаюся да кароткага эсэ-ўступу У. Гніламёдава, перачытваю і, што цікава, адкрываю для сябе новыя сэнсы. Такое заўсёды здараецца, калі чытаеш тэзісы мысляроў і філосафаў. Адна і тая ж думка, коратка сфармуляваная, раптам выяўляе новую грань, дае імпульс новай думцы. Усё ж такі ёсць у гэтым загадка, нейкая схаваная таямніца, даступная нешматлікім творцам, да ліку якіх належыць наш сучаснік — акадэмік У. Гніламёдаў.

У рамках аднаго артыкула немагчыма згадаць усе матэрыялы, што ўвайшлі ў кнігу, але я і не стаўлю перад сабой такой задачы. Вось у артыкуле маскоўскага літаратуразнаўцы З. Фініцкай "Как возникает поэзия?", надрукаваным у "Литературном обозрении" (№ 8 за 1973 г.), ідзе размова пра кнігу У. Гніламёдава "Традыцыі і наватарства". "Есть у нас работы о психологии творчества… Но много ли работ о психологии творца, о психологии созданных им героев, о психологии восприятия искусства! Тут главное — "состыковка" тяготеющих друг к другу наук: литература начинается с человека (писателя), продолжается в образе человека (героя) и человеком замыкается (читателем)… Работы В. Гниломёдова побуждают всерьёз задуматься над этими проблемами".

Амаль сорак гадоў таму напісаны гэтыя словы, але наколькі яны актуальныя сёння! Тут жа З. Фініцкая адзначае, што "В. Гниломёдов пишет о том, что слишком часто забывают одну «мелочь» — личность самого художника с его поэтическим сознанием и всем тем, что формирует из художника индивидуальность гражданственную, личность общезначимую".

Гэта тая самая "дробязь", уласцівая У. Гніламёдаву як яркай выяўленай творчай асобе. Пераканаўная, што перад намі майстар, творца, мастак слова, і гэта першасна. Літаратурны крытык і літаратуразнаўца — другасны, як вытворнае, ужо падмацаванае падмуркам тэарэтычных ведаў.

У. Гніламёдаў сваёй творчасцю ўсё жыццё служыў літаратуры, не толькі на пасадзе дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАНБ. (Ці можа быць гэтая служба фармальнай для асобы такога маштабу? Думаю, не.) Ён заставаўся верны ёй як неабыякавы чалавек, як шчыры чытач і працягвае ў свае сталыя гады несці нязменную вахту. Заспеў сталінскую, хрушчоўскую эпохі, працаваў у ЦК КПБ у брэжнеўскую, "і было мне там часам вельмі нялёгка…, на пасадзе загадчыка сектарам мастацкай літаратуры я працаваў працяглы час". Але няма ў яго згадках пра мінулае таго, за што было б сорамна або няёмка.

Не раз сустракаючыся з Уладзімірам Васільевічам, для сябе зрабіла вельмі карысную выснову. На маё пытанне: "Ці даводзілася вам пісаць крытычныя артыкулы, выконваючы заказ, калі, напрыклад, творчасць аўтара ўнутрана не супадала з вашым светапоглядам?" акадэмік спакойна адказаў: "На шчасце, не. Заўсёды пісаў пра тое, што мне падабалася, было «маім» па перакананні... і не пісаў пра тое, што не прымала мая душа".

У прадмове да кнігі ёсць такія словы: "Так што празаічны і літаратуразнаўчы пачаткі ў маіх адчуваннях і мысленні паміж сабой не спрачаюцца", а мне хочацца дадаць: у гарманічным сузіранні з прафесійнымі якасцямі знаходзіцца яшчэ трэцяе, вельмі важнае — асобаснае, магчыма, суб'ектыўнае, але непадуладнае часу, абставінам, пераменлівым эпохам, за што адказваюць душа, сумленне і сэрца акадэміка У. Гніламёдава.

"Заставацца сабой...", пры гэтым захоўваць выдатную творчую форму літаратурнага крытыка, сучасны, не зафармалізаваны стыль, глыбіню даследаванняў і ўмець падтрымліваць добрыя чалавечыя адносіны з калегамі.

"Нас выбірае час, і ён ужо аднойчы выбраў — калі мы былі маладыя. Наша пакаленне называюць пасляваенным, сярэднім, філалагічным. Думаю, галоўнае мы ўжо зрабілі і сёння з'яўляемся людзьмі з мінулага… Трэба цаніць і паважаць сённяшняе маладое пакаленне, не ісці з ім у рожкі, а імкнуцца падтрымаць яго на добрых пачатках. Тады і яно лепш зразумее нас".

Такімі словамі заканчвае сваё міні-эсэ пра жыццё, пра гады творчасці, сяброў і таварышаў па пяры, адданасць абранаму шляху Уладзімір Гніламёдаў.

# Паэзія



Ганна АТРОШЧАНКА

## Горыч душу паласне…

*Увосень, як клін жураўліны*
*Вяшчуе з нябёсаў журбу,*
*Зіхцяць, бы кастры, арабіны, —*
*Я гэту часіну люблю.*

*Хай лета прайшло незваротна*
*І горыч душу паласне,*
*А дзень будзе шэрым, самотным,*
*Які растрывожыць мяне.*

*Шукаю патрэбныя словы,*
*Каб зноў азірнуцца назад,*
*На клёнік высокі, барвовы,*
*І жоўты над ім лістапад.*

***

*Шчасця выкаваць падкову*
*Я ніколі не змагу…*
*І не веру твайму слову,*
*Хоць былое — берагу.*

*Я гукаю цябе ранкам*
*І шукаю зноў у сне…*
*След губляецца за ганкам,*
*Як праменьчык у акне.*

## Бярозцы

*Мне зялёнаю касынкай*
*Узмахнула ты здаля.*
*Калі бегла я сцяжынкай,*
*Ногі лашчыла ралля.*

*Вунь шырокаю палоскай*
*Зелянее родны гай,*
*Да чужой іду я вёскі,*
*У вачах маіх — адчай!*

*Хоць надзей было багата,*
*У душы — адна слата…*
*Тут калісь стаяла хата,*
*А цяпер — там пустата.*

*Мне і сумна, і балюча,*
*Дай жа, Божа, лепшых сіл!*
*Бо прайшло ўсё немінуча*
*І сплыло за небасхіл.*

***

*Пачарнелы дом, як сажа,*
*Стаў забыты агарод…*
*І ніхто цяпер не скажа,*
*Што тут сеялі штогод.*

*І ніхто не прыгадае*
*Пра цяпло жаночых рук…*
*Усё мігам пралятае, —*
*Кола радасці і мук.*

*Пустацвету тут нямала,*
*Шаргаціць садок сцяной!*
*Гаспадыня тут спявала,*
*Быццам ластаўка вясной.*

*Адляцеў той спеў далёка,*
*На чужыя рубяжы.*
*У нябёсах, дзесь высока,*
*Ані болю, ні мяжы…*



Уладзімір МАРОЗ

# Вясёлкавыя санеты

## Чырвоны

*Палоска чырвані на белым полі*
*Ёсць кроў Хрыста, пралітая за нас.*
*Адкінь адчай у прасвятлення час,*
*Згадай наказ Яго любові й волі.*

*Адно балесным не дастаць спатолі —*
*Без рэха цемра сунецца ў адказ.*
*Дарэшты пляжыць дух чырвоны прас,*
*Бярэ ў палон пякучае юдолі.*

*Перачакай чырвоны, не бяжы,*
*Табе яшчэ зазвоняць капяжы,*
*Цнатлівасць жонкі прасціна адкрые.*

*Як падрахунак любасці, зліцця*
*Гасподзь дасць свету новае дзіця,*
*І чырвань — знак, што мы яшчэ жывыя.*

## Аранжавы

*Калі дажджы наўсцяж прыносяць морак,*
*Туманы тнуць да шэрай нематы,*
*Калі дратуюць Беларусь вятры —*
*Як хочацца на сонца і на мора!*

*Забудзь на непагадзь — такога гора!*
*Імкні на поўдзень сонейку ў сваты,*
*Дзе апельсін красуе залаты*
*І над людзьмі не валадарыць змора.*

*Бракуе пекнай фарбы ў нашым краі,*
*Але прасі, і літасцівы Бог*
*Цябе не кіне ў сцішаным адчаі.*

*Вясёлку дасць, каб ты разгледзець мог*
*Нязвыклы колер, радаснае ззянне —*
*Яно вястуе сонца і каханне.*

## Жоўты

*Жар-птушку меў злавіць, ды не ўдалося,*
*Адно ў руках пярынка ад хваста.*
*Самоту скінь, што казку не дастаў —*
*Цябе калыша фарбай спелай восень.*

*Іскрынка не згасае — так вялося*
*З пачатку свету, калі змрок растаў.*
*Як водсвет з неба на зямлі паўстаў —*
*Жыццё сцвярджае золата калосся.*



Фота Кастуся Дробава

*Глядзі і думай: што за цуда ніва!*
*Заўваж яшчэ гарлачык на вадзе —*
*Салодка мроіцца на свеце жыць шчасліва.*

*Каханне пругка сцежкамі вядзе,*
*І ўсё ж журбінку колер наш дастане —*
*Вярэдзяць згадкі блізкага расстання.*

## Зялёны

*Ёсць абнаўлення вечнага мастацтва:*
*Душа крыляе, поўная надзей,*
*Струменіць малады імпэт з грудзей,*
*Бруіцца зеляно-віно юнацтва.*

*Але і сталасць — не адчай жабрацтва,*
*Да лазні венік свежы давядзе —*
*Мужчынскай моцы знойдзеш як нідзе,*
*І, чысты, крочы з прыродай у сваяцтва.*

*Лугоў прывабнасць з муравой-травою,*
*Лясоў пяшчотнасць — гэта ўсё са мною,*
*Ёсць слодыч еднасці здавён-даўно.*

*Зялёны колер — колер супакою,*
*Іду, бы ў замаруджаным кіно:*
*Рай пры дзвярах, і клямка пад рукою.*

## Блакітны

*Блакіт бяздоння — кропка прыцяжэння,*
*Далёкі, вабны, недасяжны свет.*
*Кінь фарбу ў кайстру, калі ты паэт,*
*Блакіт быць мае мерай узвышэння.*

*Але пры тым не пакідай сумнення,*
*На трэцім небе — паўдарогі след.*
*Хоць тут няма ні гора, ані бед —*
*Яшчэ не выспеў час богаяўлення.*

*Зарукай нашай годнасці і волі*
*Блакітная пульсуе ў жылах кроў,*
*Наўсцяж вястуе веру і любоў.*

*Яшчэ вачэй блакіт, надзеі стан —*
*Усе шукаем новай шчаснай долі,*
*Дзе сам сабе ты гаспадар і пан.*

## Сіні

*Шукай-знайдзі свой васілёк у жыце,*
*Здабудзь радок, каб любасць напісаць.*
*Сцялі нямоглым праз вусцішнасць гаць,*
*Дай напамінак — з песняю жывіце.*

*Спрабуюць звесці конча дабрадаць,*
*Перахрысціць у нелюбві карыце.*
*Падпіхваюць — угору не глядзіце,*
*А за відовішча і хлеб — душу прадаць.*

*Жывём мы, людзі, не адзіным хлебам,*
*А і высокім горнім сінім небам,*
*У роднай мове словам ад Яго.*

*Калодзеж сіні дасць святой вадзіцы,*
*Журба святлом радзімы загаіцца,*
*І нематы мінецца карагод.*

## Фіялетавы

*Ляцелі гусі, скінулі пярынку,*
*А чалавек яе ў далонь злавіў.*
*І з неба кроплю ўдала падхапіў —*
*Вясёлка знізу аддала часцінку.*

*Не прамантачыў Боскую іскрынку —*
*Атрамант з пёркам шлюбам заручыў*
*І слова запісаў сабе наўздзіў,*
*Пачаў шукаць яго як залацінку.*

*Свой час, свой лёс натхнёна майстар піша,*
*Душу высокім тэкстам раскалыша,*
*Дзе грунтам запаветнае: “любіць”.*

*Ды толькі ёсць адна перадумова —*
*Каб не скруціцца, чалавекам быць,*
*Няхай не стане разбуральным слова.*



Галіна НІЧЫПАРОВІЧ

## Чаканне сустрэчы

*Куточак мой родны,*
*Дзе думкі начуюць,*
*Дзе боль і тугу маю*
*Сэрцам адчуюць,*
*Пяшчотай і ласкай*
*Мяне сустракаеш.*
*Я рэдка бываю,*
*А ты ўсё чакаеш.*
*Калыска дзяцінства,*
*Юначыя мары,*
*Рачулкі сцяжынка,*
*Лясныя абшары,*
*Бацькоўская хата,*
*Буслянка ля бэзу —*
*Вы помніце тую*
*Дзяўчынку-гарэзу?*
*Гадам не вярнуцца,*
*Бо так не бывае.*
*А сэрца ўсё помніць,*
*Чагосьці чакае.*
*Чакае сустрэчы.*
*У хвілі расстання.*
*Жыву і малюся*
*На гэта спатканне.*

## Хай не кране расчараванне

*Змахну самоту,*
*Каб аднойчы*
*Прызначыў*
*Вечар нам спатканне.*
*Парой*
*Мне сняцца твае вочы,*
*Бо зацягнулася чаканне.*
*Калі ж ты побач,*
*Мне здаецца,*
*Што сэрца*
*Захлынуцца можа*
*Самотай,*
*Як тут мне сагрэцца,*
*А першай*
*Крок зрабіць*
*Нягожа.*
*Злятаюць дні,*
*Сплываюць ночы —*
*Хай не кране*
*Расчараванне.*
*Я так жадаю,*
*Каб аднойчы*
*Прызначыў вечар нам*
*Спатканне.*

## Вастраў чаромхі

*Белай веяй*
*Чаромхі цвет*
*Засыпае,*
*Бы снегам,*
*Наўкола.*
*Лёгкі ветрык*
*Не просіць дазволу,*
*Свой малюе*
*Няспынна*
*Сюжэт.*
*І прыходзіць*
*Лірычны настрой,*
*Запрашае*
*Мяне на спатканне*
*Мая памяць —*
*Мой востраў чакання,*
*Дзе вірлівы*
*Пялёсткавы рой.*

*Паралелі*

# «Час цішыні скончыўся»

**Дабрачынны баль кнігі адгрымеў малатком на аўкцыёне, самыя яркія праекты года знайшлі сваіх зацікаўленых чытачоў, ды і некаторыя новыя ідэі атрымалі вартае прадстаўленне. Але кніжнікі нават і не думаюць пра калядныя канікулы: дбаюць пра далейшае развіццё галіны, вызначаючы прыярытэтныя крокі і рашэнні на будучыню. Так, ужо на наступны дзень пасля Балю вядучыя спецыялісты галіны зноў сабраліся ў Доме Масквы на сістэмнай сустрэчы — VI Міжнароднай канферэнцыі выдаўцоў, паліграфістаў і распаўсюджвальнікаў друку “Рынак друкаванай прадукцыі ва ўмовах трансфармацыі эканамічных адносін Беларусі, Расіі і Казахстана”. У якасці арганізатара канферэнцыі выступіў Саюз выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Асацыяцыі кнігараспаўсюджвальнікаў незалежных дзяржаў і Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі. Паступова мы будзем знаёміць чытачоў “Кніжнага свету” з выступоўцамі і асноўнымі ідэямі, выкладзенымі ў іх дакладах.**

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота з інтэрнэт-сайта**
**www.retailmagazine.ru**



Сёння ж вітайце Дзяніса Котава, генеральнага дырэктара піцерскай гандлёвай сеткі “Буквоед”. Ён у кніжнай справе з 1992 года, у 2000 годзе стварыў кампанію “Буквоед”, сёння па-ранейшаму ўзначальвае гэтую структуру. Дзяніс Аляксеевіч падкрэсліў, што для Беларусі і Расіі можна выпрацаваць адзіную паняційную і метадалагічную базу, вызначаць прыярытэтнасць тых ці іншых задач, звязаных у першую чаргу з кнігараспаўсюджаннем, бо гэтая функцыя ўніверсальная для нашых дзяржаў. У сваім дакладзе ён таксама разважаў…

### ПРА КНІГІ І КНІЖНІКАЎ

— Кніжнікамі па сутнасці з’яўляюцца не толькі тыя людзі, якія працуюць у галіне, але і ўсе кампетэнтныя чытачы, якія распаўсюджваюць кніжную культуру вакол сябе. Калі павысіць іх граматнасць і матывацыю на больш актыўнае распаўсюджанне гэтай культуры і інфармацыі, то мы можам зладзіць эфект, на які разлічваюць вытворцы алкагольных напояў і цыгарэт: карыстальнікі самі распаўсюджваюць культуру, у якой яны задзейнічаны.

Мы ж прапагандуем вельмі інтэлігентны падыход, мы самі ціхія, і кніга вельмі ціхі прадукт, бо яго трэба спажываць у адзіноце. Але час ціхай пазіцыі кнігі праходзіць, яна павінна стаць гучнай, актуальнай і сучаснай. Культура чытання можа быць перададзена моладзі толькі шляхам перапазіцыянавання кнігі і кніжнай прасторы: з атавізму сучаснага грамадства ў перспектыўны прадукт, які развіваецца. А прастора кнігарні: са склада, дзе захоўваюцца кнігі, у цэнтр культуры, кантактаў, сустрэч зацікаўленых пэўнай тэматыкай асоб. Такую ідэалогію мы прапагандуем ужо некалькі год у “Буквоеде”, і вынікі ёсць. Гадавы абарот сеткі — каля 70 мільёнаў долараў пры тым, што мы працуем толькі ў Санкт-Пецярбургу і на паўночным захадзе Расіі. Павелічэнне абароту ў два разы — рэальная мэта, якая можа быць дасягнута за тры гады, нават пры тых умовах, што мы працуем на камерцыйнай арэндзе.

### ПРА СПАЖЫЎЦОЎ І ІНФРАСТРУКТУРУ

— У доўгатэрміновай перспектыве базавая інфраструктура — крамы, а асабліва крамы вялікай плошчы — ключавы момант для развіцця ўсяго ланцужка кніжнага гандлю: ад вытворцаў да спажыўцоў. Шопінг у нас у крыві. Людзі павінны хадзіць па нейкіх крамах, таму нам трэба зрабіць так, каб яны ішлі ў кнігарні. Бо калі не будзе кнігарняў, яны будуць хадзіць проста па гандлёвых цэнтрах. А калі кнігарні будуць нецікавымі, то яны будуць прастойваць. Больш за тое, павінен існаваць адзін галоўны кніжны магазін краіны, горада, дзе было б прадстаўлена каля 100 тысяч найменняў кніг і дзе праходзілі б галоўныя кніжныя падзеі народа, культуры, літаратуры. Такі вопыт у нас ужо ёсць, яго трэба рэалізоўваць і ў Беларусі.

Дэградацыя чытача — павольны працэс, а ўзнаўленне цікавасці да кнігі адбываецца яшчэ павольней.

### ПРА СІСТЭМНАСЦЬ І КРЭАТЫЎ

— “Новый книжный Буквоед” — рознічная сетка, якая да гэтага часу застаецца адзінай федэральнай сістэмай у Расійскай Федэрацыі. Я разумею, што толькі па логіцы савецкай глабальнай сістэмы можа выбудоўвацца кніжны рознічны гандаль у прынцыпе. Важна, што ў Беларусі гэтая сістэма не распалася,ператварыўшыся ў ААТ “Белкніга”. Але далей стаіць пытанне тэхналагізацыі гэтай структуры, павышэння маркетынгавай актыўнасці, крэатыўнасці супрацоўнікаў. Тэрытарыяльная інфраструктура — абмежаванне першага парадку, за ім ідзе тыражнасць, потым — зніжэнне цаны.

Іншы аспект — медыйная і культурная прастора, выкарыстанне тэле- і радыёэфіру для прапаганды кніг. Трэба запускаць гэты працэс: калі папулярныя людзі з тэлеэкрана пачынаюць расказваць, якія кнігі яны чытаюць, калі ў генеральных дырэктараў буйных кампаній на сталах ляжаць кнігі, калі кнігі становяцца прэстыжным карпаратыўным падарункам, то паступова змяняецца і стаўленне грамадскасці. А з павышэннем грашовага патоку, які назіраецца разам з вырашэннем гэтых ключавых момантаў, можна вырашыць усе астатнія дробныя пытанні.

Думаю, што Беларусь з’яўляецца адзіным магчымым палігонам, дзе для Расіі, Украіны, іншых краін СНД можа быць распрацавана паспяховая мадэль арганізацыі кніжнага гандлю. А потым яе можна прадставіць на мультыплікацыю ў іншыя краіны.

### ПРА МОЛАДЗЬ І ЧЫТАННЕ

— Цяпер мы збіраем подпісы ў падтрымку Нацыянальнай праграмы развіцця чытання. Ужо сфармулявана петыцыя наконт 100 кніг, якія сапраўды могуць стаць лакаматывам, што сфарміруе для аўдыторыі маладых людзей 14 — 25 год кола чытання. Калі моладзь пазнаёміцца з творамі, што замацоўваюць любоў да чытання і кнігі, то далей можна не хвалявацца: такі чытач з кніжнай галіны не сыдзе. А наша задача — сутыкнуць іх з кнігай, адной ці дзесяццю. Мы можам вельмі доўга вырашаць розныя пытанні, але ўсё марна, пакуль чалавек сам не зразумее, што кніга выводзіць яго асобу, якасці і прафесійныя здольнасці на зусім іншы ўзровень, дазваляе яму зарабляць больш, лепш думаць і камунікаваць. Бо гэта носьбіт мовы = культуры = наш агульны рэзананс. Таму калі нехта скажа, што ёсць нейкі іншы дзяржаўны прадукт, больш значны для асоб, якія думаюць і развіваюцца, я ніколі яму не паверу.

*Сярод кніг*

# Цеплыня чытацкай увагі

**Сцяпан МІРШЧЫНА,**
**фота Кастуся Дробава**

Сустрэчы з чытачамі — заўсёды адказны клопат пісьменніка. Гэта адчувалася і па нядаўняй імпрэзе ў бібліятэцы імя Ф. Багушэвіча г. Мінска. Тут, у кніжнай скарбніцы, якую добра ведаюць не толькі ў Фрунзенскім раёне, але і ва ўсёй сталіцы, для размовы з пісьменнікамі Валянцінай Паліканінай і Алесем Карлюкевічам сабраліся школьныя бібліятэкары. Адкрыла сустрэчу вопытны кнігазнаўца і прапагандыст мастацкага слова Наталля Стрыгельская. З дапамогай выстаўкі яна расказала пра аўтараў, якія прыйшлі да чытачоў з новымі сваімі кнігамі. Валянціна Паліканіна прачытала ўласныя вершы. Алесь Карлюкевіч расказаў пра краязнаўчыя знаходкі і адкрыцці. Асобна спыніўся на працы над кнігай “І марам волю дам”, у якой выкладзена літаратурная гісторыя Пухавіччыны — малой радзімы пісьменніка.

Размова на сустрэчы ішла і пра сённяшнія публікацыі на старонках літаратурна-мастацкай перыёдыкі РВУ “Выдавецкі дом “Звязда”, дырэктарам — галоўным рэдактарам якога з’яўляецца Алесь Карлюкевіч, а таксама — пра творчыя, культурна-асветніцкія праекты парламенцкай і ўрадавай газеты “Звязда”, дзе ёсць месца і гістарычнаму, і літаратурнаму краязнаўству.



*Аўтограф на памяць ад Валянціны Паліканінай.*

*У падтрымку чытання*



**Вячаслаў КАЛАЦЭЙ, дацэнт, загадчык кафедры этналогіі і фальклору БДУ культуры і мастацтваў, кіраўнік гурта “Ветах”:**

## НЕ ЗДРАДЖВАЦЬ ФАВАРЫТАМ

— Я даволі пераборлівы чытач: калі аўтар ці часопіс не спадабаўся, другі раз прымусіць мяне ўзяцца за яго цяжка. Але калі спадабалася, ужо не “здраджваю”: пасля “Хазарскага слоўніка” чытаю ўсё, што знаходжу з Мілорада Павіча, а пасля “Уліса” — усё з Джэймса Джойса, чытаю “ад вокладкі да вокладкі” расійскі “Rolling Stone”. Чытаць якасную літаратуру і публіцыстыку неабходна: гэта гарантыя захавання інтэлекту і жыццёвага тонусу. Электронныя камунікацыі чытанку замяняюць толькі часткова: кніга, друк — з’ява асобнай культуры, куды акрамя тэксту далучаны паліграфія, кантэкст, талент выдаўцоў, рэдактараў і аўтараў прадмоў.

Першую кнігу па-беларуску мне чыталі бацькі. Гэта быў “Кароль Мацюсь Першы” Януша Корчака. Я шмат з яе памятаю дагэтуль, яна моцна на мяне паўплывала ў плане фарміравання патрэбы ў ідэалах. На фарміраванне камунікацыйных здольнасцей і “адаптацыйнай стратэгіі” ў юнацтве “ціснулі” кнігі Янкі Маўра (“Сын вады”, “Амок”, “У краіне райскай птушкі”), Фазіля Іскандэра (“Дзень Чыка”) і Дастаеўскі са сваімі “Бесамі” і “Ідыётам”. Я з задавальненнем чытаў “Белую гвардыю” Булгакава, аднак уражанне ад “Майстра і Маргарыты” было значна больш моцным.

Што да любімых аўтараў, то з нашых назаву Уладзіміра Караткевіча. А ўвогуле люблю кнігі Дзмітрыя Мярэжкоўскага (асабліва “Тутанхамон на Крыце”) і Уладзіміра Набокава. Гэта, напэўна, не дзіўна: апошні падабаецца ўсім творчым людзям, паколькі бароніць іх ад бязлітаснай самарэфлексіі. Любімая кніга — “Юліян” Гора Відала. Таксама сярод фаварытаў — браты Стругацкія і Роберт Грэйвз, асабліва яго “Белая багіня”.

Калі пісаў кандыдацкую дысертацыю, то звярнуўся да вопыту літоўкі Марыі Гімбутас (“Славяне” і “Old Europe”). Яе кнігі ў Беларусі малавядомыя, і гэта істотна збядняе гуманітарыстыку. “Касмалогія першабытнага грамадства” ўкраінца Валянціна Даніленкі таксама дапамагла. Гэта кніга па сімвалах старажытнасці. А мой навуковы кіраўнік Энгельс Дарашэвіч своечасова пазнаёміў са спадчынай Рэнэ Генона. І з тых часоў я не раз пераконваўся, што яго кнігі — сапраўды “найвялікшы інтэлектуальны цуд з часоў Сярэднявечча”.

# Фея і яе каралеўства

Чытаючы, мы і нашы дзеці звычайна мусім уяўляць сябе багацей і ярчэй, чым у штодзённых рэаліях, а значыць, здольнымі на адпаведнае ўнутранае багацце. Добрая кніга — выток нашага патэнцыялу, асабліва неабходны ў дзяцінстве. Ніякая віртуальная прастора не можа быць яго заменай. “Менавіта з дзіцячай кнігі пачынаецца паўнавартаснае жыццё дзіцяці”, — творчае і мацярынскае перакананне паэтэсы Наталлі Ігнаценкі.

**Тацццяна СТУДЗЕНКА, фота Кастуся Дробава**



У 2011 годзе РВУ “Літаратура і Мастацтва” выдала два яе зборнікі: “Казачныя падарожжы з прыгодамі” і “Як прафесію сабе дзеці выбіралі”. На аўкцыёне падчас Каляднага дабрачыннага балю гэтыя кнігі, прэзентаваныя Выдавецкім домам “Звязда”, сталі адным з самых дарагіх лотаў. Стартавы кошт іх узрос ад пяцідзесяці тысяч да трох мільёнаў чатырохсот беларускіх рублёў. Гэтыя грошы прапанаваў за кнігу Анатоль Статкевіч-Чабаганаў, які ведаў, што сродкі будуць выкарыстаны для падтрымкі дзіцячых дамоў. Ці можа быць больш яскравае сведчанне запатрабаванасці дзіцячай кнігі, мэтазгоднасці яе выдання? Не кажучы пра непрагматычны бок гэтай справы.

Падставай для знаёмства маленькіх чытачоў з чароўнай казачніцай стала прэзентацыя яе кніг у Цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага. “Фея” жыве ў Маскве, хоць і нарадзілася ў Беларусі, на Магілёўшчыне. Гэтым разам візіт працягваўся толькі два дні, так што трэба аддаць належнае супрацоўнікам бібліятэкі, якія здолелі тэрмінова арганізаваць “пазаштатнае” свята для сваіх чытачоў. Дарэчы сказаць, што напярэдадні Новага года і Каляд яно якраз своечасовае, таму што прэзентавалася менавіта навагодняя казка — “Зімовыя прыгоды двух братоў”.

А цяпер уявіце сабе ўнікальнае відовішча. Імправізаваная зала: лаўкі лесвіцай для чытачоў-гледачоў-слухачоў, якім пісьменніца чытае казку з уласнага асобнічка. Каля яе — чароўныя куфэрачкі. Яны адчыняюцца адпаведна прачытаным эпізодам — і ў іх дзеці на ўласныя вочы бачаць увасобленую Казку: маленькія постаці маленькіх герояў і казачных істот. Гэтыя інсталяцыі — сапраўдны цуд, створаны Наталляй Ігнаценкай уласнымі рукамі. Невыпадкова мы назвалі яе Феяй.

Пасля чытання пісьменніца прапанавала маленькім удзельнікамімпрэзы віктарыну з пытаннямі. Найбольш уважлівыя слухачы атрымалі ў падарунак сняжынкі, а самы ўважлівы — чароўны “сярэбраны” бранзалет. Ён насамрэч чароўны, бо адзначае Сапраўднага Сябра. Менавіта такімі выяўляюць сябе галоўныя героі адпаведнай казкі пра двух братоў, прататыпамі якіх сталі дзеці пісьменніцы. Яны дзейнічаюць побач з героямі казак Андэрсена, лепей за якіх цяжка што прыдумаць, — ды і не трэба. Знаёмыя ўсім істоты проста прыходзяць у сучасны свет, каб выпрабаваць на смеласць, шчырасць і сяброўства сённяшніх дзяцей.

Цуды казкі на гэтай імпрэзе — яшчэ не ўсе цуды. Галоўнае, што пасля сустрэчы з пісьменніцай кожны ўдзельнік пакінуў бібліятэку з адной ці дзвюма кніжкамі. Іх прачытаюць — і вернуцца па новыя кнігі, новыя падарожжы, новыя ўражанні. Менавіта так і становяцца чытачамі.



## Анкета «ЛіМа»

# Прафесія і прызванне

**1. Ваша асноўная спецыяльнасць і яе сумяшчэнне з творчасцю?**
**2. Перашкаджае ці дапамагае работа творчасці?**
**3. Што першаснае ў агульнажыццёвым?**
**4. Як распараджаецеся ганарарамі?**
**5. Якую б прафесію выбралі, каб не жыццёвыя абставіны?**
**6. Стаўленне сваякоў, сяброў, знаёмых да работы і да творчасці?**
**7. Дзе больш паспяхова рэалізуецеся?**



**Міхась СЛІВА, пісьменнік:**

1. Асноўная мяне прафесія, якой я аддаў амаль усё жыццё, — журналістыка. І спалучэнне яе з літаратурнай творчасцю мае сваю спецыфіку. Многія пішуць і гавораць, што праца ў газеце перашкаджае, не дае магчымасці напоўніцу разгарнуцца ў літаратурнай дзейнасці. Але ж ёсць і прыклады ўдалага спалучэння (пра што яскрава сведчыць паспяховая праца Алеся Карлюкевіча, Алены Брава, Ірыны Тулупавай і многіх іншых пісьменнікаў-журналістаў).

2. Асабіста мяне асноўны занятак — праца ў раённай газеце — узбагачае духоўна, часта “падкідвае” гатовыя сюжэты для творчасці. У газеце пішу пра людзей, якія жывуць побач, ведаю іх радасці і клопаты. А яшчэ — іх слабасці і недахопы, што дапамагае ствараць гумарыстычныя і сатырычныя творы. Акрамя таго, рэгулярнае напісанне тэкстаў для газеты не дазваляе расслабляцца, патрабуе трымаць сябе “ў форме”. Адначасова праца ў газеце вымагае значных затрат духоўных і фізічных сіл, і часта вечарам стомленаму цяжка зноў брацца за пяро і пісаць.

3. У агульнажыццёвым першаснае — імкненне быць карысным іншым, рабіць дабро, не крыўдзіць, змагацца за справядлівасць, у тым ліку і з дапамогай журналістыкі і літаратуры.

4. Ганарарамі (якія яны — вядома!) за апублікаваныя літаратурныя творы распараджаюся сам. Трачу на кнігі, паштовыя канверты, падпіску на любімыя выданні і цукеркі для жонкі і ўнукаў (на большае не хапае).

5. Мяркую, кім бы я ні быў, дзе б ні даваялося працаваць, я ўсё роўна пісаў бы і журналісцкія матэрыялы, і літаратурныя творы.

6. Адна са сваячак, былая настаўніца, выказалася так: “Добра табе, напісаў нешта ў газету ці часопіс — і грошы ў кішэні!” “А хто вам не дае? Бярыце ручку, паперу і пішыце — зарабляйце грошы, грабіце іх хоць рыдлёўкай!” — адказваю я.

7. Гледзячы як ставіцца да зробленага, бо ў журналістыцы я ўзнагароджаны прэміяй Беларускага саюза журналістаў “Залатое пяро”, а ў літаратуры — Рэспубліканскай прэміяй “Залаты Купідон”. Але ж можна было б, відаць, дасягнуць і большага, калі б засяродзіўся на нечым адным. А можа, я памыляюся?..

## На сустрэчу з Кнігай

***Вялікія Калядныя сустрэчы*** *адбудуцца ў другой палове снежня ў магазінах ААТ “Белкніга”, а таксама ў гандлёвай сетцы арганізацый “Белсаюздрук”. Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Выдавецкі дом “Звязда” запрашае ўсіх прыхільнікаў прыгожага мастацкага слова на сустрэчы з вядомымі беларускімі аўтарамі.*

*Так,* ***у краме № 13*** *РУП “Белсаюздрук”, што знаходзіцца ў падземным пераходзе каля станцыі метро “Плошча Перамогі”, можна будзе задаць цікавыя пытанні і пачуць пра самыя новыя і незвычайныя творы Раісы Баравіковай (20 снежня, пачатак сустрэчы а 17.00) і Уладзіміра Сцяпана (21 снежня, пачатак а 16.00)*

*А* ***ў Цэнтральнай кнігарні*** *ААТ “Белкніга” пройдзе цэлы калейдаскоп сустрэч — у госці да кнігі прыйдуць пісьменнікі Сяргей Трахімёнак (19 снежня, пачатак а 18.00), Міхась Шавыркін (20 снежня, пачатак а 18.00) і Анатоль Бутэвіч (21 снежня, пачатак а 17.00).*

*Чакаем вас, дарагія сябры!*

## Імпрэзы

# Калі нарадзіўся Максім Багдановіч?

Святкаванне дня народзінаў Максіма Багдановіча, якое пачалося 9 снежня, працягнулася на наступны дзень у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Давайце ўявім, што на свяце прысутнічаў сам імянiннік. Што б яму спадабалася найбольш? Чым быў бы ўсцешаны Максім Адамавіч?

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Найперш, ён быў бы прыемна здзіўлены колькасцю гледачоў. Самы што ні на ёсць аншлаг. У гардэробе нават нумаркоў усім не хапіла.

Па-другое, паэта безумоўна парадавала б гісторыя, якую распавёў Навум Гальпяровіч. Гісторыя пра сучаснага беларускага пісьменніка, ураджэнца Полацка, чый бацька быў вайсковец і да беларускай мовы, мякка кажучы, ставіўся абыякава. Да таго ж, хлопчык быў вызвалены ад вывучэння мовы ў школе. І аднойчы Вінцэсь Мудроў (а быў гэта ён) выпадкова натрапіў на кніжачку Максіма Багдановіча — што і перавярнула яго светапогляд, пасля чаго Беларусь атрымала яшчэ аднаго пісьменніка.

Музычны складнік імпрэзы таксама спадабаўся б Максіму Адамавічу. І справа нават не ў тым, ШТО спявалі (а былі гэта, зразумела, песні на вершы Багдановіча), а ЯК. Алеся Сівохіна адразу ж скарыла голасам — пранікнёны, глыбокі, гожы. “Зорку Венеру” падпявалі ўсёй залай. Гурт “Нельга забыць”, знакаміты праграмай на вершы Караткевіча, падаў да болю знаёмую “Пагоню” так, што склалася ўражанне, бы гэтыя словы толькі ўчора напісаныя. Менавіта праз яднанне з сучаснай музыкай — да таго ж, музыкай шыкоўнай, — тэксты Багдановіча становяцца актуальнымі, яны ажываюць. Так, вы будзеце спрачацца, кажучы, што яны і так жывейшыя за ўсіх жывых і г. д. Згодная. Але падумайце самі: ці будуць слухаць/чытаць гэтыя вершы школьнікі? А людзі, якія не цікавяцца беларускай літаратурай? У выкананні “НЗ” — будуць. Бо музыка па-сапраўднаму чапляе слухача і тым раскрывае тэкст.

Але не будзем забываць, што Максім Багдановіч — не толькі класік беларускай літаратуры, але і гожы юнак. Жанчынам пасля 70 падабаецца сур'ёзны і, як кажуць, “положительный” Якуб Колас, кабетам гадоў 35 і вышэй — гжэчны Янка Купала, а вось Максім Багдановіч падабаецца ўсім без выключэння. Лёгка ўявіць, як бы пры гэтых словах малады паэт сарамліва ўсміхнуўся. А можа б і пачырванеў. Крыху.

Бясспрэчным сюрпрызам стала б для Багдановіча складзеная паэтам і астролагам Міколам Кандратавым касмаграма. А тым больш — новая версія нараджэння імяніннiка: сп. Мікола сцвярджае, што той з'явіўся на свет у 16 гадзін 11 хвілін, а не а дзявятай гадзіне, як пісаў Адам Ягоравіч, бацька Максіма. Падрабязней пра гэта — у снежаньскім нумары “Маладосці” ў артыкуле “Тры градусы геніяльнасці Максіма Багдановіча”.

Што ж, тут рэакцыю Максіма Адамавіча адгадаць складана...

# Дыхание Америки 1970-х

Уверена, что имена этих американских писателей хорошо известны любителям культуры битников, кино, музыки и литературы постмодерна. Один из них был хорошим другом актёра Джонни Деппа, экранизации его книг “Страх и ненависть в Лас-Вегасе” и “Ромовый дневник” получили большую популярность, а сам писатель стал известен как основатель гонзо-журналистики. Второй записал композицию совместно с Куртом Кобейном (Nirvana), оживил “метод нарезки” в литературных произведениях, а фильм на основе его романа Naked Lunch (“Голый завтрак / Обед нагишом”) до сих пор будоражит умы необычной образностью. Не так давно при поддержке ООО “Харвест” вышли их книги прозы. Итак, вниманию читателей “Кніжнага свету” представляем сборник Хантера С. Томпсона “Большая охота на акул” и последний роман из Лондонского цикла Уильяма Берроуза “Пристань святых”.

**Юзефа ВОЛК**

## ОХОТА НА ГОНЗО-ЖУРНАЛИСТА

Хантера С. Томпсона можно смело считать одной из самых ярких фигур в американской литературе второй половины XX века. Он очень любил абсент, некоторое время работал в журнале *The Time*, перепечатал на машинке “Великий Гэтсби” Ф. Скотта Фицджеральда и “Прощай, оружие!” Эрнеста Хемингуэя, объясняя это тем, что хочет узнать писательский стиль авторов. После смерти завещал развеять свой прах выстрелом из пушки. Кстати, эту церемонию в память о своём друге организовал Джонни Депп, с которым писатель очень сдружился ещё во время съёмок “Страха и ненависти в Лас-Вегасе”.

Но если оценивать вклад Томпсона в словесное искусство, то наиболее ценным можно считать создание и развитие гонзо-журналистики. Тексты именно этого жанра собраны под одной обложкой книги **“Большая охота на акул”**. Но сначала обратимся к истории самого термина.

В энциклопедии читаем: “Гонзо-журналистика (от англ. *Gonzo — рехнувшийся, чокнутый, поехавший*) — направление в журналистике, представляющее собой глубоко субъективный стиль повествования, ведущегося от первого лица, в котором репортёр выступает в качестве непосредственного участника описываемых событий и использует свой личный опыт и эмоции для того, чтобы подчеркнуть основной смысл этих событий. Использование цитат, сарказма, юмора, преувеличения и даже ненормативной лексики также являются неотъемлемой чертой этого стиля”.

Её можно считать и ответвлением так называемой новой журналистики, движения 1960-х. Идеи Томпсона были подхвачены другими популярными в то время авторами: Лестером Бэнгсом и Джорджем Плимптоном. Интересно также, что впервые термин “гонзо” был использован редактором американского журнала *The Boston Globe* Биллом Кардозо после того, как он прочитал статью “Дерби в Кентукки упадочно и порочно”, написанную журналистом Хантером С. Томпсоном. Сам Кардозо утверждал, что словом *Gonzo* в ирландских кругах Южного Бостона называют человека, который последним из всей компании сможет стоять на ногах после ночного алкогольного марафона. Согласно другой версии, этот термин может происходить от испанского *gonzagas*, что означает “я тебя одурачил”, “нелепости”.

Как бы то ни было, но такой смелый и честный подход нравился читателям и до сих пор нравится. В обратном случае не стали бы редакторы рисковать и издавать сборник статей Томпсона отдельной книгой. Странно при этом чувствовал себя и сам писатель. В предисловии к книге он говорит: “… очень странно чувствовать себя сорокалетним американским писателем в этом веке, сидеть одному в огромном здании на Пятой авеню в Нью-Йорке в час утра перед Рождеством, в двухстах милях от дома и составлять оглавление для собственного собрания сочинений в кабинете с высоченной стеклянной дверью, выходящей на террасу с видом на фонтан отеля “Плаза”. Очень странно”.


Хантер С. Томпсон.

Но вернёмся к самой книге. Она состоит из множества заметок, отрывков, газетных статей и зарисовок. Хоть они были написаны достаточно давно (в оригинале книга вышла в 1979 году), их чтение захватывает. Интересна прежде всего личность автора и его взгляд на некоторые вещи. Например, мы узнаём, как Томпсон был кандидатом на пост шерифа Аспена, хотел вместо улиц сделать аллеи и запретить автомобили. Сумасшествие? В некотором роде да, но и в такой позиции есть смысл. Американский футбол и его закулисье, знакомство с Мухаммедом Али, наброски в стиле “Страха и ненависти в Лас-Вегасе”, рассказы об интересных личностях, например, художнике Лайонеле Олейя, рассуждения о политике и многих других аспектах жизни… В общем, есть что почитать и над чем задуматься. Тем более что Америка 1970-х предстаёт перед нами сквозь восприятие гонзо-журналиста, а он уж точно расскажет всё как на духу.






Уильям Берроуз.




## РАЗРЕЗАТЬ И СКЛЕИТЬ

Если говорить о нашем втором герое — Уильяме Берроузе, то у него совсем иная судьба. Коротко: родился в состоятельной семье, получил образование в Гарвардском университете, много путешествовал и учился в Европе. В 1940-х годах познакомился с творчеством писателей-битников, первую книгу опубликовал в достаточно позднем возрасте — в тридцать девять лет. Всего за его авторством вышли почти два десятка романов и более десяти сборников малой прозы… Кстати, книги с его письмами, сборники интервью и множество литературоведческих работ по произведениям продолжают выходить и после смерти автора в 1997 году.

Примечательно, что роман **“Пристань святых”** (впервые опубликован в 1973 году) стал последней крупной работой писателя во время добровольного изгнания в Европу в конце 1960-х — начале 1970-х. В то же время это один из самых коротких романов автора. В нём Берроуз использует персонажей своих предыдущих работ, здесь также появляются несколько героев, которые позже перейдут в следующие его книги.

Роман имеет несколько сюжетных линий, они переплетаются самым причудливым образом. Основной сюжет рассказывает о группе людей, которые, путешествуя во времени, пытаются переписать историю. “Пристань святых” критики назвали “самой интеллектуальной из поздних работ Берроуза”, “постмодернистским опытом автобиографии”, “путеводителем по Дантову аду человеческой психики”. Но это по сути история человека, не просто расширяющего границы сознания, но и исследующего психологические и подсознательные глубины своего внутреннего “я”. Психоделическое путешествие героя постепенно превращается в настоящее блуждание по тёмным закоулкам времени и пространства, искусства, философии.

Важно ещё и то, что здесь читатель может оценить всю искусность, с какой Берроуз владеет “методом нарезок”: специальным художественным приёмом: текст разрезается на кусочки, которые позже комбинируются в определённом порядке. Известно, что писатель был приверженцем этого метода, сначала экспериментировал с классическими текстами, но позже стал подвергать “нарезке” и свои. Каким образом работает этот метод и что получается в итоге? Читайте “Пристань святых” — и узнаете.

# Притчи для всех




Поучительные истории. Простой и доступный язык. 77 притч, которые помогут переосмыслить некоторые вещи, по-другому взглянуть на жизнь. Их хочется читать и перечитывать не спеша перед сном, погружаясь в неспешный ход повествования, или обсуждать с друзьями, делиться своим мнением, переживаниями, мыслями. Таким образом, изданная при поддержке ООО “Харвест” книга **“Притчи@ру. Секрет счастья”**, составителем которой является Елена Цымбурская, уверенно претендует на звание настольной для многих поколений читателей.

Маленькие добрые рассказы и легенды разных стран собраны под одной обложкой, “чтобы понять себя, жизнь и тех, кто нас окружает. Это истории о радости, отзывчивости, надежде, которые помогают читателю выжить, преодолеть трудности и даже найти в себе силы полюбить этот мир”.

Кстати, перед нами уже второй том избранных притч. Не за горами и третий. Но по задумке третья книга проекта будет отличаться от первых двух. Так, в “Послесловии от составителя” Елена Цымбурская пишет, что когда собирала истории для первых двух книг, то заметила, что все они очень грустные, очень редко попадались истории о радостном или смешном. Даже друзьям не удавалось ничего подходящего вспомнить. Но она надеется, что общими усилиями — своими и читательскими — удастся собрать томик историй о радости, отзывчивости, надежде. Поэтому Е. Цымбурская обращается к читателям: “Приглашаю всех принять участие в составлении третьего тома притч, где переплетутся открытая русская душа, украинское лукавство, еврейская тонкость, узбекская мудрость, грузинский темперамент… и общечеловеческая, интернациональная радость жизни, смех, счастье бытия”.

Так что, если вспомните свою добрую историю, пишите составителю на адрес pritchi@mail.ru, и пусть к общим положительным чертам народов добавятся белорусские скромность и терпеливость.

**Чеслава ПОЛУЯН**

# Мадонна Максіма Багдановіча

## ДА 100-ГОДДЗЯ НАПІСАННЯ ЦЫКЛА ВЕРШАЎ “КАХАННЕ І СМЕРЦЬ” М. БАГДАНОВІЧА

Ірына ШОРАЦ

Пэўна, няма такога паэта, які б не прысвяціў хаця б адзін верш каханню. На маю думку, самы дасканалы вобраз жанчыны створаны ў самага маладога класіка нашай літаратуры Максіма Багдановіча, рамантыка з рыцарскай душой, які ў вершах, нібы мастак, намаляваў Жанчыну-Мадонну, жанчыну, якая напоўнена шчырым пачуццём светлага кахання і безумоўнай любові, жанчыну, якая нараджае жыццё.

Сто год таму Максім Багдановіч напісаў цыкл вершаў “Каханне і смерць” (датуецца 1912 годам). Дарэчы, як сведчыць перапіска паэта з рэдакцыяй газеты “Наша Ніва”, будова “Вянка” не зусім адпавядала аўтарскай задуме. З-за фінансавых цяжкасцей, якія патрабавалі скарачэння аб’ёму кніжкі, нізка “Каханне і смерць” у “Вянок” не ўвайшла. І толькі дзякуючы Літкамісіі Інбелкульта, якая ў 1927 годзе займалася перавыданнем “Вянка”, раздзел “Каханне і смерць” быў уключаны ў цыкл “Мадонны” і пасля гэтага ўваходзіў ва ўсе наступныя выданні.

Нізка “Каханне і смерць” складаецца з 13 вершаў, якія прысвечаны жанчыне-маці. Тут Максім Багдановіч малюе свой ідэал жанчыны, услаўляе мацярынства, паэтызуе цяжарнасць, чаканне і нараджэнне дзіцяці, гатоўнасць аддаць жыццё за яго. Прачытайце, калі ласка, пры магчымасці вершы Максіма: “Як хораша, калі дзіцё…”, “Цяжарная”, “Да вагітнай”, “З енкам дзіцё ты раджаеш…”, “Без сіл, уся ў пату, як белы снег бляднa…”, “Пасля радзін ты ўсё штодня марнееш…”.

Багдановічу не дадзена было стаць бацькам, таму, як адзначалі многія даследчыкі, цяжарная жанчына выклікала ў яго жаданне асэнсаваць унікальнасць ролі жанчыны. Ён ім спачуваў, бо дзвюх дарагіх жанчын у яго забрала нараджэнне новага жыцця: маці Максіма памірае ад сухот, а яе смерць была паскорана нараджэннем доўгачанай дачкі Ніначкі; Аляксандра Волжына, другая жонка бацькі, якая замяніла на некаторы час Максіму і яго братам маці, памірае пры нараджэнні дзіцяці.

*“Смертию смерть поправ”,*
*Ты ад жыцця адпачыла;*
*Ў муках памёрла сама,*
*Але дзіцё спарадзіла…*

Паэт узвышае жанчыну, яе вялікую мужнасць у перанясенні пакут падчас родаў. А яе подзвіг аддаць жыццё за дзіця Багдановіч лічыць вышэйшым за смерць у баі за свой край.

Максім Багдановіч ставіўся да цяжарных жанчын з вялікай павагай, якая сумяшчалася з усхваляванай пяшчотай. Трэба толькі прачытаць у яго вершах параўнанні з “коласам, у якім спее зернейка”, “дзераўляным яечкам”, “гняздзечкам для птушаняці”, і адразу ўсе пачуцці становяцца зразумелымі. Максім Багдановіч хацеў адчуць шчасце бацькоўства. Нельга не заўважыць, з якой пашанай ставіцца ён да шлюбу і сям’і. Не толькі жанчыны, але і мужчыны ў яго творчасці мараць пра ўтульнае сямейнае гняздзечка, дзе будзе цёпла кожнаму, калі яно пабудавана на грунце ўзаемнай любові і ўзаемаадказнасці. Гэта думка сустракаецца і ў асобных вершах, якія не ўвайшлі ў цыкл. Напрыклад, цудоўны верш “Больш за ўсё на свеце жадаю я…”, магчыма, нарадзіўся ад пачуцця кахання Максіма Багдановіча да Ганны Какуевай.



Графіка. Лапіцкая А. А. Да цыкла вершаў “Каханне і смерць”.

*Больш за ўсё на свеце жадаю я,*
*Каб у мяне быў свой дзіцёнак —*
*Маленькая дачушка — немаўляшка,*
*Аня Максімаўна,*
*Такая прыгожанькая,*
*Цёпленькая, мокранькая,*
*З чорнымі валосікамі і броўкамі,*
*З цёмна-карымі вочкамі,*
*А ручкі, як перацягнутыя ніткамі.*

У Яраслаўлі Максім пасябраваў з Дзіядорам Дзябольскім, у якога потым часта бываў у гасцях. Нават пасля ад’езду сябра ў Маскву ў 1911 — 1912 гадах Багдановіч працягваў заходзіць да Дзябольскіх, дзе ў іх вялікай сям’і пасябраваў яшчэ з адным чалавекам. Гэта была жонка старэйшага з братоў — Марыя Іванаўна Сапожнікава-Дзябольская, якая тады чакала сваё першае дзіця. Ва ўспамінах Дзіядор Дзябольскі ўзгадваў: “І вось гэтая цяжарнасць, самаадчуванне, якое ёю выклікаецца, прыкметы, адчуванні рухаў дзіцяці асабліва цікавілі Максіма, і ён распытваў аб гэтым з такой цікавасцю і так проста, што Маруся, мы так яе звалі, таксама проста і адказвала, нібы гаварыла з самым блізкім чалавекам” (Н. Б. Ватацы. Шлях паэта. 1975 г.).

Паколькі Багдановіч сустракаўся і вёў размовы з Марыяй Сапожнікавай у 1911 — 1912 гадах, можна меркаваць, што некаторыя вершы цыкла “Каханне і смерць” (“Да вагітнай”, “Як хораша, калі дзіцё пад сэрцам ціха зварухнецца”, “Праклядце вагітнай”) напісаны непасрэдна пад уплывам гэтай жанчыны і гутарак з ёю.

*Як хораша, калі дзіцё*
*Пад сэрцам ціха зварухнецца,*
*І ўраз па целу разліецца*
*Яшчэ нязвычнае чуццё*
*Душа — ў салодкім палусне...*

Перажываць, пераўвасабляцца магчыма толькі чалавеку з тонкай натурай, чуллівай душой паэта. У Максіма Багдановіча ёсць цудоўны верш “Осенью”, напісаны на рускай мове ад імя жанчыны і падпісаны: “Екатерина Февралёва”:



Сікстынская Мадонна. Геліягравюра.

*Ветер гонит желтых листьев стаю,*
*Коля смотрит и сосет свой пальчик.*
*Я сижу над теплой чашкой чаю,*
*По чаинкам тоненьким гадаю —*
*Девочка родится или мальчик.*

Захаваліся ўспаміны Лявона Зайца, знаёмага Максіма Багдановіча ў перыяд яго жыцця ў Мінску ў 1916 — 1917 гадах. Лявон згадваў: “Была ў паэта адна затаёная туга, якая ад часу да часу прарывалася. М. Б. часамі заходзіўся да нас. Быў у [гаспадара] сынок гадоў 5 — 6, хлопчык разумны і забаўны: і вось з гэтым дзіцём асабліва любіў забаўляцца і гутарыць вечнай памяці М. Б. І часам, як бы ні да кога не звяртаючыся, паэт з сумам ціха казаў: «Няўжо ж я не маю права мець такога мілага сынка?!, а я так люблю дзяцей!.. Няўжо ж я не магу падысці да падабаючайся мне дзяўчыны і перакананць яе, што дзеці — найвялікшая радасць на свеце, надзеі на выкананне таго, што мы самі не здолелі выканаць!». І часта, надта часта варочаўся пясняр да сумнай для яго тэмы...” (Н. Б. Ватацы. Шлях паэта. 1975 г.).

# «Знітаванне крэўнасцю, знітаванне Радзімай…»

Пра Максіма Багдановіча, класіка беларускай літаратуры, успаміны пакінула не так ужо і шмат крэўна блізкіх яму людзей. Гэта Адам Ягоравіч Багдановіч, бацька паэта, і яго стрыечная сястра па матчынай лініі Ганна Валасовіч-Гразнова. Гэтыя ўспаміны цяжка параўноўваць і ацэньваць, бо Адам Ягоравіч сапраўды грунтоўна падышоў да напісання мемуараў, а Ганна Валасовіч-Гразнова бачыла таленавітага сваяка ўсяго пару разоў і амаль з ім не гутарыла. Яе згадкі пра Максіма Багдановіча дадаюць усяго некалькі штрыхоў да яго партрэта, але штрыхоў важных, істотных.

Юлія МАЦУК

Ганна Валасовіч нарадзілася ў 1897 годзе ў Мінску ў сям’і Ганны Апанасаўны, малодшай сястры маці Максіма Багдановіча, і Кіпрыяна Іванавіча. Са сваякамі Багдановічамі яна пазнаёмілася ў 16-гадовым узросце, калі яе сям’я вырашыла эвакуіравацца падчас Першай сусветнай вайны з Мінска ў Яраслаўль. Тады Ганна з маці пэўны час жылі ў Багдановічаў. Значна пазней Ганна Кіпрыянаўна напісала ўспаміны пра свайго стрыечнага брата, у якіх згадвала, што Максім стрымана сустрэў сваякоў: “Хоць я са жніўня 1915 г. жыла ў Яраслаўлі, але так мала з ім гаварыла! Калі мы прыехалі ў Яраслаўль, я з мамаю заходзіла да яго ў пакой. Пра што мы размаўлялі, я цяпер не памятаю, але блізкай, цёплай гаворкі не адбылося. Не адбылося яе і тады, калі ўвесну 1916 г. мы заходзілі да яго, каб параіцца, куды нам ехаць на кумыс, бо ў мяне выявіўся лёгачны працэс. Гэтая сустрэча не пакінула следу ва ўспамінах, я адчувала нейкую скутасць, нясмеласць. Гаварыла мама з Максімам, але сардэчнасці не было. Што была за прычына — не магу зразумець”. Хацелася б заўважыць, што Ганна Кіпрыянаўна не папракае Максіма такім стаўленнем да родных, хутчэй імкнецца зразумець і нават абгрунтаваць яго пазіцыю.

Пра тое, што Максім піша вершы па-беларуску, Ганна Кіпрыянаўна даведалася яшчэ ў Мінску, праз другога стрыечнага брата: “Знаёмства з творчасцю Максіма адбылося ў пачатку 1915 г. Аднаго разу ў нядзелю да нас прыйшоў вясёлы Жэня Сякержыцкі (мой і Максімаў стрыечны брат, сын Сцефаніды Апанасаўны) і са словамі: “Цётачка, вось вершы нашага Максіма”, — падаў кніжачку “Вянок”. Вершы Жэня нам прачытаў і аддаў кнігу. Апроч Жэні, ніхто з нас не ўмеў чытаць па-беларуску”. Як згадвала пазней сваячка паэта, менавіта творчасць Максіма Багдановіча падштурхнула яе вывучаць мову сваёй радзімы. У 1922 годзе Ганна з бацькам прыехала ў Мінск па пакінутыя рэчы, знайшла сярод кніг “Вянок” і вырашыла забраць яго ў г. Уладзімір, дзе яны жылі з 1918 г. Яна засвоіла беларускі правапіс, пачала вучыць на памяць вершы. Пазней гэты экземпляр “Вянка” Ганна Кіпрыянаўна падаравала Янку Брылю, а той — музею Максіма Багдановіча ў Гродне.

Ва Уладзіміры Ганна Кіпрыянаўна працавала рахункаводам, рэвізорам. У 1926 годзе выйшла замуж за Пятра Гразнова, нарадзіла дачку і сына. Сям’я пазней пераехала жыць у г. Горкі (Ніжні Ноўгарад), пасябравала з сям’ёй Марыі Галаван, роднай цёткі Максіма Багдановіча па бацькавай лініі. Дарэчы, з Адамам Багдановічам Ганна Кіпрыянаўна таксама падтрымлівала сваяцкія стасункі, згадвала, што ён у свой час шмат займаўся з ёю рускай літаратурай і мовай, вучыў пісаць сачыненні, а на зборніку “Вянок” пакінуў аўтограф: “Табе, мілая Аня, ад твайго брата. На памяць аб ім. А. Багдановіч. 14.VII.23”.



Ганна Валасовіч-Гразнова.

З часам Ганна Кіпрыянаўна стала шчырай прыхільніцай беларускай культуры і літаратуры. У 1965 г. яна па запрашэнні Ніны Ватацы, даследчыцы творчасці Максіма Багдановіча, наведала Мінск, пазнаёмілася з вядомымі беларускімі паэтамі і пісьменнікамі, ліставалася пазней з М. Танкам, Я. Брылём, П. Панчанкам, А. Бачылам і іншымі. Нягледзячы на паважаны ўзрост, Ганна Кіпрыянаўна сапраўды адказна падышла да напісання ўспамінаў пра Максіма Багдановіча і пра сваякоў паэта: агульная колькасць лістоў гэтых мемуараў перавышае сотню.

Ганны Кіпрыянаўны не стала напрыканцы 1975 года. Да адкрыцця Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску заставалася яшчэ шэсць гадоў. І адным з першых на просьбу супрацоўнікаў музея пра дапамогу ў фарміраванні фондаў адгукнуўся сын Ганны, Мікалай Гразноў. Ён перадаў рукапісы, лісты, паштоўкі, кнігі з дарчымі подпісамі беларускіх пісьменнікаў, фотаздымкі, якія належалі Ганне Кіпрыянаўне. Ёсць цікавыя рэчы першай паловы XX стагоддзя: шкатулка, упрыгожаная ракавінкамі, падстаўка для алоўкаў і ручак.

Адарванасць ад радзімы не перашкодзіла Максіму Багдановічу стаць адной з першых велічынь у беларускай літаратуры і сваёй самаахвярнай працай на карысць Бацькаўшчыне стаць узорам для пераймання. Без сумневу, у многім дзякуючы менавіта свайму геніяльнаму сваяку Ганна Валасовіч-Гразнова таксама здолела не асіміляваца, не адцурацца беларускасці і зрабіць свой унёсак у скарбніцу беларускай літаратуры і культуры.

С. А. Шыдлоўскі; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт. — Наваполацк: ПДУ, 2012. — 147 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-531-315-2.

## АГУЛЬНЫ РАЗДЗЕЛ. НАВУКА І ВЕДЫ. ІНФАРМАЦЫЯ. ДАКУМЕНТАЦЫЯ. БІБЛІЯТЭЧНАЯ СПРАВА

### Навука і веды ў цэлым. Арганізацыя разумовай працы

**Аннотирование отдельных видов литературы**: методические рекомендации: [для студентов] / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра истории Беларуси; [составитель: Т. Г. Рожкова]. — Витебск: ВГУ, 2012. — 38 с. — 60 экз.

**Степин, В. С.** Научное познание в социальном контексте: избранные труды / В. С. Степин; Белорусский государственный университет, Институт философии РАН. — Минск: БГУ, 2012. — 415 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-656-5 (в пер.).

### Дакументацыя. Друк у цэлым. Аўтарства

**Буквар мовы славянскай**: дапаможнік для тых, хто навучаецца чытанню і пісьму. — Факсімільнае выд. — Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2012. — 186 с. — Загаловак пераплёту і тэкст на царкоўнаславянскай мове. — Укладзена ў футляр з кнігай: Буквар у жыцці нашых продкаў. — Выходныя даныя арыгінала: Вільня, 1767. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6879-83-1 (у пер.). — ISBN 978-985-6879-81-7 (памылк.).

**Заренин, М. В.** Информация: свойства, ресурсы, инновационные технологии / М. В. Заренин. — Гомель: Полеспечать, 2012. — 223 с. — 180 экз. — ISBN 978-985-7012-13-8 (в пер.).

**Суша, А. А.** Буквар у жыцці нашых продкаў = Букварь в жизни наших предков = The ABC-book in life of our ancestors / Алесь Суша; [пераклад на англійскую мову У. У. Гурыновіч; пераклад дадатку на рускую мову Т. У. Салавей]; Нацыянальная бібліятэка Беларусі. — Мінск: НБ Беларусі, 2012. — 156 с. — Тэкст паралельна на беларускай, рускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на рускай мове. — Укладзена ў футляр з кнігай: Буквар мовы славянскай. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6879-83-1. — ISBN 978-985-6879-82-4 (асоб. кн.) (у пер.).

### Інфармацыйныя тэхналогіі. Вылічальная тэхніка. Апрацоўка даных

**Белугина, Н. И.** Информатика: 7-й класс: решение упражнений по учебному пособию «Информатика. 7 класс» авторов Г. А. Заборовского [и др.] / Н. И. Белугина. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 46 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-560-103-7.

**Бобович, Н. М.** Практикум по основам информационных технологий / Н. М. Бобович, Т. Г. Чудиловская, Н. А. Аникеева; Министерство внутренних дел Республики Беларусь, Академия Министерства внутренних дел Республики Беларусь. — Минск: Академия МВД Республики Беларусь, 2012. — 135 с. — 130 экз. — ISBN 978-985-427-702-8.

**Борискевич, А. А.** Голографическая защита информации / А. А. Борискевич, В. К. Ероховец, В. В. Ткаченко; Объединенный институт проблем информатики Национальной академии наук Беларуси. — Минск: ОИПИ НАН Беларуси, 2012. — 279 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6744-73-3. — ISBN 978-986-6744-73-3 (ошибоч.).

**Веб-программирование и интернет-технологии WebConf2012**: материалы 2-й Международной научно-практической конференции, 5–7 июля 2012 г., Минск. — Минск: Издательский центр БГУ, 2012. — 191 с. — Часть текста на английском языке. — 130 экз. — ISBN 978-985-553-019-1.

**Информатика**: весь школьный курс в таблицах / [составитель Копыл Виталий Ильич]. — 3-е изд. — Минск: Букмастер: Кузьма, 2012. — 224 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-259-8 (Букмастер). — ISBN 978-985-453-548-7 (Кузьма).

**Информатика**: лабораторный практикум для студентов учреждений высшего образования группы специальностей 74 06 Агроинженерия / Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет; [составители: А. И. Шакирин, О. М. Львова]. — Минск: БГАТУ, 2012. — 163 с. — 90 экз. — ISBN 978-985-519-474-4.

**Информационное общество в Республике Беларусь** = Information society in the Republic of Belarus: статистический сборник / Национальный статистический комитет Республики Беларусь. — Минск: Национальный статистический комитет Республики Беларусь, 2012. — 126 с. — Параллельно на русском и английском языках. — 37 экз. — ISBN 978-985-7015-19-1.

**Кобайло, А. С.** Синтез вычислительных систем реального времени: лабораторный практикум: пособие по дисциплине «Проектирование информационных систем» для студентов учреждений высшего образования по направлению специальности 1-40 01 02-03 «Информационные системы и технологии (издательско-полиграфический комплекс)» / А. С. Кобайло; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2012. — 95 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-530-179-1.

**Овчинникова, Л. Г.** Информатика: рабочая тетрадь для 10-го класса: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / Л. Г. Овчинникова. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 139 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0198-8.

**Открытые технологии**: сборник материалов Восьмой международной конференции разработчиков и пользователей свободного программного обеспечения Linux Vacation / Eastern Europe 2012 (Гродно, 7–10 июня 2012 г.) / [под общей редакцией Д. А. Костюка]. — Брест: Альтернатива, 2012. — 158 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 235 экз. — ISBN 978-985-521-307-0. — ISBN 978-985-521-301-0 (ошибоч.).

**Попова, Е. Э.** Основы информационных технологий: учебно-методический комплекс для студентов, обучающихся по специальности 1-26 02 04 «Документоведение (по направлениям)» / Е. Э. Попова, Н. Н. Садова, О. Ю. Жук. — Минск: БГУ, 2012. — 230 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-594-0.

**Работа на компьютере**: иллюстрированный самоучитель / [под редакцией О. И. Бортник]. — Минск: Харвест, 2012. — 288 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9510-8 (ошибоч.).

**Федулова, Т. М.** Основы информатики и вычислительной техники: учебно-методический комплекс для студентов специальности 1-02 06 02-01 «Технология. Информатика» / Т. М. Федулова; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2012. — 231 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-531-330-5.

**Чумаков, О. А.** Основы систем автоматизированного проектирования : учебно-методическое пособие для специальности 1-53 01 07 «Информационные технологии и управление в технических системах» / О. А. Чумаков, Н. А. Стасевич; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники. — Минск: БГУИР, 2012. — 94 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-488-621-3.

**Modeling and simulation**: MS'2012: proceedings of the International conference, 2–4 May 2012, Minsk, Belarus / [editors: Victor Krasnoproshin, Anna M. Gil Lafuente. — Minsk: Publishing Center of BSU, 2012. — 178 с. — На англійскай мове. — 60 экз. — ISBN 978-985-553-010-8.

### Мадэляванне працэсаў і сістэм.

### Кіраванне. Менеджмент

**Бабосов, Е. М.** Управление персоналом: учебное пособие для студентов учреждений высшего образования по специальности «Менеджмент» / Е. М. Бабосов, Э. Г. Вайнилович, Е. С. Бабосова. — Минск: ТетраСистемс, 2012. — 287 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-536-321-8 (в пер.).

**Бланшар, К.** Одноминутный менеджер за работой / Кен Бланшар, Роберт Лорбер; [перевел с английского П. А. Самсонов]. — Минск: Попурри, 2012. — 142 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1677-9.

**Голдратт, Э.** Цель: процесс непрерывного улучшения / Элия Голдратт, Джефф Кокс; [перевела с английского Е. Федурко]. — Минск: Попурри, 2012. — 511 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1642-7 (в пер.).

**Павлючук, Ю. Н.** Логистика: (в схемах, рисунках и таблицах): краткий курс лекций: для студентов специальностей «Коммерческая деятельность», «Экономика и управление на предприятии», «Экономика и организация производства», «Маркетинг», а также для специалистов и руководителей промышленных, транспортных и торговых предприятий / Павлючук Ю. Н., Кулаков И. А., Пипко Е. В.; Министерство образования Республики Беларусь, Брестский государственный технический университет, Кафедра менеджмента. — Брест: БрГТУ, 2012. — 71 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-493-223-1.

**Подгорный, Г. В.** Экономика и управление инновациями: учебное пособие / Г. В. Подгорный, Е. И. Иванова; Учреждение образования Федерации профсоюзов Беларуси «Международный университет «МИТСО». — Минск: МИТСО, 2012. — 171 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-497-198-8.

**Управление организацией**: учебное пособие для студентов учреждений высшего образования по управленческим специальностям / [М. В. Петрович и др.; под научной редакцией М. В. Петровича]; Академия управления при Президенте Республики Беларусь. — Минск: Академия управления при Президенте Республики Беларусь, 2012. — 430 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-527-065-3. — ISBN 978-985-457-910-8 (ошибоч.).

**Усов, Л. М.** Психология управления: методический комплекс для студентов экономических специальностей дневного и заочного отделений / Л. М. Усов; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Кафедра менеджмента. — Минск: БНТУ, 2012. — 63 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-525-792-0.

### Бібліяграфія і бібліяграфіі. Каталогі

**«Аверсэв», издательство (Минск).** Издательство «Аверсэв»: начальная школа: каталог учебно-методических изданий, 2012–2013 учебный год. — Минск: Аверсэв, 2012. — 39 с. — Часть текста на белорусском языке.

**Академик Национальной академии наук Беларуси Иосиф Михайлович Богдевич**: краткий биографический очерк и библиография научных трудов: к 75-летию со дня рождения / Республиканское научное дочернее унитарное предприятие «Институт почвоведения и агрохимии». — Минск, 2012. — 99 с. — 100 экз.

**Георгій Васільевіч Штыхаў**: да 85-годдзя з дня нараджэння / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі; [укладальнік: В. У. Мядзведзева; навуковы рэдактар: А. А. Каваленя]. — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 93 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-08-1454-8.

**Летапіс перыядычных выданняў Беларусі** = Chronicle of periodical editions of Belarus: дзяржаўны бібліяграфічны паказальнік / Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная кніжная палата Беларусі. — Мінск: НКП Беларусі, 1995– — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — Тэкст на беларускай і іншых мовах.

2011 / [складальнікі: І. Г. Бабарыка, А. Л. Біруля ; адказны рэдактар І. У. Яскульская]. — 2012. — 136 с. — 60 экз.

### Бібліятэчная справа. Бібліятэказнаўства

**Беларускія пісьменнікі-юбіляры 2012 года**: біябібліяграфічны паказальнік: 2-е паўгоддзе / ДУ «Мінская абласная бібліятэка ім. А. С. Пушкіна», Аддзел бібліятэказнаўства; [складальнікі: Дзітлава В. А., Закрэўская С. І.; рэдактар: Законнікава Л. Р.]. — Мінск: Мінская абласная бібліятэка, 2012. — 73 с. — 40 экз.

**Литература — ключ к другим народам**: литературные часы, обзоры, викторины, устные журналы / [редактор-составитель Л. В. Нестерович]. — Минск: Красико-Принт, 2012. — 175 с. — 1700 экз. — ISBN 978-985-405-684-5.

**Менеджмент вузовских библиотек. Роль библиотеки университета в формировании информационной культуры специалиста XXI века**: материалы XII Международной научно-практической конференции, 12–14 октября 2011 г., Минск / [редколлегия: П. М. Лапо (ответственный редактор) и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2012. — 238 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-553-022-1.

### Музеі. Пастаянныя выстаўкі

**Брестская крепость. Прикосновение к подвигу** / [В. В. Губаренко и др.; главный редактор А. М. Суворов; фото: В. В. Байковский, С. В. Домбровский, А. М. Суворов]. — [4-е изд.]. — Брест: Полиграфика, 2012. — 67 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-6970-38-5. — ISBN 978-985-6970-28-6 (ошибоч.).

**Півавар, М. В.** Музеі Віцебска на пачатку XXI ст.: манаграфія / М. В. Півавар; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. П. М. Машэрава. — Віцебск: ВДУ, 2012. — 179 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-517-356-5.

### Газеты. Прэса. Журналістыка

**Градюшко, А. А.** Основы интернет-журналистики: учебно-методический комплекс для студентов, обучающихся по специальности 1-23 01 08-03 «Журналистика (веб-журналистика)» / А. А. Градюшко; [редактор Т. С. Петроченко]. — Минск: БГУ, 2012. — 151 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-608-4.

**Конев, Е. Ф.** Теория и практика зарубежной журналистики: пособие для студентов Института журналистики БГУ, обучающихся по специальности 1-23 01 09 «Журналистика международная»: в 3 ч. / Е. Ф. Конев, И. И. Саченко, Т. Н. Дасаева. — Минск: БГУ, 2012– — ISBN 978-985-518-632-9.

Ч. 1. — 2012. — 92 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-630-5.

**Международная журналистика-2012: современное состояние и направления развития**: материалы международной научно-практической конференции, 17 февраля 2012 г., Минск / [под общей редакцией Т. Н. Дасаевой]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2012. — 177 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-553-040-5.

### Выданні змешанага зместу. Зборнікі

**Актуальные проблемы науки XXI века**: сборник статей участников II научно-практического семинара молодых ученых, Минск, 16 февраля 2012 г. / [редколлегия: Гедранович В. В. и др.]. — Минск: МИУ, 2012. — 173 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-490-818-2.

**Афоризмы выдающихся женщин** / [автор-составитель Николай Владимирович Белов]. — Минск: Харвест, 2012. — 383 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-3815-0.

**Афоризмы выдающихся мужчин** / [автор-составитель Николай Владимирович Белов]. — Минск: Харвест, 2012. — 383 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-3814-3.

**Белорусская республиканская научно-методическая конференция молодых ученых (14; 2012; Брест).** XIV Республиканская научно-методическая конференция молодых ученых: сборник материалов, 11 мая 2011 г.: в 2 ч. / под общей редакцией В. В. Здановича. — Брест: БрГУ, 2012. — ISBN 978-985-473-863-5.

Ч. 1. — 191 с. — 75 экз. — ISBN 978-985-473-864-2.

Ч. 2. — 191 с. — Часть текста на белорусском языке. — 78 экз. — ISBN 978-985-473-866-6.

**Белорусский государственный университет (Минск). Факультет международных отношений.** Сборник научных статей студентов, магистрантов, аспирантов / Белорусский государственный университет, Факультет международных отношений; [составитель С. В. Анцух]. — Минск: Четыре четверти, 2008– — ISSN 2224-0845.

Вып. 9: в 3 т., т. 1 / под общей редакцией В. Г. Шадурского. — 2012. — 175 с. — Часть текста на английском, белорусском, испанском и немецком языках. — 90 экз.

Вып. 9: в 3 т., т. 2 / под общей редакцией В. Г. Шадурского. — 2012. — 169 с. — Часть текста на английском, белорусском и французском языках. — 90 экз.

Вып. 9: в 3 т., т. 3 / под общей редакцией В. Г. Шадурского. — 2012. — 380 с. — Часть текста на английском, белорусском, испанском и немецком языках. — 20 экз.

**Брестский государственный технический университет.** Сборник конкурсных научных работ студентов и магистрантов: [в 2 ч.] / Министерство образования Республики Беларусь, Брестский государственный технический университет; [редколлегия: главный редактор: В. С. Рубанов и др.]. — Брест: БрГТУ, 2012. — 75 экз. — ISBN 978-985-493-224-8.

Ч. 1. — 285 с. — ISBN 978-985-493-225-5.

Ч. 2. — 375 с. — Часть текста на белорусском языке. — ISBN 978-985-493-226-2.

**Личность — слово — социум**: материалы XI Международной научно-практической конференции (Минск, 29–30 апреля 2011 г.) / [редколлегия: В. В. Фалалеев (главный редактор) и др.]. — Минск: Паркус плюс, 2011. — 125 с. + 1 электронно-оптический диск (CD-R). — 100 экз. — ISSN 2076-4588.

**Молодежь в науке-2011**: приложение к журналу «Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі»: в 5 ч. / Национальная академия наук Беларуси, Совет молодых ученых НАН Беларуси. — Минск: Беларуская навука, 2012. — ISBN 978-985-08-1381-7.

Ч. 5: Серия физико-математических наук / [редколлегия: С. В. Абламейко (главный редактор) и др.]. Серия физико-технических наук / [редколлегия: П. А. Витязь (главный редактор) и др.]. — 2012. — 71 с. — 32 экз. — ISBN 978-985-08-1440-1.

**Республиканский институт высшей школы (Минск).** Научные труды Республиканского института высшей школы. Философско-гуманитарные науки: сборник научных статей. — Минск: РИВШ, 1999 — Основан в 2000 г. — ISSN 2077-4877.

Вып. 11 / под редакцией В. Ф. Беркова. — 2012. — 438 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 100 экз.

**Управление в социальных и экономических системах**: XXI Международная научно-практическая конференция, г. Минск, 15 мая 2012 г. / [редколлегия: Суша Н. В. и др.]. — Минск: МИУ, 2012. — 217 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 160 экз. — ISBN 978-985-490-813-7.

**Человек, психология, экономика, право, управление: проблемы и перспективы**: XV Международная научная конференция аспирантов, магистрантов и студентов, г. Минск, 16 мая 2012 г.: материалы конференции / под редакцией В. В. Гедранович. — Минск: МИУ, 2012. — 238 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 160 экз. — ISBN 978-985-490-819-9.

### Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура. Кнігі для самых маленькіх. Кніжкі з малюнкамі

**Акулич, И. Ф.** Нет предела совершенству / И. Ф. Акулич. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2012. — 78 с. — 41200 экз. — ISBN 978-985-557-014-2.

**Акулич, И. Ф.** О числах и не только / И. Ф. Акулич. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2012. — 31 с. — 102700 экз. — ISBN 978-985-557-013-5.

**Боровой, Е. В.** И приняло небо Бориса и Глеба: [для младшего и среднего школьного возраста] / Евгений Боровой; [художник В. Прапорщик]. — Минск: Лучи Софии, 2012. — 16 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-6171-94-2.

**Все о косах и косичках**: иллюстрированный самоучитель: самые стильные техники плетения / [составитель В. Иванова]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 57 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-073069-8 (АСТ). — ISBN 978-5-271-34214-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0116-6 (Харвест) (в пер.).

**Геращенко, А. Е.** Сыны Отечества. Славный 1812 год: [для среднего и старшего школьного возраста] / Андрей Геращенко. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2012. — 19 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-11-0643-7.

**Динозавры**: [для детей / перевод с английского Ю. Н. Касаткиной, Д. С. Щигеля, М. А. Митрофановой]. — Москва: Астрель, 2012. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-43966-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1459-2 (Харвест) (в пер.).

**Дубровская, Н. В.** Энциклопедия поделок. 1000 идей на каждый день / Н. В. Дубровская; [фотографии Оксаны Сабуровой, Ивана Прилежаева]. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Сова, 2012. — 150 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-44177-6 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1481-3 (Харвест) (в пер.).

**Животные** / [ответственный редактор М. Шинкарук ; художники: О. Талагаева и др.]. — Москва: Мир энциклопедий Аванта +: Астрель, 2012. — 231 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-98986-082-1 (Мир энциклопедий Аванта +). — ISBN 978-5-271-19859-5 (Астрель). — ISBN 978-985-16-0641-8 (Харвест) (в пер.).

**Закон Божий**: руководство для семьи и школы / составил протоиерей Серафим Слободской. — Минск: Издательство Белорусского Экзархата Московского Патриархата, 2012. — 791 с. — 20000 экз. — ISBN 978-985-511-522-0 (в пер.).

**Звезды и планеты**: иллюстрированная энциклопедия: [для детей / перевод с английского Ю. Н. Касаткиной, Д. С. Щигеля, М. А. Митрофановой]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 62 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-066394-1 (АСТ). — ISBN 978-5-271-27473-2 (Астрель). — ISBN 978-985-16-4921-7 (Харвест) (в пер.).

**Кот, В. И.** Реши, если силен, или Подружись с математикой / В. И. Кот. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2012. — 335 с. — 11100 экз. — ISBN 978-985-557-015-9 (в пер.).

**Лонг, Д.** Динозавры: [для детей / Дж. Лонг; перевод с английского А. Ю. Целлариуса]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 64 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-069240-8 (АСТ). — ISBN 978-5-271-29797-7 (Астрель). — ISBN 978-985-16-8986-2 (Харвест) (в пер.).

*Scripta manent*

# Што чыталі айцы Францішканы?



Ксёндз-пробашч Гродзенскага Францысканскага касцёла Юзаф Макарчык распавядае пра гісторыю калекцыі кніжных рарытэтаў.

Рэдкая, антыкварная кніга для шырокага кола чытачоў з'яўляецца па сутнасці terra incognita. Не кожны дзень можна пабачыць унікальныя выданні XV — XVI стст., пазнаёміцца са старажытнымі перапісанымі кнігамі, пачуць расповеды пра лёсы асобных выданняў і цэлых збораў, якія па захапляльнасці часам не саступаюць самаму вострасюжэтнаму дэтэктыву. Але жыхарам Гародні сёлета пашанцавала: супрацоўнікамі Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага задуманы і ажыццяўляецца праект "Дакрануцца да гісторыі". Гэты цыкл выставак прадугледжвае прэзентацыю рэдкіх кніг з фонду абласной бібліятэкі адначасова з кніжнымі зборамі прыватных калекцыянераў і арганізацый.

**Людміла УДАВЕНКА,**
**фота Яраслава Ванюкевіча**

Тэму першай выстаўкі вызначылі самі даты яе правядзення. Ладзілася экспазіцыя акурат падчас 200-годдзя ўступлення войскаў Напалеона на тэрыторыю Беларусі. Таму і назву выстаўка атрымала сімвалічную — "І славілі Айчыну меч і слова". Тут экспанаваліся рэдкія выданні з фонду Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага, а таксама кнігі з прыватнай калекцыі гродзенскага гісторыка, журналіста, вайскоўца Аляксандра Сявенкі.



Фрагмент экспазіцыі "Духоўная спадчына стагоддзяў: кніжныя рарытэты з фонду абласной бібліятэкі і былой бібліятэкі Ордэна Айцоў Францішканаў у Гродне".

Наступнай падзеяй у межах праекта стала надзвычай цікавая экспазіцыя "Духоўная спадчына стагоддзяў: кніжныя рарытэты з фонду абласной бібліятэкі і былой бібліятэкі Ордэна Айцоў Францішканаў у Гродне".

Бібліятэка Ордэна айцоў Францішканаў — былая манастырская бібліятэка, якая існавала многія стагоддзі пры Францысканскім кляштары ў Гродне да Другой сусветнай вайны. У пачатку XX ст. яе фонд налічваў некалькі тысяч кніг, многія з якіх пабачылі свет у XVII — XVIII стст. Падчас вайны найбольш каштоўныя выданні былі схаваны манахамі. Адметна і тое, што бібліятэка знойдзена ксяндзом Юзафам Макарчыкам толькі ў пачатку XXI стагоддзя.

Сама бібліятэка была добра арганізавана, захаваўся як каталог. Кнігі пазначаны экслібрысам з выявай герба Ордэна на польскай мове "Бібліятэка Ордэна Айцоў Францішканаў у Гродне". Відавочна, што кнігі стаялі ў належным парадку — класіфікаваліся па прадметах і па алфавіце. Усе яны мелі карткі-наклейкі з літарамі-шыфрамі лацінскага алфавіту або спецыяльныя картонныя біркі на нітках. Тут была прадстаўлена ў асноўным літаратура рэлігійнага характару, але захоўваліся таксама выданні па гісторыі, філасофіі, кананічным і грамадзянскім праве, прыродазнаўчых навуках, славеснасці і граматыцы. Гэта кнігі з еўрапейскіх друкарняў, часцей венецыянскіх, польскіх і, што асабліва важна для нас, — з друкарняў Вялікага Княства Літоўскага — Вільні, Супрасля, Львова і Нясвіжа. Мова выданняў — найчасцей польская або лацінская, сустракаюцца кнігі на іншых еўрапейскіх мовах. Важна, што асобнікі досыць добра захаваліся, амаль усе маюць тытульныя лісты, а пераплёты не моцна пашкоджаныя.

Нягледзячы на тое, што ў XVIII ст. ужо актыўна развівалася кнігадрукаванне, у той час амаль кожны манастыр Вялікага Княства Літоўскага меў вытворчасць рукапісных кніг. Такія асобнікі ёсць і ў бібліятэцы айцоў Францішканаў у Гродне. Наведвальнікі выстаўкі мелі магчымасць пабачыць некаторыя дакументы на латыні і папольску. Самы каштоўны з іх — рукапісны Зборнік прывілеяў і дакументаў XVI — XVII стст., у якім сярод выяўленых самы стары дакумент датуецца 1561 г. і ўяўляе сабой скаргу Васіля Копця на свайго ляснічага. Дакумент пісаны старой беларускай (славянскай) мовай. Маецца таксама арыгінальны дакумент 1647 г. за подпісам караля Уладзіслава IV аб нададзеным прывілеі Васілю Копцю (нашчадку) на валоданне лясамі ў Белавежскай пушчы. Захавалася Метрычная кніга парафіяльнага занёманскага гродзенскага касцёла ад 1705 па 1715 гг. Гэта метрыкі хросту і шлюбу. Адна вялася з аднаго боку кнігі, другая — з другога, сама кніга прашнуравана арыгінальнымі ніткамі з пячаткамі.

Добра захавалася тэалагічная кніга маральнага зместу пра Сакрамант пакуты. На жаль, у ёй адсутнічае тытульны ліст. Але на адвароце вокладкі, магчыма, пазначана дата, калі была перапісана кніга, — 1683 г., указаны перапісчыкі — Ежы Грынкевіч і Мікалай Ла(я)ховіч.

Распаўсюджванне ідэй Асветніцтва ў 2-й палове XVIII ст. адбілася і на кніжнай прадукцыі. Значна павялічылася колькасць выданняў навуковай і навукова-папулярнай літаратуры. Шмат намаганняў да пашырэння навуковых ведаў прыклалі ордэнскія друкарні і бібліятэкі. Таму ў складзе Бібліятэкі Ордэна айцоў Францішканаў у Гродне таксама меліся навуковыя кнігі і падручнікі па прыродазнаўстве і матэматыцы. Гэта, да прыкладу, лацінамоўная "Алгебра" Франсіска Залінгера (Полацк: Езуіцкі калегіум, 1809).

Падчас выстаўкі экспанавалася некалькі Біблій з Бібліятэкі Ордэна айцоў Францішканаў. Амаль усе кнігі маюць манументальны выгляд, вялікі фармат. Найбольшую цікавасць, думаецца, уяўляе выданне, апісанае нават у двухтомным даследаванні "Гісторыя беларускай кнігі" (Мінск: БелЭн імя П. Броўкі), гэта польскамоўны Выклад Святога Пісання Старога і Новага Запавету, складзены Марцінам Кужэнецкім, рэктарам Нясвіжскага Навіцыяту (Нясвіж: Друкарня Ордэна Езуітаў, 1769). Па сутнасці гэта вершаваны пераклад Старога і Новага Запавету, які мае на мэце пашырэнне ведання Бібліі. Справа ў тым, што ў эпоху Асветніцтва хрысціянскай веры давялося ў пэўным сэнсе займаць абарончыя пазіцыі, бо ў гэты час на першы план выходзіла сістэма свецкіх каштоўнасцей. У складзе Францішканскай бібліятэкі сустракаецца шмат венецыянскіх выданняў Біблій і Біблійных слоўнікаў XVIII ст.

Іншая тэалагічная літаратура прадстаўлена служэбнікамі, трэбнікамі, малітоўнікамі і кнігамі па царкоўным праве. Навуковыя тэалагічныя выданні ў сваю чаргу ўключаюць дыскусіі, дыспуты, трактаты, дысертацыі, у якіх разглядаюцца розныя пытанні веры. Большасць з кніг выдадзена ў Вільні.

Самым старым выданнем, прадстаўленым у экспазіцыі, стала кніга на лацінскай мове "Інструкцыі для святароў" Антоніа дэ Маліна (Кракаў, 1643). Значную частку калекцыі бібліятэкі Ордэна айцоў Францішканаў у Гродне складалі казанні, або пропаведзі, якія пісаліся з нагоды свят каталіцкага календара, важных царкоўных падзей, а таксама падзей у сем'ях уплывовых магнатаў. XVII — XVIII стст. увогуле лічыліся часам пропаведзей. Яны складаліся ў вялікай колькасці, часта былі вельмі доўгімі — 1-2 гадзіны. Асобна трэба звярнуць увагу на тое, што кожная кніга казанняў абавязкова прысвячалася мецэнату, які фундаваў выданне. Казанні выдаваліся ўсімі манаскімі ордэнамі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. На выстаўцы ў Гродзенскай бібліятэцы былі прадстаўлены віленскія, супрасльскія, львоўскія выданні Казанняў XVIII ст.

Экспазіцыя знаёміла наведвальнікаў із выданнямі, якія тым ці іншым чынам датычаць самога Ордэна айцоў Францішканаў. Сярод іх найбольш каштоўнае — "Імшал францысканскі для ўсіх Братоў Меншых усяго Ордэна Св. Францыска" (Венецыя, 1687) на лацінскай мове. Манументальнае, барочнае, багата аформленае выданне XVII ст. — гэта зборнік месаў на цэлы хрысціянскі год і іншыя нагоды, а таксама імшы, якія адпраўляюцца ордэнам Францішканаў. Кніга аформлена дасканала выкананымі гравюрамі і ініцыяламі, надрукавана на якаснай паперы з цісненнем.

Варта асобна спыніцца і на трохтомным лацінскамоўным выданні "Bullarium Franciscanum Romanorum Pontificum = Буларыум Ордэна францысканцаў Рымскага Пантыфікату" (Рым, 1761 — 1765). Тут сабраны ўсе дакументы, якія датычаць гісторыі існавання Ордэна. Кніга вельмі добра аформлена — двухколерны друк, разборлівы вялікі шрыфт, тэкст — удзве калонкі з каментарыямі на палях і ўнізе старонкі. На тытульным лісце гравюра, што распавядае гісторыю заснавання ў 1209 годзе жабрацкага манаскага ордэна Францішканаў: Папа Інакенцій III задрамаў, і яму прысніўся сон: анёл указвае на беднага манаха, які падтрымлівае спінай папскую Латэранскую базіліку.

Шэсць віленскіх і супрасльскіх выданняў Ордэна айцоў Базыльянаў экспанаваліся на выстаўцы асобна. Гэта ўніяцкі манаскі ордэн, які быў шырока распаўсюджаны на нашых землях у часы ВКЛ — у XVII — XVIII стст. Ордэн прытрымліваўся Візантыйскага абраду, але падпарадкоўваўся Папу Рымскаму. Займаўся шырокай выдавецкай дзейнасцю. Базыльяне выпускалі кнігі на царкоўнаславянскай, лацінскай і польскай мовах. Але кніг захавалася не вельмі многа, таму што калі ў 1839 годзе ў Расійскай імперыі царкоўная унія была ліквідавана, то быў распушчаны і Базыльянскі манаскі ордэн. Уніяцкія кнігі звозілі з усіх манастыроў Беларусі ў Жыровічы. Самыя каштоўныя выданні перадавалі ў Маскву, Санкт-Пецярбург і Вільню. Астатняе проста палілі.

Невялікай групай на выстаўцы былі прадстаўлены граматыкі і слоўнікі, мастацкая, гістарычная літаратура, публіцыстыка і календары. Яны мелі даволі шырокае распаўсюджанне ў XVIII стагоддзі.

Варта адзначыць, што экспазіцыя выклікала вялікую цікавасць сярод навукоўцаў-гісторыкаў, студэнтаў, чытачоў бібліятэкі. Выстаўку адкрыў Яго Магніфіцэнцыя, рэктар Вышэйшай Духоўнай семінарыі ў Гродне, ксёндз-прэлат Юзаф Станеўскі. Пра гісторыю адкрыцця калекцыі кніжных рарытэтаў XVII — XVIII стст. распавёў ксёндз-пробашч Гродзенскага Францысканскага касцёла Юзаф Макарчык. Супрацоўнікі аддзела мастацтва Гродзенскай абласной бібліятэкі падрыхтавалі падрабязную электронную прэзентацыю-агляд прапанаваных кніг. Выстаўка кніжных рарытэтаў была дапоўнена гравюрамі і фотаздымкамі на рэлігійную тэму, а таксама прадметамі рэлігійнага культу з прыватнай калекцыі Аляксандра Сявенкі.

Ягор КОНЕЎ

# Нёманскі шлях Андрэя Станкевіча

*Гістарычнае апавяданне*

1568 год. Спякотным ліпеньскім поўднем віціна "Святы Фадзей" адчаліла ад сверspecies жаньскай прыстані. Карабель даўжынёю ў семдзесят крокаў, шырынёю ў дваццаць, з палубай, мачтай, ветразем і драўлянаю выявай апостала на носе паплыў па Нёмане ў Прусію.

Кіраваў віцінай кормчы Марцін Гневаш. Яму падначальвалася каманда з трыццаці чалавек. Трум судна поўніўся бочкамі з воскам і мёдам, смалой і дзёгцем, мылам і алеем. Яшчэ віціна везла пасажыраў — гандляроў Івана Тарлецкага з Любчы і Грыгарэя Бабурку з Навагрудка. Кампанію складалі ім тузін памочнікаў і трынаццацігадовы юнак — Андрэй Станкевіч, сын крамніка са слаўнага горада Менска.

Гандляры плылі з намерам распрадаць тавар у Кёнігсбергу, набыць там зброю, віно, соль, селядцоў і з выгодай перапрадаць у Літве. Юны менянін жадаў запісацца ва ўніверсітэт у Кнайпхофе. Навучанне там каштавала танней, чым у Брунсбергу або ў Кракаве. Для бацькі Андрэя — купца Адама Станкевіча — тая акалічнасць была істотнай. Паколькі старэйшы сын Багдан паводле традыцыі з'яўляўся пераемнікам і атрымліваў усю маёмасць, то малодшы сын мусіў сам здабываць сабе спажытак. Дзеля таго Андрэю належала вывучыцца на багаслова. Такое званне гарантавала яму духоўную кар'еру ці службу сакратаром у канцыляры магната або гарадскога магістрата.

Марцін Гневаш, які абавязаўся даставіць груз і пасажыраў за два тыдні, строга сачыў, каб ніхто з каманды не лайдачыў. Кагосьці ён падахвочваў вокрыкам, некага апякаў бізуном — і грабцы старанна прыналягалі на вёслы, гналі віціну ўздоўж плыткіх берагоў.

На першы начны прывал віціна прышвартавалася ў бярэзніку блізка ад упадзення Ісլачы ў Нёман. Каманда сышла на бераг, дзе распалілі вогнішча, павячэралі, выставілі варту ды палеглі спаць пад камарыны піск. Купцы з памочнікамі храплі ў намётах, астатнія — на траве, пад плашчамі, паклаўшы торбы пад галовы і трымаючы зброю пад рукой.

На досвітку Гневаш выспяткамі абудзіў сонную каманду, загадаў усім памаліцца перад сняданкам. І тут заўважыў, што няма рулявога па мянушцы Бабёр — яго так празвалі за буйныя зубы, якімі, як хваліўся, неяк перакусіў ланцуг.

Згадалі, што рулявы з поўначы стаяў на варце. Вылаяўшыся, Гневаш выправіўся на пошукі — і знайшоў яго на ўзлессі. З прабітай галавою і грудзінай Бабёр ляжаў на пачарнелым ад крыві моху.

Пакруціўшыся вакол акрываўленага цела, кормчы дапусціў, што, верагодна, на лагер хацелі напасці гіцлі — лясныя рабаўнікі. Бабёр, маўляў, заступіў ім дарогу ды загінуў у бойцы. Дапушчэнне гучала праўдападобна — спакон веку ад рабункаў на рачных шляхах штогод гінулі сотні падарожнікаў, ішлі на дно дзясяткі суднаў.

Бабра там жа ў бярэзніку і пахавалі, прачыталі над магілай малітву, змайстравалі крыж з бярозавых плашак і ўваткнулі ў пясок.

Сонца ледзь прыўзнялося над туманным лесам, а "Святы Фадзей" ужо адчаліў ад берага. Рачны шлях то пятляў між заліўных лугоў, то прабягаў уздоўж пясчаных адхілаў, над якімі шумелі стромкія сосны.

Каманда заначавала на пясчанай касе, на сутоку Нёмана і Дзітвы. Кормчы Гневаш распарадзіўся на ноч падвоіць каравулы. Аднак і гэтая перасцярога не ўратавала чалавечага жыцця.

На золку, калі Гневаш склікаў усіх на малітву, высветлілася, што з лагера знік грабец па мянушцы Вароніна Гняздо. Так празвалі яго за густа-чорную і заўсёды ўскудлачаную шавялюру. Ён не стаяў на варце, аднак адышоў недалёка ў лес, каб "распакаваць страўнік".

Вясляра адшукалі каля высокай бярозы са спушчанымі штанамі ў смуроднай лужыне, з прабітай галавою і грудзінай. Зноў, як і напярэдадні, ніхто нічога падазронага не бачыў і не чуў.

— Тое не гіцлі, нехта са сваіх яго ўкаюкаў, — вырашыў Гневаш.

Яго асяніла: пэўна, забойца мусіў запэцкацца ў крыві сваёй ахвяры!

Кормчы ўважліва агледзеў рукі ды адзенне ў кожнага з каманды. Аднак жа, як ні ўзіраўся, не знайшоў бурых плям ані на чыёй скуры, ані на вопратцы.

Неўзабаве "Святы Фадзей" выплыў на рачны шыр. За кармою на беразе засталася чарговая магіла.

Андрэй Станкевіч спалохана пазіраў на яе і нервова ўздрыгваў: раптам і па яго душу ўначы прыйдзе забойца? На якой падставе той забірае ахвяру?..

Ды раптам нечаканая ідэя тузанула яго. Можа, нябёсам заўгодна, каб ён не дрыжэў перад таемным злачынцам, а выкрыў яго?..

І, ўсклаўшы самачынна на сябе такую місію, Станкевіч супакоена выпрастаў плечы. Гнятлівы страх адступіў у прыцемкі душы. З тае хвіліны Андрэй уважліва назіраў за кожным чалавекам на віціне, засяроджана абдумваў пачутае і падгледжанае ды рабіў свае высновы.

* * *

Нёманскі шлях — непрадказальны. Як ні сцерагліся водмеляў, а плынь штогод іх размывала ў адным месцы і насыпала ў іншым. Як ні вастрыў зрок лоцман, а віціна неаднойчы захрасала на мелкаводдзі. Тады грабцы з лаянкай браліся за шасты з жалезнымі наканечнікамі, упіраліся імі ў пясок і штурхалі віціну.

Так з дапамогай вёслаў, шастоў і ветразя "Святы Фадзей" мінуў Літву і ўвайшоў у Жамойць. Там кормчы нарэшце дазволіў начны прывал на беразе.

І той жа ноччу разлучыўся з душою яшчэ адзін чалавек — сухарлявы і лысы грабец па мянушцы Салавейка. Так таварышы жартам празвалі яго за хрыплы і рыпучы голас.

Салавейку знайшлі з дзіркамі ў галаве і жываце на беразе — недалёка ад трапа, перакінутага на борт віціны.

— Ну як жа зноў ніхто нічога не пачуў? — раз'юшана зароў Гневаш.

Ад такога крыку ўмомант папрачыналіся нават тыя, хто глыбока спаў.

Кормчы задумаўся пра верагодны матыў ліхадзейства. І паколькі сам быў дужа сквапны, то і стымул для забойства бачыў адзіны — рабунак.

Каб развеяць свае падазрэнні, кормчы паставіў узброеных памагатых ля трапа, а сам абшукаў кайстры рулявых, торбы грабцоў і скрыні пасажыраў.

Каманда і пасажыры яшчэ не даелі звараны кашаварам сняданак, як Гневаш падняўся з трума ды пакіраваў з памагатымі да кульгавага вадаліва па мянушцы Скура. Той сядзеў на пяску і прагна чэрпаў лыжкай поліўку ў драўлянай місе.

— Смачна есці, Рыгор, — ласкава ўсміхнуўся яму Гневаш.

Рабочага, які на працягу дня вычэрпваў ваду з трума, празвалі Скурай за тое, што быў сынам рэзніка, умеў спрытна свежаваць свінню. Не першы год Скура хадзіў на "Святым Фадзеі" і добра засвоіў: калі Гневаш табе ўсміхаецца, то праз імгненне атрымаеш па зубах.

Так і здарылася. Толькі Скура падняўся на ногі, як захістаўся ад удараў у сківіцу.

— Патлумач мне, калі ласка, чаму сярод тваіх рэчаў я знайшоў вось гэта? — расціснуў кормчы левую далонь.

З тоўстых пачырванелых пальцаў звісаў сярэбраны ланцуг.

— Я памятаю, што якраз такі набыў на кірмашы Салавейка, — нагадаў Гневаш.

— Адкуль я ведаю? — няўцямна пазіраў на кормчага вадаліў. — Можа, ты сам яго мне і падкінуў... — і паваліўся ад удара нагой у пахвіну.

— Мне ўсё роўна, гіцаль акаянны, навошта ты забіў сваіх сяброў, — працадзіў кормчы. — Хутка сам ім патлумачыш... Вязаць яго! — крыкнуў памагатым. — Як адплывём — за борт!

— Я не вінаваты! — залямантаваў Скура.

Вадаліву скруцілі паясамі рукі ды ногі.

Андрэй Станкевіч тым часам моўчкі пазіраў на плашч, у які Скура хутаўся ўначы. Брудная тканіна, пашытая з рознакаляровых кавалкаў сукна, распасцёрлася на траве. Яе выгляд утварыў апошняе звяно ў лагічны ланцуг, які юнак выкоўваў у сваіх думках.



Чырвоны дыск ранішняга сонца ярка пабялеў, калі "Святы Фадзей" адчаліў ад берага. Віціна выйшла на бліскучую ад прамянёў быстрыню. Памагатыя Гневаша падцягнулі звязанага Скуру да борта.

Аднак вадаліў-небарака не паляцеў у ваду. Бо да кормчага падкраўся Станкевіч і нешта ціха прагаварыў на вуха. Чорныя вусы Гневаша выгнуліся здзіўленай падковай, нізкі лоб разрэзаўся маршчынамі.

— Чакайце! — крыкнуў кормчы, даслухаў мармытанне Андрэя і раптам загадаў памочнікам, скіраваўшы палец на рулявога Саўку Барысовіча са Стоўбцаў: — Яго бярыце! Цягніце ўніз. Там пагаворым...

Вастраносы і хударлявы Саўка хадзіў на віціне ўжо другі год, але пакуль што не займеў аніякай мянушкі. Калі да яго памкнуліся падручныя Гневаша, рулявы разгублена аслупянеў, а потым рынуўся да борта. Відаць, меў намер сігануць у раку і плыць да берага — а там шукай яго ў лесе! Ды затрымаўся перад скокам, паражагнаўся — і той парачкі імгненняў хапіла, каб яму на шыю накінулі вяровачную пятлю. Рулявога, які адчайна торгаўся, звалілі на палубу і павалаклі ў трум.

— Як жа ты здагадаўся? — перапытаў кормчы ў Станкевіча.

Сэрца ў юнака ўтрапёна білася, і ён адказаў, заікаючыся:

— Уважліва разгледзеў плашч.

* * *

Вадаліва Скуру кормчы вызваліў з путаў і штуршком калена выправіў на працу, а потым, не марудзячы, спусціўся з памагатымі ў трум, дзе ўчыніў допыт рулявому Саўку. Дазнацца праўды яму дапамаглі малаток і цвікі, якія ўвязненаму забівалі пад рэбры.

Андрэй Станкевіч сядзеў на лаве каля кашаварнага тагана, які дыхаў у твар сухім жарам. Побач з ім уладкаваліся гандляры, ім карцела ведаць: як юны менянін дазнаўся, што душагубца менавіта Саўка?

Нязвыклы да такой увагі юнак чырванеў і запінаўся. Але барадатых слухачоў бянтэжыла не ягоная манера прамаўляць, а тое, як бязвусы смаркач лагічна спалучыў драбніцы чалавечых учынкаў.

Андрэй распавёў, што спярша яго непакоіла думка: як злаўмыснік выпусціў столькі крыві з Бабра, а сам пры гэтым не запэцкаўся?

Пасля смерці Гнязда хлопец здагадаўся: злачынца страляў з адлегласці ў дзясятак крокаў. Паколькі драўляных стрэл у целе нябожчыка не знайшлі, значыць, забойца біў з арбалета жалезнымі цвікамі. Такія ўжывалі ў час пабоішча, каб прабіць сталёвыя латы вершнікаў. Працяўшы грудзіну або галаву ахвяры, такі цвік пралятаў яшчэ адлегласць у колькі крокаў ад месца здарэння.

Арбалет на віціне мелі сямёра грабцоў. Станкевіч прыглядваўся да іх паводзін, прыслухоўваўся да размоў. Аднак ліхадзей не выдаў сябе ані слоўцам, ані жэстам. Так і нудзіўся няпэўнымі падазрэннямі юнак да таго моманту, калі Гневаш загадаў увязніць Скуру і патаптаўся на ягоным плашчы. Андрэя тады раптам асяніла: кожны з каманды ў сне хутаецца ў свой плашч.

Па ягонай просьбе памочнік гандляра прынёс Саўкін плашч. Пасажыры неўразумела ўтаропіліся ў тканіну, на якой дзіркі суседнічалі з латкамі. Станкевіч ткнуў пальцам у некаторыя з латаў:

— Хіба не пазнаяце? Гэта адрэзаны кавалак ад штаноў Бабра. А гэтая латка — адарваны ўцінак з кашулі Салавейкі. Вось гэтая скураная паласа — скрыгалік з пояса Варонінага Гнязда.

— Няўжо ты запомніў, хто і ўва што быў апрануты?

— Не так гэта і цяжка, — пацісну плячыма Андрэй. — Ад кожнага забітага Саўка штосьці браў на памяць. Свае трафеі ён знарок трымаў навідавоку. Бо такім чынам адчуваў сябе няўлоўным.

— Навошта ж Саўка ўчыніў смяротны грэх? — пацікавіўся пузаты і шыракаплечы Іван Тарлецкі.

На гэты конт пасажыраў прасвятліў кормчы, які падняўся з трума ў змрочным задуменні. Ён панура паведаміў падставу для кровапраліцця:

— Помста...

Пра кожнага ў камандзе кормчы ведаў, што той благога ў мінулым нарабіў. Хтосьці запляміў душу рабункамі, нехта — гвалтам. Аднак да сённяшняга ранку Гневаш не меў уяўлення, куды пазалетась бясследна знік малады вясляр Дзіміцер Бачэйка. Аказалася, на першым жа начным прывале старэйшыя грабцы Бабёр, Вароніна Гняздо, Салавейка і Скура завабілі хлопца ў лес і згвалтавалі па чарзе, жартаўліва даводзячы, што так выхоўваюць у ім мужнасць. Дзіміцер, наіўная душа, прыгразіў, што паскардзіцца кормчаму. Збаяўшыся пакарання, грабцы прыдушылі небараку і пахавалі ў гушчары. Уся чацвёрка дала зарок — нікому не распавядаць пра тое, што нарабілі. Але праз колькі месяцаў хмель развязаў ім языкі ў карчме, і прабалбаталіся таварышам.

Летась на "Святога Фадзея" наняўся новы рулявы — Саўка Барысовіч. Ніхто і не падазраваў, што ён — стрыечны брат Дзіміцера Бачэйкі, які хоча высветліць, куды падзеўся любы сваяк. На працягу года, падслухоўваючы размовы таварышаў, ён урэшце выявіў, што здарылася і хто вінаваты. Тады Саўка склаў бездакорны, як здавалася яму, план помсты. Трох нягоднікаў ён падстрэліў і паклапаціўся, каб вінаватым у забойствах палічылі Скуру. Дзеля таго падкінуў яму ў торбу ланцуг, які зняў з шыі Салавейкі...

— Усё ж, мне падаецца, ва ўчынках Саўкі ёсць дробка справядлівасці, — падаў голас Грыгарэй Бабурка. — Мажліва, пакараўшы нягоднікаў, ён болей не парушыў бы закон...

— Воўк, які пакаштуе чалавечай крыві, незваротна стане людажэрам, — пакрывіўся Гневаш. — Гэтак і ў забойцы розум назаўсёды перамяняецца.

Ён падаў знак памагатым — тыя падаліся ў трум і прыцягнулі буйны акрываўлены мех, які стагнаў і тузаўся ў іхніх руках. Памочнікі запытальна паглядзелі на Гневаша. Кормчы кіўнуў — грабца прыўзнялі і кульнулі мех цераз борт. З кароткім пляскатам забойца знік у цёмных хвалях.

— Няхай Саўка плыве назад у свае Стоўбцы, — прагаварыў Гневаш і папярэдзіў пасажыраў: — Пра тое, што здарылася, мая каманда будзе маўчаць. І вы языкі не распускайце. Інакш вам іх падрэжуць...

Аж да ночы Станкевіч калаціўся ў нервовай трасцы. Тое, што зрабіў Саўка, супярэчыла Боскім запаветам. Але і ўчынак кормчага падаваўся юнаку не дужа справядлівым. Вядома, забойца заслужыў смерць. Аднак жа пакаранне павінна здзейсніцца згодна з законным прысудам, а не паводле ўзмаху рукі!..

Праз дзень віціна мінула прускую мяжу. Станкевіч стаяў каля драўлянай выявы Святога Фадзея на носе віціны, задуменна пазіраў на мяжу небасхілу, дзе блакіт неба зліваўся з сінімі хвалямі, і разважаў: "Бацюхна жадаў, каб я вучыўся на багаслова. Але, можа, Госпаду заўгодна, каб я абраў для навучання не багаслоўскі, але юрыдычны факультэт?.. Каб шчыраваў на ніве законнасці ды з Боскай ласкі справядлівасць бараніў..."

Так у задуменні непрыкметна мінаў час падарожжа. І так нёманскі шлях прадвызначаў жыццёвую пуцявіну Андрэя Станкевіча — славутага следчага і суддзі эпохі "залатога веку" Рэчы Паспалітай.

## Валерый АНІСЕНКА:

# «Трэба будзіць!»

На пытанне "Як вы адчуваеце сябе на пасадзе дырэктара і мастацкага кіраўніка "коласаўскага" тэатра?" заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар Валерый Анісенка ўпэўнена адказаў: "Хораша! Працую па дванаццаць-чатырнаццаць гадзін на суткі. І гэта правільна. Гэта справа майго жыцця".



**Алег СЕРБІН, фота аўтара**

Выключны прафесіяналізм, незгасальная ўпэўненасць, творчы імпэт — гэтыя рысы Валерый Анісенка выпрацоўваў у сабе ўсё жыццё. І цяпер яны патрэбныя як ніколі. Больш як год Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа існаваў без мастацкага кіраўніка. У красавіку 2012 года на гэтую адказную пасаду быў прызначаны Валерый Анісенка. І невыпадкова: у яго багаты досвед, у 2000-м ён прыняў Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі і за адзінаццаць год змог вывесці яго ў тэатральныя лідары. Ці атрымаецца гэтым разам?

— Раблю для гэтага ўсё магчымае. Гэта мае прызначэнне — каб тэатр ажыў, каб ён даваў якасныя спектаклі.

Першыя ўпэўненыя крокі зроблены. Тэатральны сезон 2012 — 2013 — у разгары. У рэпертуары — 15 новых назваў. Дзейнасць тэатральнай гасцёўні Валерый Анісенка адкрыў пастаноўкай "Прызнанне", паспяхова прайшлі ўшанаванне Якуба Коласа, прысвечанае 130-годдзю з дня нараджэння беларускага класіка, творчы вечар Наталлі Аладкі і Святланы Жукоўскай. Але галоўнае адбываецца на вялікай сцэне. Глядач з цікавасцю і захапленнем успрыняў спектаклі "Песні ваўка" Вячаслава Паніна, "Ліфт" Юліі Чарняўскай, якія ўздымаюць складаныя сацыяльныя праблемы, пытанні ўзаемаадносін у сучасным грамадстве.

— Сёння тэатр зрабілі забаўляльным, а ён павінен здзіўляць, узрушаць. Я зняў з рэпертуару некалькі спектакляў, хоць яны і прыносілі грошы, былі касавымі. І растлумачыў трупе і рэжысёру, што лічу гэтыя пастаноўкі амаральнымі, яны разбэшчваюць. Праз гэтыя спектаклі прыстойныя людзі і не ходзяць у тэатр.

Вярнуць у залу гледача разумнага, задаць яму пытанні, прымусіць яго шукаць на іх адказы — адна з першасных задач тэатра. І "коласаўцы" здольныя на гэта.

— Я шкадую людзей, якія не любяць тэатр, — з сумам кажа Валерый Данілавіч. — Бо тэатр — гэта шлях да душы, да сэрца. Гэта ўзрушэнне, гэта адкрыццё, гэта спасціжэнне нейкай таямніцы, судакрананне з ёй. Я мог бы гэта параўнаць з пачуццём да жанчыны. У нас шмат абраных, ды мала прызваных. Людзей, якія цягнуцца да мастацтва. Галоўнае ж не даўжыня рук, ног, носа, галоўнае — вымярэнне душы.

Сапраўдны тэатрал чакае не проста ўражанняў, ён хоча зразумець спектакль у яго гарманічнай шматграннасці, асэнсаваць задуму аўтара, рэжысёра. Вядома, для беларусаў найбольш блізкімі будуць айчынныя драматургі. Прынамсі, у гэта хочацца верыць.

У свой час у афішы РТБД каля 75 працэнтаў складалі пастаноўкі па творах беларускіх аўтараў. Каб ствараць якасны прадукт у "коласаўскім" тэатры і адначасова зарабляць грошы, Валерый Анісенка вырашыў звярнуцца да сучаснай айчыннай драматургіі. "Парадоксы пачуццяў" паводле п'есы Сяргея Сергіенкі "Калі паснулы прачнецца" (адкрыццё маладога аўтара на сцэне прафесійнага тэатра), "Дажыць да прэм'еры" Мікалая Рудкоўскага, шэкспіраўскі "Макбет" у сцэнічнай рэдакцыі Аляксея Дударава, "Гісторыя двух сабак" Ягора Конева… Творчая эліта Беларусі з нецярпеннем чакае прэм'еры спектакля "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" паводле Уладзіміра Караткевіча. Вернуцца на сцэну і некалі знятыя спектаклі. "Але могілак, музея тэатральных пастановак не будзе", — заўважае Валерый Анісенка.

У планах мастацкага кіраўніка ажывіць тэатральнае жыццё Віцебшчыны. Ідзе праца над арганізацыяй Міжнароднага тэатральнага форуму ў Здраўнёве, на сядзібе Рэпіна. І ў гэтай сферы ў Валерыя Анісенкі вялікі вопыт, яму належыць ідэя падобнага мерапрыемства ў Нясвіжскім замку.

Як пісаў Леў Талстой, усе шчаслівыя сем'і падобныя адна да адной, а кожная нешчаслівая сям'я няшчасная па-свойму. Для Валерыя Анісенкі непрымальна, калі чалавек ні ў што не верыць. І што тады рабіць?

— Трэба будзіць! Падштурхоўваць асабістым прыкладам. Вось я і працую ад зары да зары, "пашу", займаюся прафесійнай вучобай. Галоўнае — каб адчулі мой ток, "падключыліся", каб любілі адно аднаго, адчувалі дыханне. І тады будзе свята!

Неадназова ў прэсе гучала навіна пра тое, што пры тэатры імя Якуба Коласа будзе ствараецца студыя маладога акцёра. Валерый Анісенка кажа, што гэта неабходна. Але мусіць быць падтрымка горада і вобласці. І зрухі ў гэтым кірунку ёсць.

— Самае складанае пытанне на сёння — абнаўленне трупы. Каля 20 чалавек — пенсійнага ўзросту, трэць калектыву! Мала моладзі… А на сёння няма магчымасці, як гэта было ў былыя часы, забраць у тэатр цэлы курс. Сюды мала хто едзе, тым больш што няма жылля.

— А няма страху, што не атрымаецца?

— Няма. Мяне могуць не зразумець, могуць не пайсці за мной, могуць супраціўляцца. Але гэта іх бяда. Сваім вопытам, сваім жыццём я сцвярджаў тое, у што я веру. Мне няма перад кім адказваць — толькі перад Богам і перад прафесіяй.

# Рытуал жыцця



Пры канцы гэтай гісторыі мы будзем ведаць больш, як на пачатку, — рацыя спадара класіка неаспрэчная. А пры канцы ў адмысловай мізансцэне сыдуцца і паўстануць колькі мужчын рознага веку і адна маладзюсенькая паненка. Іх класічныя рэплікі пададуцца не такімі важнымі, як дзеянні (і бяздзеянне), бо паўстануць пэўным рытуалам… жыцця. Здаецца, што такім жыццём калі не жыў, дык меў магчымасць жыць кожны другі альбо трэці заўсёднік глядзельнае залы Нацыянальнага рускага тэатра Беларусі, — хіба ў нашым сучасным атачэнні і з нашым горам ад — таго самага! — розуму… "Гора ад розуму" Аляксандра Грыбаедава.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

…У фінальнай мізансцэне для Соф'і прадугледжаны лічаныя кірунку руху. І які б кірунак яна ні абрала, ён паўстане пэўным выбарам — застацца з бацькам, дараваць Маўчаліну, прыняць Чацкага… Соф'я стаіць нязрушна. Альбо ўсведамляе магчымасць, альбо ёй рупіць датрымаць рэшту прыстойнасці…

Рэжысёр Сяргей Кавальчык справўдзіў дзіўны і варты спектакль! Усё адно як на бурлівыя марскія хвалі выліў колькі бочак лою (старадаўняя матроская прыдумка) — і на колькі часу хвалі супакоіліся, прапусцілі карабель праз гіблае месца. А потым узняліся пад неба. Пад неба можа ўзняцца… напрыклад, гнеў бацькі Фамусава, калі раз'едуцца госці і разыдуцца гледачы.



Але… на што? Расціслаў Янкоўскі ў ролі Фамусава выявіць незадаволенасць, прыкрасць, разражнёнасць ды гнявацца ў прысутнасці чужых не стане. Моцныя пачуцці зусім не ўласцівыя асяродку персанажаў, узноўленаму Сяргеем Кавальчыкам. Рэжысёр нікога не вінаваціць і не выкрывае, ні з кога не кпіць, не смяецца і ўжо гэтым самым класічныя сцэнічныя трактоўкі не падтрымлівае. Нават жарты Скалазуба афарбаваны не фанабэрыстай тупасцю, але адмысловым вайсковым гумарам, а Маўчалін падае свае сумненькія перакананні не так завучана, як адточана да бляску — як сённяшнія прадаўцы адмысловых фільтраў для вады альбо пыласосаў. Ці не ўсе персанажы спектакля жывуць так, нібыта наперадзе, сама менш, вечнасць і ўсё заўжды можна выправіць і аднавіць. І Чацкі, — той, якога іграе Антон Бельскі, у іхнім асяродку — свой. Нікуды не выломваецца і нічога не ламае, а на яго класічныя рэплікі пра грамадства, моды ды сяброў так і цягне адказаць: "Дзякуй, капітан Відавочнасць" (знаны персанаж інтэрнэтфальклору): папросту Чацкі ўголас кажа пра тое, што ўсе даўно і добра ведаюць (падумаць толькі, заўважыў! усвядоміў!). Іншымі словамі, Чацкі робіць замахі на рытуал жыцця ("Прасіў жа памаўчаць", — кажа яму на гэта Фамусаў, і трэба бачыць, як прамаўляе тэкст Расціслаў Янкоўскі — ну, прыкра ягонаму персанажу… не больш), але ніяк не парушае яго. І толькі ў Соф'і гэткая магчымасць з'яўляецца, праўда, у фінале. І пэўна ніхто з нас не даведаецца, скарысталася яна ёю ці не. А Вераніка Пляшкевіч (на маю думку, адна з самых таленавітых маладых актрыс тэатра) аніяк не возьмецца падказаць!

Так і пойдзем з думкаю… пра жыццё. Што ж гэта за жыццё такое, калі моцным учынкам робіцца простае парушэнне ягонага рытуалу? Жыццё замкнёнага кола, гурту альбо суполкі, добра знаёмае пад шыльдамі "карпаратыву", "фірмы", "ўстановы"… Няўжо — наша? Калі гэта мы паспелі так пазамыкацца, што пазнаём сябе адначасова ў Соф'і ды Скалазубу? Альбо ў Фамусаву ды Чацкім? Калі, з чаго мы пачалі жыць так, нібыта наперадзе, сама менш, вечнасць, нібыта ўсё заўжды можна выправіць і аднавіць? Кажучы велягурыста, ці не праз гэта адно аднаму мы не цікавыя? Ні біцца, ні кахацца не хочам?..

І вось яна, думка, да якой неўзнарок падводзіць Сяргей Кавальчык: а хто гэта — мы? Не што нам замінае, не што нас трымае, а хто такія — мы? Каго ці што трэба адкрываць-закрываць у сабе? Ці прагнем мы мяняцца і нашто нам гэтыя перамены?

…І сапраўды, нашто?

# Цешыць і вока, і сэрца…

Каляровыя хусткі, фарфоравыя скульптуры чырвонаармейцаў, казачных істот, прыгажунь розных нацыянальнасцей, а таксама лёгкія сервізы, распісаныя мудрагелістым арнаментам. Усё гэта — толькі невялічкая частка выстаўкі "Рускае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва XX ст. Фарфор і тканіны", якая размясцілася ў Нацыянальным мастацкім музеі. Пабачыць унікальную экспазіцыю на ўласныя вочы можна да 22 студзеня.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Музейная калекцыя рускага фарфору 1918 — пачатку 1990-х гг. сфарміравалася ў другой палове XX ст. У яе склад увайшлі работы, створаныя на вядомых прадпрыемствах Савецкага Саюза — Ленінградскім фарфоравым заводзе імя М. В. Ламаносава, Дзмітраўскім і Дулёўскім заводах. Фарфор 1920-х гадоў дапаўняюць вырабы Наўгародскага завода "Пралетарый". Упершыню ў экспазіцыі так поўна прадстаўлены ўзорныя набіваныя хусткі — аўтарскія творы мастакоў знакамітай Паўлавапасадскай хустачнай мануфактуры.

— Прадстаўленая экспазіцыя з фондаў музея пачала збірацца прыкладна ў 1948 годзе, — распавяла куратар выстаўкі, вядучы навуковы супрацоўнік Наталля Калашнік. — Справа ў тым, што падчас Другой сусветнай вайны з мастацкага музея знікла багатая калекцыя рускага і замежнага фарфору. Таму, калі сталі аднаўляць галерэю і камплектаваць музей, з 1957 года распачалося аднаўленне і даваенных калекцый ужо на дзяржаўным узроўні. Існавала вялікая праграма закупак фарфору па ўсім Савецкім Саюзе, па розных музеях краін СССР размяркоўваліся творы мастакоў-фарфарыстаў. Зразумела, наш музей — не выключэнне.

Мастацкі музей звычайна набываў фарфор у прыватных уладальнікаў у Маскве ці Пецярбургу, шмат якія работы паступалі ад саміх майстроў-фарфарыстаў. Аднымі з першых у нашай калекцыі з'явіліся аўтарскія скульптуры І. Слоніма "Танец. Балерына І. В. Ціхамірнава" і "Паміраючы лебедзь. М. М. Плісецкая"; "Казашка" і "Дзяўчына, якая танцуе з чырвонай хустачкай" ад мастачкі А. Бржазіцкай; "Клоўн" вядомага скульптара С. Арлова. Цяпер гэта класіка, бо заводы ўжо іншыя, дый вырабы таксама. Вядома, тыя антыкварныя рэчы, якія сёння прадаюцца на рынках, альбо вельмі дарагія, альбо падробкі. А ў тыя часы савецкі фарфор не падраблялі, мы за свае экспанаты спакойныя — дзяржава пільна сачыла за якасцю прадукцыі. Да таго ж, большасць работ была закуплена ў вядомых уладальнікаў з праверанай рэпутацыяй ці ў саміх мастакоў.



Кошты на фарфор былі самыя розныя. Пасля 1917 года за аднаўленнем заводаў пільна сачыў урад, яны павінны былі працаваць на шырокае кола спажыўцоў. У свой час гэтымі пытаннямі займаліся і У. Ленін, і А. Луначарскі. Канечне, у 1948 годзе, толькі-толькі пасля вайны, не кожны мог набыць сабе рэчы такога кшталту, але ўжо ў 1950-я гады статуэткі з серыі "Лыжнік" (Г. Сталбова) альбо "Дзяўчынка-якутка з кветкай" і "Якутка з сеўругай" (С. Веліхава) шмат не каштавалі. Усё гэта можна было набыць. А вось вырабы Ленінградскага фарфоравага завода імя М. В. Ламаносава заўсёды былі даражэйшымі. У 1980-я, да прыкладу, кубачак са сподачкам вытворчасці Ленінградскага фарфоравага завода мог каштаваць 5 рублёў (гэта пры сярэднім заробку ў 85 рублёў). Зразумела, з такога прыгожага посуду, распісанага пазалотай, ужо не пілі — гэта быў падарункавы варыянт для калекцыянераў.

Акрамя цудоўнай калекцыі фарфору наведвальнікі выстаўкі могуць паглядзець на аўтарскія тканіны В. Зубрыцкага, В. Фадзеевай, К. Зіноўевай і іншых мастакоў Паўлавапасадскай хустачнай мануфактуры. Узорныя хусткі Паўлаўскага Пасада — сімвал рускай традыцыйнай культуры. За два стагоддзі існавання вытворчасці склаліся пэўныя арнаментальныя матывы і каляровыя рашэнні тканін. Кветкі і букетныя кампазіцыі, арнаменты разнастайных форм на каляровых фонах ствараюць моцны мастацкі эфект. У кожнай хусткі свая гісторыя, сваё імя: "Уцеха", "Таямніца сэрца", "Над срэбнай вадой", у якім адбіваецца велізарны свет уражанняў, перажыванняў, любові да прыроды.

# Алтарная скульптура і мастацкія тканіны

Нацыянальны мастацкі музей запрашае да 22 студзеня наведаць выстаўку "Алтарная скульптура і мастацкія тканіны XVII — XIX стст.", на якой прадстаўлена каля 30 твораў культавай драўлянай скульптуры эпохі барока, а таксама прыклады мастацкага ткацтва — літургічныя ўбранні, у тым ліку з фрагментамі слуцкага пояса.

**Алеся АРЫЦКАЯ**

Збіранне твораў скульптуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Заходняй Беларусі пачалося яшчэ да Другой сусветнай вайны супрацоўнікамі Віленскага Беларускага музея імя Івана Луцкевіча. Аднак асноўная частка калекцыі разьбянай скульптуры XVII — XIX стст. у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, якая налічвае цяпер больш як 500 узораў, была вывезена навуковымі экспедыцыямі музея ў 1960—1980-я гг. з зачыненых у той час храмаў і выратавана ад знішчэння. Творы былі адрэстаўрыраваны, вывучаны. Некаторыя з іх экспанаваліся на выстаўках у Мінску і Маскве, частка дэманструецца ўпершыню.

Большасць скульптур выканана прафесійнымі разьбярамі па дрэве. Разам з тым прадстаўлены работы народных майстроў другой паловы XVIII — пачатку XIX ст., у якіх недахопы тэхнікі кампенсуюцца самабытнасцю вобразаў.

Як значная з'ява ў беларускім мастацтве культавая разьбяная скульптура пачала фарміравацца на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў першай палове XVII ст., кожны раз адраджалася пасля шматлікіх войнаў і ў першай палове XVIII ст. дасягнула росквіту. З пераходам ад барока да класіцызму ў канцы XIX стагоддзя развіццё культавай разьбянай скульптуры павалі згасла.

Найбольш распаўсюджаным сюжэтам было "Укрыжаванне" (на выстаўцы прадстаўлена творам аўтарства Казіміра Круповіча, 1697 г.), часам дапоўненае выявамі Маці Божай і апостала Іаана. Кола іншых сюжэтаў невялікае: "Уваскрэсенне Хрыста", апосталы Пётр і Павел, архангелы, Іаан Хрысціцель, постаці найбольш шанаваных у народзе святых заступнікаў. Адна з самых эфектных работ выстаўкі — асаблівая па майстэрстве выканання скульптура св. Яна Непамука, XVIII ст. Яна прывезена з царквы вёскі Ёдчыцы Клецкага раёна, куды, хутчэй за ўсё, патрапіла выпадкова з буйнога касцёла. Гэта выява чэшскага святога, духоўніка Сафіі Баварскай, жонкі караля Чэхіі Вацлава IV, праўленне якога прыйшлося на XIV ст. Кароль падазраваў жонку ў здрадзе і хацеў, каб Ян парушыў тайну споведзі, але духоўнік палічыў за лепшае прыняць пакутніцкую смерць.

Найлепшым матэрыялам для скульптуры лічылі драўніну ліпы за яе падатлівасць і мяккасць. Фарбы для аздаблення набываліся за мяжой. Трэба адзначыць, што рука прафесійнага майстра бачна адразу ў складанасці позы, выразе твару, складках адзення скульптуры. Затое калі анёлак стаіць прама, як салдат, мае выразны, але просты па пластыцы твар, адчуваецца майстар народны.

Паводле сукуратара выстаўкі — вядучага навуковага супрацоўніка аддзела старажытнабеларускага мастацтва Аляксандра Ярашэвіча, 90 працэнтаў скульптур, прадстаўленых на выстаўцы, паходзіць з каталіцкіх касцёлаў, якія спынілі сваю дзейнасць.

— Уніяцкая скульптура на выстаўцы прадстаўлена слаба, бо амаль усе творы былі знішчаны: скульптура ішла пад сякеру і ў касцёр, проста гніла ў хлявах з-за непатрэбнасці. У вёсцы Сцяпанка Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці на паддашку мясцовага касцёла было знойдзена каля 30 скульптур уніяцкага перыяду першай паловы XVIII стагоддзя. Але гэта выключэнне. Да таго ж, уніяты ўсё ж такі былі больш схільныя да напісання абразоў.

Таксама на выстаўцы прадстаўлены ўзоры дэкаратыўнай разьбы з мураванай Траецкай царквы (заснавана ў пачатку XVIII ст. як уніяцкая, мястэчка Быцень, Івацэвіцкі раён, Брэсцкая вобласць). На жаль, храм з шыкоўна аздобленымі алтарамі быў знішчаны падчас Першай сусветнай вайны. Аднак штосьці ўдалося выратаваць — у мастацкім музеі захоўваецца каля 40 фрагментаў дэкаратыўнай разьбы.



*Святы Ян Непамук. XVIII ст. в. Ёдчыцы Клецкага раёна Мінскай вобласці.*

Аляксандр Адамавіч адзначыў, што ў Заходняй Беларусі пашчэ захаваліся касцёлы з сапраўднымі ўзорамі культавай скульптуры. Перш за ўсё, гэта Гродзенскі кафедральны касцёл святога Францыска Ксаверыя, выбітны помнік еўрапейскага ўзроўню, дзе можна пабачыць прыклады правільнай у стылістычным сэнсе барочнай разьбы. Добры інтэр'ер у Пінскім кафедральным касцёле: тут разьба прасцейшая, затое бачна рука мясцовых майстроў. Гродзенскі касцёл аздаблялі часткова немецкія майстры з Прусіі, Вільні, а ў Пінску разьбой займаліся не абавязкова пінчукі, але беларусы. І, канечне, касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Будславе, дзе размяшчаецца ўнікальны алтар сярэдзіны XVII ст. Да таго ж, у Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах экспануецца цэлая серыя апосталаў XVIII ст. з Нягневіч Навагрудскага раёна, дзе мясцовы майстар пакінуў па сабе тузін работ.

## Арт-карагод

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Вядомыя магілёўскія мастакі Барыс Первунінскіх і Павел Дзімітрыядзі прадставілі свае работы на выстаўцы "Спыніся, момант…", якая праходзіць у мастацкай галерэі "Беларт". Маляўнічыя пейзажы Б. Первунінскіх з першага погляду могуць падацца простымі — ён аддае перавагу вясковым сюжэтам, з любоўю выпісваючы рэчкі, гаі, сенажаці, хутары, якія патанаюць у зеляніне. Аднак ужо праз колькі хвілін пачынаеш разумець, што ты — частка ўсяго гэтага хараства, частка прыроды, мастак нібы заклікае растварыцца ўва ўсёй гэтай прыгажосці і не забывацца ў штодзённай мітусні на супакаенне, якое так проста адчуць за межамі горада. Прадстаўленыя на выстаўцы творы "Хутар ля сажалкі", "Рабіна і сосны" — яскравыя таму прыклады.

П. Дзімітрыядзі таксама ў сваёй творчасці аддае перавагу пейзажу. Зліваючыся з прыродай, мастак, грэк па нацыянальнасці, піша эцюды на адным дыханні, транслюючы прыгажосць беларускіх (і не толькі) краявідаў. "Цяпло лета, якое сыходзіць" — адна з работ экспазіцыі, вартая абавязковага прагляду.

Сёння ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі пройдзе канцэрт "Беларуская дзяржаўная кансерваторыя: учора, сёння, заўтра", прысвечаны 80-годдзю Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Не ўпусціце магчымасць атрымаць асалоду ад прафесійнага выканання любімых музычных твораў лепшымі калектывамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і адначасова павіншаваць знакамітую ўстанову!

Выстаўка "Свет рэчаў і пачуццяў" прафесара Уладзіміра Зінкевіча, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі і Ганаровага члена Расійскай акадэміі мастацтва, расчыніла свае дзверы для наведвальнікаў у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. У экспазіцыі прадстаўлена каля 70 жывапісных работ, якія стварыліся на працягу апошніх 6 гадоў. У. Зінкевіч з'яўляецца ўдзельнікам рэспубліканскіх, замежных, міжнародных мастацкіх выставак і пленэраў, яго жывапісныя творы знаходзяцца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (Мінск); Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі (Масква); у замежных прыватных калекцыях Англіі, Аўстрыі, Германіі, ЗША, Італіі, Польшчы, Расіі, Швейцарыі і іншых краін. У сваёй творчасці У. Зінкевіч асэнсоўвае рамантычныя якасці навакольнага свету. Пры дапамозе колеравых рашэнняў, выверáных форм і арыгінальных кампазіцыйных пабудоў мастак перадае цэласную сувязь чалавека з прыродай. Пабачыць экспазіцыю можна да 24 снежня.

Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр 18 і 19 снежня запрашае гледачоў на прэм'еру спектакля Леаніда Зорына "Варшаўская мелодыя", чулліву гісторыю каханні полькі і рускага ў пасляваеннай Маскве. Яна — будучая спявачка, ён — вінароб. Вар'яцкае каханне, наперадзе толькі радасць і шчасце, нічога не можа перашкодзіць іх пачуццю. Але ж з'яўляюцца абставіны, якім наканавана змяніць будучыню. Ці зможа каханне пераадолець перашкоды? Падаецца, яшчэ крыху — і ўсё зноў будзе цудоўна… Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля — Народны артыст Рэспублікі Паўночная Асеція-Аланія Мадэст Абрамаў, мастак-пастаноўшчык — Ларыса Рулёва, балетмайстар-пастаноўшчык Яфім Фадзееў. У спектаклі бяруць удзел артысты тэатра: К. Міхаленка, М. Блінова, В. Чумак і інш.

# Трэнер, які іграе

Беларускія аматары і знаўцы опернага мастацтва напрыканцы лістапада атрымалі магчымасць паслухаць спевака, якому скарыліся лепшыя сусветныя сцэны. У спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь узяў удзел вядучы саліст Марыінскага тэатра Уладзімір Ванееў. Упершыню ў гастрольным графіку артыста, які выступаў на сцэнах Метраполітан-опера (Нью-Ёрк), Ла Скала (Мілан), Опера Бастыль (Парыж), тэатра Лісео (Барселона) і шматлікіх іншых, з'явілася Беларусь.
На галоўнай сцэне нашай краіны народны артыст Расіі, лаўрэат шматлікіх вакальных конкурсаў, уладальнік цудоўнага голасу і выдатнага артыстычнага таленту, Уладзімір Ванееў выканаў адну са сваіх каронных партый — Дасіфея ў народнай музычнай драме "Хаваншчына" М. Мусаргскага. Пасля спектакля артыст не адмовіў карэспандэнту "ЛіМа" ў размове і распавёў пра крытэрыі выбару краіны для гастроляў, асаблівасці дзейнасці "трэнера, які іграе" і сваю запаветную мару.



*Народны артыст Расіі Уладзімір Ванееў у ролі Дасіфея ў спектаклі "Хаваншчына".*

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ, фота Міхаіла Несцерава**

— Гастролі ў любую краіну — гэта заўсёды падзея, але пасля таго, як я аб'ездзіў увесь свет, больш не імкнуся спяваць недзе ў далёкіх краінах. На сённяшні дзень мяне прыцягвае рускамоўная прастора, мне здаецца, цяпер у славян не столькі магчымасцей атрымліваць асалоду ад музыкі, як у жыхароў Заходняй Еўропы. Эканамічнае становішча ў нас сёння цяжкае, і музычная інфармацыя не паступае так хутка, як гэта адбываецца ў Еўропе. Таму мне хацелася б гастраляваць больш па Расіі, Беларусі, Украіне, можа быць, па Казахстане.

**— Магчыма, такая сітуацыя ў рускамоўнай прасторы склалася яшчэ і таму, што многія перспектыўныя і запатрабаваныя спевакі, рэжысёры, дырыжоры імкнуцца працаваць на Захадзе?**

— У тым ліку. І матываваць іх застацца на Радзіме можна толькі неразразмеркаваннем фінансавых сродкаў... Любоў да Радзімы, патрыятызм — гэта выдатна, але мне здаецца, рана ці позна гэтыя паняцці могуць страціць сэнс для людзей, якія займаюцца культурай і мастацтвам. Чалавек заўсёды шукае, дзе яму лепш, і я не бачу ў гэтым нічога ганебнага.

**— Якія ўражанні ў вас ад супрацоўніцтва з Вялікім тэатрам Беларусі?**

— Па-першае, тэатр знаходзіцца ў дзівосным месцы. Я не сустракаў раней такой прыгажосці краявіду (нават нягледзячы на пахмурнае надвор'е) і самога будынка. Пасля рэканструкцыі тэатр вельмі чысты, святочны, з добрай акустыкай. Па-другое, мне спадабалася працаваць з калектывам. Я ведаю, што не ўсе артысты любяць чужых у сваім тэатры, але ў Мінску я не злавіў ніводнага скосага позірку. Усе калегі, з якімі мне давялося працаваць, вельмі добразычлівыя, ветлівыя і чулыя.

**— Вы спяваеце ў Марыінскім тэатры, шмат гастралюеце, займаецеся педагагічнай дзейнасцю ў Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай кансерваторыі. Як вы размяркоўваеце свае сілы паміж гэтымі заняткамі?**

— Пэўна, 90 працэнтаў займае педагагічная дзейнасць. А тыя 10, якія прыходзяцца на выступленні, прымушаюць мяне заўсёды быць у добрай вакальнай і фізічнай форме. "Трэнер, які іграе" — гэта вялікая адказнасць. Калі ты артыст і твае вучні ходзяць да цябе на спектаклі, ты абавязаны дэманстраваць ім усё, чаму вучыш у класе. Мне здаецца, тым педагогам, якія ўжо завяршылі сваю вакальную кар'еру, прыходзіцца лягчэй у гэтым сэнсе.

Яшчэ сёння мяне вельмі хвалюе пошук талентаў. Я сам вырас у сельскай глыбінцы, нарадзіўся ў вёсцы Аб'ячава ў Рэспубліцы Комі і прыйшоў на сцэну, як кажуць, зняўшы валёнкі і целагрэйку. Таму я добра ведаю, колькі знікае адораных людзей з-за таго, што няма інфармацыі і магчымасці вучыцца. Мне б хацелася зрабіць нейкі праект, з дапамогай якога можна было б знаходзіць таленавітых спевакоў і выцягваць іх з глыбінкі на прафесійную сцэну. Пакуль жа ў Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі я атрымліваю ўжо кімсьці знойдзеных людзей, але не пакідаю мары шукаць перспектыўных артыстаў сам: праводзіць нейкія рэйды, выяўляць таленты і пераконваць іх звязаць сваё жыццё з музыкай.

**— Раскажыце, калі ласка, пра тых вашых вучняў, якія ўжо дабіліся поспехаў у прафесіі.**

— Многа ездзіць па свеце і спявае ў добрых тэатрах барытон Раман Бурдэнка. Паспяховую кар'еру на Захадзе робіць і барытон Аляксей Лаўроў. Ён цяпер працуе ў Германіі. Спадзяюся, што неблагія перспектывы і ў маёй студэнткі Юліі Мазуравай (мецца-сапрана), якая сёння ў Маладзёжнай опернай праграме Вялікага тэатра Расіі. Ёсць яшчэ перспектыўныя артысты, так што магу сказаць, што мае вучні мяне радуюць.

**— За творчую кар'еру вы, напэўна, выканалі ўсе партыі басовага рэпертуару, якія вас цікавілі. Што б хацелася праспяваць цяпер?**

— На сённяшні дзень мяне басовы рэпертуар не цікавіць зусім. Я заўсёды лічыў сябе басбарытонам, і менавіта партыі драматычнага барытона прыцягваюць. Калі я пачынаў займацца з маладымі спевакамі-барытонамі, я, вядома, стаў спяваць разам з імі. Зразумеў, што ў мяне атрымліваецца, і сёння з задавальненнем выконваю менавіта гэты рэпертуар, тым больш, мне здаецца, што барытанальныя партыі больш меладычныя і цікавыя па характарах і тэмбральна. Я спеў Аманасра, Мазепу, Скарпія, Галандца, цяпер рыхтую Гразнога. А запаветная мая мара — гэта Рыгалета!

# Калядны падарунак ад Вялікага тэатра Беларусі

Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь падрыхтаваў сапраўдны калядны падарунак для ўсіх аматараў опернага мастацтва. З 16 па 23 снежня на сцэне Вялікага тэатра Беларусі пройдзе трэці Мінскі міжнародны Калядны оперны форум, які штогод збірае аншлагі і дорыць прыхільнікам оперы сустрэчы з зоркамі першай велічыні. У праграме — лепшыя сусветныя пастаноўкі, а таксама прэм'ерныя спектаклі Вялікага тэатра Беларусі.

**Алена ЕРМАКОВІЧ, фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета**

Сёлетні Калядны форум абяцае значнай старонкай увайсці ў гісторыю беларускай оперы, бо менавіта ў яго межах на сцэне галоўнага тэатра краіны пройдзе Міжнародны конкурс вакалістаў "Competizione dell'Opera". Гэта адзін з самых аўтарытэтных і ўплывовых вакальных конкурсаў у свеце, удзельнікі якога прадстаўляюць толькі італамоўны рэпертуар. Пачынаючы з 2001 года конкурс праводзіўся ў Дрэздэне, і толькі ў мінулым годзе ўпершыню выйшаў за межы Германіі.



*Сцэна са спектакля "Сівая легенда".*

"Competizione dell'Opera"-2011 прайшоў на сцэне Вялікага тэатра Расіі.

Усе мерапрыемствы паўфіналу конкурсу пройдуць у Камернай зале імя Л. Александроўскай і на малой рэпетыцыйнай сцэне Вялікага тэатра Беларусі. Фінальным акордам стане феерычны Гала-канцэрт, у якім пераможцы выйдуць на адну сцэну з сусветна вядомымі салістамі.

Акрамя такой значнай музычнай падзеі, як конкурс "Competizione dell'Opera", Вялікі тэатр Беларусі прадставіць гледачам найлепшыя оперныя спектаклі. Адкрые форум 16 снежня прэм'ера сезона — "Сівая легенда" Дзмітрыя Смольскага на лібрэта Уладзіміра Караткевіча. Гэты спектакль — "другое нараджэнне" легендарнай оперы, першая пастаноўка якой адбылася ў далёкім 1978 годзе. У 2012-м "Сівая легенда" вярнулася на сцэну ў пастаноўцы рэжысёра Міхаіла Панджавідзе, дырыжора Віктара Пласкіны, мастака Аляксандра Касцючэнкі, хормайстра Ніны Ламановіч. Адну з вядучых партый — Рамана — 16 снежня выканае саліст маскоўскага Вялікага тэатра заслужаны артыст Расіі Раман Муравіцкі. Вядучыя партыі ў оперы "Сівая легенда" таксама выканаюць салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Дырыжор — Віктар Пласкіна.

Вялікі тэатр Беларусі 19 снежня прадставіць гледачам новую рэдакцыю оперы "Яўгеній Анегін" П. Чайкоўскага, прэм'ера якой адбылася ў чэрвені гэтага года. Галоўныя партыі ў оперы выканаюць салісты Акадэміі маладых спевакоў Марыінскага тэатра, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Андрэй Бандарэнка (Анегін), Марыя Баянкіна (Таццяна), Дзмітрый Варапаеў (Ленскі), Юлія Матачкіна (Вольга). За дырыжорскім пультам — маэстра Міхаіл Сінькевіч (Марыінскі тэатр).

20 снежня вядучыя партыі ў новай музычнай рэдакцыі бессмяротнага шэдэўра Аляксандра Барадзіна оперы "Князь Ігар" у пастаноўцы народнага артыста Расіі Юрыя Аляксандрава выканаюць заслужаныя артысты Расіі Юрый Нячаеў (Князь Ігар) і Міхаіл Казакоў (Канчак), у партыі Канчакоўны — салістка Вялікага тэатра Расіі Святлана Шылава. Дырыжор — заслужаны артыст Расіі Павел Сарокін.

Бадай, самым доўгачаканым падарункам для прыхільнікаў опернага мастацтва стане паказ нашумелай оперы "Зігфрыд" Рыхарда Вагнера. Опера, якая ўваходзіць у знакамітую тэтралогію "Пярсцёнак Нібелунгаў", будзе ўпершыню прадстаўлена на беларускай сцэне. У спектаклі возьмуць удзел больш як 130 артыстаў, у тым ліку салісты оперы, хор і аркестр.

Рэжысёр-пастаноўшчык балгарскага "Зігфрыда" — дырэктар Сафійскага нацыянальнага тэатра оперы і балета прафесар Пламен Карталаў. Прэм'ера яго "Зігфрыда" адбылася сёлета 22 мая і стала галоўнай опернай падзеяй года. Міжнародныя музычныя крытыкі высока ацанілі пастаноўку і майстэрства балгарскіх выканаўцаў. 18 снежня беларускія аматары оперы атрымаюць унікальную магчымасць убачыць сусветна вядомую пастаноўку оперы "Зігфрыд" Рыхарда Вагнера ў выкананні артыстаў Сафійскага нацыянальнага тэатра оперы і балета.

# Горад. Лістапад. Форум

## ЭМАЦЫЯНАЛЬНЫЯ НАТАТКІ ЎДЗЕЛЬНІЦЫ СІМАНАЎСКІХ ЧЫТАННЯЎ-2012

* * *

Усё пачалося з таго восеньскага вечара, калі я, гартаючы чарговы нумар "ЛіМа", даведалася пра Сіманаўскія чытанні, якія традыцыйна адбываюцца ў Магілёве ў канцы лістапада. У межах чытанняў быў аб'яўлены міжнародны літаратурны конкурс, прысвечаны Канстанціну Сіманаву. І хоць статус "міжнародны" крыху палохаў, жаданне паўдзельнічаць перамагло, і я даслала свой верш арганізатару конкурсу, паэту, члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесю Казеку.

* * *

І вось мне тэлефануе Алесь Мікалаевіч і паведамляе прыемную навіну: дасланы верш — у ліку пераможцаў конкурсу, а таму мяне запрашаюць у Магілёў на міжнародны форум "У адзінстве наша сіла", прысвечаны 1150-годдзю расійскай дзяржаўнасці. Менавіта ў межах гэтага маштабнага мерапрыемства адбываліся Сіманаўскія чытанні і згаданы конкурс.

* * *

Раніца. 6.50. Усходні аўтавакзал сталіцы. Утульная маршрутка. Я еду ў Магілёў. У горад, дзе ні разу не была, але пра які шмат чула. У дарозе прыгадваецца легенда пра асілка Машэку і яго каханую, у свядомасці ўсплываюць радкі з Купалавай паэмы "Магіла льва". Чэрвень. Беразіно. А вось і Бялынічы — места, якому прысвячаў пранікнёныя радкі мой любімы паэт, добры, светлы чалавек, колішні рэдактар "ЛіМа" Алесь Пісьмянкоў:

*Я зноў на станцыі лясной,*
*Марозна-звонкай, заінелай,*
*Стаю ў Бялынкавічах белых,*
*Прапахлых смольнаю сасной.*

І… нарэшце ўказальнік "Магілёў".

* * *

З вакзала амаль адразу (не будзем лічыць лішнія павароты) трапляю на Плошчу Леніна. Тут — копія сталічнага Дома Урада, пабудаваная яшчэ ў 1938 годзе, калі сталіцу з Мінска, што на той час знаходзіўся блізка ад мяжы з Польшчай, планавалі перанесці ў Магілёў. Цяпер у гэтым будынку аблвыканкам. Знаходжу першы корпус Беларуска-Расійскага ўніверсітэта, дзе павінна адбыцца адкрыццё форуму.

* * *

Патрэбная аўдыторыя. За "круглым сталом" — літаратары з Масквы, Бранска, Смаленска, Варонежа, а таксама беларускія творцы Алесь Казека, Тамара Краснова-Гусачэнка, Мікола Яцкоў, старшыня Рускага культурна-асветніцкага таварыства, руплівы арганізатар Людміла Валадзько, а таксама прадстаўнікі Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

* * *

Адкрыццё форуму. Цікавы "круглы стол". Разглядаюцца надзвычай актуальныя праблемы рускай і беларускай літаратур: пытанні літаратурнай крытыкі, дзіцячай літаратуры, суадносін кнігі і інтэрнэту. І вось ён — хвалюючы момант узнагароджання. Сярод лаўрэатаў — літаратары з Бранска, Варонежа, Брэста, Віцебска, Мінска, Магілёва. Уразіла самая юная ўдзельніца конкурсу мінчанка Елізавета Багадзяж, пераможца ў намінацыі "Проза", якой усяго 10 год.

* * *

Далей — канцэрт, прысвечаны Канстанціну Сіманаву, у Магілёўскай акадэміі музыкі. Артысты спявалі пра вайну і Перамогу, дарылі добры настрой маленькія танцоры. А вершы Канстанціна Міхайлавіча гучалі нават у яго асабістым выкананні з экрана.

Пасля — вячэра. Цікавыя знаёмствы. Музыка. І зноў — вершы.

* * *

Раніца наступнага дня прывітала спорным дождджыкам. Такім спорным, што на экскурсію паехалі з парасонамі. Дзякуючы расповеду экскурсавода Магілёў паступова становіцца не такім "чужым". Вось тут, паводле легенды, пахавалі асілка Машэку; з гэтага балкона чытаў вершы Аляксандр Пушкін; а апошні рускі цар Мікалай II быў частым наведвальнікам драматычнага тэатра, які і сёння радуе гледача. А ўвогуле, Мікалай II любіў Магілёў. Ён з сям'ёй прыязджаў сюды на цягніку, жыў на плошчы ў губернскім доме, разам з сынам Аляксеем часта гуляў за горадам. Тут цар знаёміўся з мясцовымі жыхарамі і нават рабіў ім невялікія прэзенты. Так, вядома, што яшчэ да нядаўняга часу ў вёсцы ля Магілёва жыў чалавек, які захаваў манету, падораную яму самім Мікалаем II. Пасля манета стала экспанатам музея.

* * *

Буйніцкае поле… Трагічная старонка ў гісторыі Магілёўшчыны. Ускладаем кветкі да помніка Сіманаву. У верасні 1979 года, згодна з апошняй воляй Канстанціна Міхайлавіча, над Буйніцкім полем быў развеяны яго прах. Так, менавіта кавалачак беларускай зямлі абраў апошнім прытулкам рускі пісьменнік. Чаму?

Ізноў слухаем экскурсавода.

Першы бой на Буйніцкім полі адбыўся 11 ліпеня 1941 года, а другі, самы маштабны і кровапралітны танкавы бой быў тут 12 ліпеня. Вядома, што тады нашы салдаты падбілі каля 40 нямецкіх танкаў. Ваенны карэспандэнт Канстанцін Сіманаў прыехаў на Буйніцкае поле ноччу з 12 на 13 ліпеня. Ён не быў сведкам бою, але хапіла ўбачанага: падбітыя танкі, забітыя і параненыя салдаты… Пра гэтыя падзеі распавядае знакаміты артыкул Сіманава "Горячий день", надрукаваны ў "Известиях", а таксама яго твор "Живые и мёртвые".

Калі пісьменнік у 60-я гады першы раз наведаў мемарыял "Буйніцкае поле", то адразу ў падрабязнасцях успомніў падзеі, што адбываліся тут у часы вайны. Пасля Сіманаў бываў у Магілёве яшчэ некалькі разоў… У 1979-м вярнуўся назаўсёды. Вярнуўся да тых, пра каго пісаў у сваіх франтавых блакнотах у далёкім 1941-м.

* * *

Салтанаўка. Месца пад Магілёвам, звязанае з падзеямі 1812 года. У гонар ахвяр вайны з Напалеонам прыкладна ў 1914 годзе тут пабудавалі капліцу.

* * *

Экскурсія скончана. Завершаны і форум. Ветлівы вадзіцель экскурсійнага аўтобуса вязе нас на аўтавакзал. У маршрутцы творчыя размовы працягваюцца. Ды як ім спыніцца, калі побач са мной паэт-песеннік Іван Цітавец, галоўны рэдактар часопіса "Планета — сям'я" Яўген Крыцкі, літаратар з Варонежа Надзея Талмачова.

Да пабачэння, Магілёў! Дзякуй за яркія ўражанні, прыемныя імгненні і творчыя знаёмствы.

**Аксана ЯРАШОНАК**

# «Душа казённых слоў не хоча»

Маладой паэтцы Стасі Кацюргінай на дзіва пашчасціла: толькі за мінулы год яна выпусціла адразу дзве "першыя" кнігі — "Пад ветразем ранку" ("Кнігазбор") і "Парасон" (выдавецтва "Ковчег"). Амаль усе вершы "перакачавалі" з аднаго зборніка ў другі, таму разважаць пра паэзію спадарыні Стасі будзем у цэлым.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Як вы пэўна ўжо здагадаліся, творчасць Стасі Кацюргінай прысвечаная самай папулярнай сярод моладзі тэме — каханню. З агульнай плынню любоўнай лірыкі вершы сп. Стасі яднае рамантычны антураж: ноч і світанне, зоркі, парасоны, сны, смех скрозь слёзы, пажоўклае восеньскае лісце (паэтка дужа любіць восень, гэткі матыў паміранця любові), першы снег, які дае магчымасць перапісаць жыццё/каханне/верш наноў, бясконцы боль, пацалункі, ахвярныя алтары, рукі-вочы і г. д. Што вылучае яе з гэтай плыні? Тое, што заўжды ратуе "любоўнага" паэта, — шчырасць. Пра гэта добра напісала сама сп. Стася: "Душа казённых слоў не хоча…" Не раз было сказана, што гэта справа рызыкоўная: вывернуць душу вонкі і паказаць чытачу: вось, глядзі. Ды яшчэ чакаць, што ж ён адкажа, які прысуд вынесе, паверыць, паспачувае — ці пасміхнецца сам сабе і пройдзе міма.

Стася Кацюргіна рызыкнула. І што атрымалася?

Калі запар прачытаць увесь зборнік (ці два), можна прасачыць нешта кшталту сюжэта: вось каханне (каханне?..) пачалося, разліваецца, напаўняе душу лірычнай гераіні, потым прыходзіць немінучы боль, да таго ж, высвятляецца, Ён — чалавек не самотны (гераіня сама кажа: "я адна з тваіх жанчын", а потым увогуле апынулася, што яго "чакала жонка"); паступова з Яго боку каханне (зноў — каханне?..) згасае, лірычная гераіня цудоўна гэта бачыць і схіляе галаву, бо што ж тут паробіш? А потым адпускае Яго, "без болю сама развіталася", бо ўсё ж такі ёй "так поўна, так светла кахалася". А ці сапраўды кахалася? Разумею, што не справа крытыка лезці ў душу лірычных гераінь, але з панталыку збівае як агульны настрой вершаў, так і канкрэтныя фразы, напрыклад: "Я зноў цябе кахаю. Як і раней". Зноў?.. Думаецца, што гэта — пачуццёвасць, закаханасць, жаданне, сімпатыя, мо залежнасць нават — але, выбачайце, не каханне.

Лірычны Ён паўстае ў вершах асобай неадназначнай, што надае вобразу рэалістычнасць. Так, з аднаго боку лірычная гераіня захапляецца ім як чалавекам, які верыць у Бога, гэткім самотнікам у пошуку ісціны (Байран-Лермантаў-Багдановіч), а з іншага — рэзюмуе: "Суддзя Вы мой, і Вы не без заганы". Аднак першае ўсё ж перамагае. Бачачы тое нядобрае, што ў Ім ёсць, гераіня не перастае захапляцца. І ўсведамляе, што кахае, "як жанчына кахаць не павінна".

Зразумела, любоўную лірыку трэба не асэнсоўваць, а адчуваць. Але: логіку ніхто не адмяняў. Часам жа ў сп. Стасі сустракаюцца вершы, якія вонкава выглядаюць прыгожа, гучаць меладычна — проста бяры гітару ды спявай рамансы! — але пры наступным прачытанні заўважаеш нестыкоўкі, парушаныя сэнсавыя сувязі. Напрыклад, "хай гэты сон… пакіне кроплю шчасця пачуццё" ("***І толькі болю высахлыя вочы…"). Але хіба шчасце не ёсць пачуццё само па сабе? Ці аўтарка пад словам "пачуццё" мае на ўвазе каханне? Тады сон мусіць даць кроплю шчасця каханню. А гэта як?

Ці вось яшчэ: "не шукаю каханых людзей". А іх хіба можа быць многа? І ці магчыма іх мэтанакіравана шукаць? Альбо: "кахаць яго, як сон, як чысты аркуш белы". Можна кахаць Аркуша, але не аркуш.

Я разумею, што такія заўвагі падаюцца дробязнымі прыдзіркамі, — але менавіта дробязі робяць звычайны верш добрым, а добры — шэдэўрам.

Мова паэткі Кацюргінай лёгкая, падобная да плыні, што падхоплівае — і нясе, нясе… Любіць аўтарка антытэзы: у адной страфе і плача, і смяецца; ягады роспачы ў яе "соладка-горкія"; "увечары плачу, а зранку кахала" і г. д.

Аднак ёсць колькі пытанняў. Напрыклад, сп. Стася злоўжывае літарай "ў": то, падладзіўшыся пад паэтычны памер, апусціць яе, то ўклініць пасля зычнага гуку. Паэты даволі часта так робяць, а ўсё ж не варта. Месцамі сустракаецца банальная рыфма, якая псуе ўражанне ад добрага ў цэлым верша (мяне-міне, восень-просінь, болем-болей і інш.), да таго ж паўтараецца яна не адзін раз.

Часам засмучае лексіка. У вершы "***Засмяялася. Лёгкія слёзы…", чытаем:

*Так халодныя сны*
*адлятаюць,*
*Уяўляецца ветраным пуць,*
*Да вясны толькі песні*
*злятаюць,*
*Пацалункі ж на вуснах*
*жывуць.*

Вядома, словы "пуць" — "жывуць" добра рыфмуюцца, але ў нашай мове слова "пуць" папросту няма. Ёсць "шлях", "дарога", нават "пуцявіна" — але не "пуць". Дзеясловая рыфма, тым больш з аднакаранёвымі словамі, таксама не лепшае ўпрыгожванне для верша.

Падступная рыфма вымусіла паэтку ўжыць яшчэ адно нехарактэрнае для беларускай мовы слова — "шаль":

*Не адзавецца рэха болем.*
*Мой сум схаваўся*
*ў цёплы шаль.*
*З самотай выспелай*
*ніколі*
*Не пазнаёмімся, на жаль.*

Ёсць у сп. Стасі і вельмі ўдалыя знаходкі. Бачым мы іх якраз там, дзе думка ясная, пазбаўленая залішняй рамантызацыі. Імі сапраўды хочацца падзяліцца, пхнуўшы ў бок небараку, што апынецца побач: "Ого, ты глядзі, як трапна!" Глядзіце і вы: "і толькі болю высахлыя вочы глядзелі ў цемры", "ты … знік у вусені вагонаў", "ты пацалункамі збірай маю душу па гэтым свеце!", "далоні, што пяшчотаю баляць" і інш. Асаблівa ж парадаваў верш, прысвечаны тром беларускім паэткам — Ніне Шклярaвай, Яўгеніі Янішчыц і Раісе Баравіковай: "Вера нязломная — Рая, // Жэня — на ўздыху любоў", "Ніна — заўсёды надзея" — і ў выніку: "Ніна, Яўгенія, Рая — // Вера, Надзея, Любоў!" ("Птушкі Палесся", зб. "Парасон").

Пасля вершаў застаецца ўражанне, што паэтка яшчэ скажа сваё слова. Пабачым. Дакладней, пачытаем.



Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Ірына ПІКУЛІК, дырэктар Талачынскага гісторыка-краязнаўчага музея, распавядае пра цяжкасці, з якімі даводзіцца сутыкацца падчас папаўнення фондаў новымі экспанатамі:**

— Як і ўсе музейныя супрацоўнікі, мы займаемся не толькі краязнаўчымі даследаваннямі, але і папаўненнем фондаў. Напрыклад, сёлета павінны сабраць больш як 200 цікавых рэчаў. Але на працягу апошніх дзесяці гадоў робім гэта бясплатна, паколькі не маем сродкаў на закупку. Таму штосьці ўнікальнае да нас не трапляе. Толькі ў 2007 годзе змаглі набыць памятную срэбную манету з выявай Соф'і Гальшанскай (Друцкай) у Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь, паколькі імя гэтай княгіні звязана з гісторыяй Друцкай зямлі. Калекцыя "Археалогія" звычайна папаўняецца, калі праводзяцца археалагічныя раскопкі і частка артэфактаў застаецца ў нас. Бывае, людзі прыносяць каменныя сякеры ці манеты, знойдзеныя ў сваіх агародах. Летась паступіла каля 240 экспанатаў: адзенне 70-х гадоў мінулага стагоддзя, саматканыя вырабы, паштовыя маркі.

З кожным годам усё цяжэй папаўняць калекцыю "Быт і этнаграфія", таму што знікаюць вёскі і ад іх, на жаль, вельмі хутка нічога не застанецца. Сёлета ў музей не паступіла ніводнай этнаграфічнай рэчы. Хаця планавалі падчас экспедыцый штосьці ўнікальнае ўсё-такі выявіць. У асноўным людзі прыносяць фотадакументы і розныя выданні. Прынамсі, вядомы ў Беларусі краязнавец Анатоль Шнэйдар, жыхар Талачына, падарыў музею калекцыю сваіх кніг. Нашы знакамітыя землякі таксама не забываюць пра музей. Шмат уласных кніг падарыў пісьменнік Алесь Петрашкевіч, у тым ліку новыя п'есы. Пасля закрыцця некалькіх вясковых бібліятэк мы атрымалі кнігі, у якіх распавядаецца пра падзеі, што адбываліся на талачынскай зямлі падчас Вялікай Айчыннай вайны.

На першы погляд такія экспанаты, як шматлікія граматы, якія мы збіраем па арганізацыях, прадпрыемствах і ўстановах, не вельмі цікавыя, але праз некалькі дзясяткаў гадоў іх каштоўнасць значна ўзрасце. Менавіта па іх наступныя пакаленні будуць уяўляць, як жылі іх бацькі і дзяды. Дарэчы, на наступны год упершыню з бюджэту вобласці нам будуць выдзелены сродкі на набыццё новай камп'ютарнай праграмы і закупку экспанатаў. Спадзяёмся, што тады людзі больш ахвотна панясуць у музей каштоўныя рэчы, якія сведчаць пра нашу гісторыю.

## Адкрыццё-сенсацыя

Спецыялісты музея "Замкавы комплекс «Мір»" выявілі ўнікальную калекцыю партрэтаў і прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якая належала ўладальнікам Мірскага замка ў XIX ст., нашчадкам роду па жаночай лініі. Рарытэты знойдзены ў выніку працяглых навуковых даследаванняў і пошукаў. Гэта частка спадчыны княжны Стэфаніі Радзівіл, дачкі князя Дамініка, — апошняга прамога нашчадка нясвіжскай галіны роду па мужчынскай лініі. Наступным уладальнікам гэтага збору стаў сын Стэфаніі — Пётр Вітгенштэйн, а затым яго сястра, княгіня Марыя Гогенлоэ-Шылінгсфюрст, жонка канцлера Германіі. Пры садзейнічанні Міністэрства культуры Беларусі супрацоўнікі музея змаглі наведаць палац Шылінгсфюрст у Баварыі, уладальнік якога, князь Канстанцін Гогенлоэ-Шылінгсфюрст, даў згоду на азнаямленне з яго калекцыяй. Толькі на месцы супрацоўнікі даведаліся, што іх чакала сапраўднае адкрыццё. Замест меркаваных шасці выяўлена каля 30 партрэтаў князёў Радзівілаў, прычым не ўсе яны выстаўлены ў экспазіцыі прыватнага музея.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

# Інвестыцыі ў духоўнае развіццё

Важная і рэдкая аўтэнтычная крыніца па гісторыі беларускага народа — карта "Lithuania" канца XVI — пачатку XVII ст. — папоўніла збор Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь. Набыць каштоўны экспанат дапамагла кампанія Japan Tobacco International (JTI).

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

Карта "Lithuania" паходзіць са знакамітага Атласа Меркатара — "Atlas sive Cosmographicae meditationes de fabrica mundi et fabricate figura". На ім адлюстравана тэрыторыя Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Атлас складзены вядомым фламандскім картографам, географам, гравёрам і выдаўцом XVI ст. Герхардам Меркатарам (1512 — 1594). Гэтая карта, надрукаваная ў атласе 1623 г., з'яўляецца надзвычай важнай аўтэнтычнай крыніцай, унікальнай для нашай краіны — у Беларусі вядомы толькі адзіны экзэмпляр карты больш ранняга выдання (1592 — 1602 гг.) і няма ніводнага атласа. Улічваючы аўтэнтычнасць карты, яе выключную рэдкасць, добры ўзровень захаванасці, без сумнення можна сказаць, што "Lithuania" — важкая інвестыцыя ў духоўнае развіццё ўсёй краіны і нацыі.

— Набыццё гэтага рарытэта — яркі прыклад плённага супрацоўніцтва кампаніі JTI і Нацыянальнага гістарычнага музея, дзе праводзіцца шматгадовая, сістэмная праца з партнёрамі-спонсарамі, — зазначыў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі. — Развіццё дзяржаўна-прыватнага супрацоўніцтва — прыярытэтны напрамак і для Міністэрства культуры, і для мясцовых органаў культуры. І мы бачым сёння канкрэтныя вынікі, таму што не адзін дзясятак праектаў быў рэалізаваны менавіта з актыўнай фінансавай падтрымкай самых розных фірм, банкаў, арганізацый, прадпрыемстваў. Для Беларусі гэта асабліва важна, бо, на жаль, вельмі значная частка ўнікальных музейных збораў была згублена па розных гістарычных прычынах. Кожны факт вяртання ўнікальных прадметаў — значная падзея для беларусаў.



*Карта "Lithuania".*

Сёлета збор Нацыянальнага гістарычнага музея ўзбагаціўся прадметамі высокай культурна-гістарычнай вартасці свецкага і рэлігійнага прызначэння. Акрамя прэзентуемай карты, калекцыі папоўнілі два тамы "Усеагульнай схаластычнай тэалогіі" Адама Танера (1626 г.), якія паходзяць з Ружанскіх збораў Сапегаў. Фаліянты сведчаць пра высокі ўзровень друкарскага майстэрства. Значным здабыткам з'яўляецца і артэфакт часоў Сярэднявечча — кадзіла XII — XIII стст. з выявай Ісуса Хрыста, а таксама абраз "Маці Божая Бялыніцкая" (1891 г.) — спіс з цудадзейнай іконы XVI ст.

Замежныя выстаўкі — выдатная магчымасць бліжэй пазнаёміцца з сусветнай культурай, досведам іншых краін, усталяваць і замацаваць кантакты з замежнымі партнёрамі. Канечне, такія выстаўкі — няпростая справа, якая патрабуе значных выдаткаў. Але дзякуючы кампаніі JTI Нацыянальны гістарычны музей можа ганарыцца двума замежнымі выставачнымі праектамі, якія з поспехам ажыццявіліся ў гэтым годзе.

Напярэдадні міжнароднага Дня музеяў, 17 мая, упершыню ў Мінску была прадстаўлена выстаўка са збору Нацыянальнага музея Літвы "Палац вялікіх князёў літоўскіх у Вільнюсе". У чэрвені ўрачыста адкрылася выстаўка "Каштоўныя ўзоры. Залата ў помніках дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва і пісьменства", прывезеная з Дзяржаўнага гістарычнага музея (Масква).

Супрацоўніцтва Нацыянальнага гістарычнага музея і кампаніі JTI пачалося два гады таму. Сяброўскае партнёрства накіравана на арганізацыю сумесных мерапрыемстваў па захаванні і прэзентацыі нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны. Гэтае ўзаемадзеянне — значны дадатак да шэрагу буйнамаштабных міжнародных праектаў, якія падтрымліваюцца кампаніяй. Дарэчы, JTI аказвае шматгадовую падтрымку Дзяржаўнаму Эрмітажу і Дзяржаўнаму музею выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна ў Расіі, Луўру ў Францыі і музею Прада ў Іспаніі.

Менеджар па карпаратыўных пытаннях і сувязях з грамадскасцю кампаніі Japan Tobacco International у Беларусі Віктар Лук'янаў адзначыў, што JTI лічыць сваім пачэсным абавязкам аказваць падтрымку ўстановам культуры ў захаванні і прымнажэнні нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны як аднаго з самых важных духоўных набыткаў. "Мы вельмі задаволены прафесійным узроўнем супрацоўнікаў музея і ўзроўнем узаемаразумення, якое склалася паміж намі, — зазначыў Віктар Лук'янаў. — У 2013 годзе наша супрацоўніцтва будзе працягнута, а гэта значыць, што наперадзе — новыя цікавыя сустрэчы з гісторыяй Беларусі".

Дарэчы, сумесныя праекты Нацыянальнага гістарычнага музея і кампаніі JTI сталі пераможцамі ў намінацыі "Лепшая партнёрская дзейнасць" конкурсу "Музеі Беларусі — трэцяму тысячагоддзю" на першым Нацыянальным форуме "Музеі Беларусі" ў Гродне.

*Компас*

# Заходнія вароты краіны

Нават не ўсе жыхары Брэста ведаюць, што ў 30-я гады XIX стагоддзя горад з яго найбагацейшай культурнай спадчынай амаль поўнасцю быў знішчаны, а на яго гістарычным месцы з'явілася Брэсцкая крэпасць.

**Міра ІЎКОВІЧ**

Сённяшні Брэст у першую чаргу атасамліваюць з падзеямі чэрвеня 1941 года — з гераічнай абаронай цытадэлі. Гэтая памяць — непарушная. У той жа час досыць цікавым з гістарычнага пункту гледжання з'яўляецца сам горад, у якім можна сустрэць пабудовы, узведзеныя ў сярэдзіне XIX стагоддзя. А вось памяць пра старажытны горад захоўваюць толькі руіны некалькіх будынкаў і археалагічны музей на месцы раскопак старажытнага Бярэсця. Улічваючы ўсе гэтыя акалічнасці, многія ўпэўненыя, што Брэст мае велізарны патэнцыял для таго, каб стаць адным з яркіх турыстычных цэнтраў Беларусі.

Брэсцкая крэпасць — знакавае і цікавае сваёй гісторыяй збудаванне і, калі правільна яго выкарыстоўваць, то горад і краіна ад гэтага толькі выйграюць, лічаць прадстаўнікі ўлады, супрацоўнікі турыстычных фірм і гараджане, якія хацелі б бачыць свой горад прыгожым, сучасным і цікавым для вандроўнікаў.

Зразумела, Брэст валодае для гэтага добрым патэнцыялам як транзітны горад. Аказваецца, каля 80 працэнтаў турыстаў, якія едуць з Расіі ў Еўропу і наадварот, праязджаюць праз заходнія вароты краіны, часта робячы тут перасадку. У гэтым выпадку вельмі важна, каб яны затрымаліся ў горадзе на некалькі дзён і пазнаёміліся з яго славутасцямі.

Беларусь зацікаўлена ў рэалізацыі маштабных праектаў, накіраваных на развіццё ўязнога турызму. Буйныя праекты заўсёды даюць сур'ёзны імпульс для новых тэхналогій, занятасці насельніцтва, захавання традыцый. Брэсцкая крэпасць таксама можа зрабіць значны ўнёсак у гэтую важную справу, калі, як плануюць улады горада, мемарыяльны комплекс дапоўніць іншыя прывабныя для турыстаў аб'екты.

Да праекта стварэння культурна-турыстычнага цэнтра на тэрыторыі, якая прылягае да мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой", улады горада сталі падступаца напярэдадні святкавання 1000-годдзя Брэста, якое будзе адзначацца ў 2019-м. Размова ідзе прыкладна пра 300 гектараў тэрыторыі Кобрынскага і Валынскага ўмацаванняў цытадэлі, дзе ў недалёкім мінулым знаходзіліся вайсковыя часці. На тэрыторыі, якая вызвалілася, гарадскія ўлады маюць намер рэалізаваць амбіцыйны па сваёй задуме праект з узнаўленнем міні-копіі сярэднявечнага Бярэсця ў маштабе 1:10. Тут жа павінны з'явіцца кавярні, рэстараны, гасцініцы, гандлёвыя аб'екты, музеі і мастацкія галерэі.

Да 200-годдзя вайны 1812 года

# Заключны акт драмы

На пачатку кампаніі з Напалеонам ваенныя падзеі абыходзілі Чашніччыну, а вось заключны акт драмы пад назвай “1812 год”, як пішуць гісторыкі, разыграўся менавіта тут.

**Ірына ТОРБІНА, фота аўтара**

“Бітва пры Чашніках” пазначана ў галерэі воінскай славы маскоўскага храма Хрыста Збавіцеля. Тутэйшыя баталіі разгарнуліся пасля вызвалення Полацка. Французы атрымалі загад ад Напалеона спыніць наступленне непрыяцеля і адкінуць рускую армію за Заходнюю Дзвіну. Корпус генерала Пятра Вітгенштэйна праследаваў французскія войскі пад камандаваннем Сен-Сіра і Віктора. Бой, які адбыўся 19 кастрычніка ля вёскі Браздзецкая Слабада, што за два кіламетры ад Чашнікаў, доўжыўся амаль дзесяць гадзін.

Французы панеслі вялікія страты: больш як два дзясяткі афіцэраў і каля дзвюх тысяч салдат трапілі ў палон. Страты рускіх склалі каля паўтары тысячы чалавек. Даведаўшыся пра паражэнне пад Чашнікамі, Напалеон зноў загадаў Віктору і Удзіно, які заступіў на месца параненага Сен-Сіра, наступаць, каб адкінуць рускіх за Заходнюю Дзвіну. Французы з’ядналіся і адцяснілі рускі корпус да сённяшняга райцэнтра.

За два кіламетры ад Чашнікаў ля вёскі Смальянцы 2 лістапада зноў разгарэўся бой. Шэсць разоў вёска пераходзіла з рук у рукі. Але поспех і на гэты раз спадарожнічаў рускім. Акрамя палонных французы страцілі каля трох тысяч чалавек.

У фондах Чашніцкага раённага гістарычнага музея захоўваецца калекцыя прадметаў і падборка дакументаў той далёкай пары. Пра тое, як удалося стварыць гэты астравок памяці, распавядае дырэктар установы, адна з аўтараў кнігі “Памяць. Чашніцкі раён” Людміла Касцянка:

— Хаця нашаму музею ўсяго дваццаць пяць гадоў, мы маем у фондах шмат рарытэтных экспанатаў. Ёсць і снарады часоў вайны з Напалеонам. Праўда, збіраць рарытэты пачалі, на жаль, позна — у 1987 годзе. Хацелася знайсці хоць што-небудзь. Чапляліся за любы факт, працавалі па некалькіх напрамках: вывучалі энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі, мастацкія творы; апытвалі мясцовых жыхароў, наладзілі супрацоўніцтва з краязнаўцамі-калекцыянерамі, ездзілі па архівах і іншых музеях. Мэтанакіраваная дзейнасць дала плён. Марылі пра экспазіцыю, але экспанатаў для яе адкрыцця было недастаткова. Усё, што знайшлі, захоўваецца цяпер у запасніках. Вельмі радаваліся, калі, перагартаўшы збор твораў Уладзіміра Караткевіча, адшукалі верш “Памяць”, прысвечаны бітве пад Чашнікамі.

*На чашніцкай зямлі бярозы і дубкі,*
*У чашніцкай зямлі — французскія штыкі,*
*Іржавых ядзер круглыя галовы*
*У разор выкідвае нарог суровы…*

**— Няўжо праз столькі часу ўдалося нешта адшукаць?**

— Разам з тагачасным старэйшым навуковым супрацоўнікам Нінай Кіндзяевай абышлі кожны двор у вёсцы Капцэвічы, праз якую прайшла калісьці напалеонаўская армія. І пераканаліся: памяць пра суровыя выпрабаванні жывая. Сведкаў, зразумела, быць не магло, але аповеды на працягу двух стагоддзяў перадаваліся з вуснаў у вусны. Па кроплях збіралі паданне пра жанчыну з Капцэвіч, якая расправілася з французам. Калі ў хату да Сцепаніды Капусты завітаў варожы салдат, яна аплаквала смерць дачушкі Настассі, якую забілі французы. Нечаканы госць стаяў на парозе і трымаў у руках мяшэчак з арэхамі. Убачыўшы, што гаспадыня паліць печ, запатрабаваў, каб тая зварыла арэхі. Спачатку Сцепаніда паспрабавала растлумачыць яму, што арэхі не вараць. Але той нічога не хацеў разумець, люцеў на вачах. Тады жанчына ўзяла мяшэчак і паставіла ваду. Тым часам салдат сеў на лаўку і заснуў. Дзікая нянавісць авалодала Сцепанідай. Яна дастала з печы кацялок і выліла вар на галаву француза... Не толькі паданні, але і шмат рэчаў той пары засталіся ў спадчыну жыхарам Капцэвіч. Менавіта вяскоўцы прынеслі ў музей ядры, якімі стралялі падчас бітвы.

**— Што адбывалася ў іншых мясцінах Чашніччыны падчас вайны з Напалеонам?**

— У раёне шмат населеных пунктаў, якія закранулі падзеі 1812 года. Нейкім фактам, што гучалі як паданні з вуснаў тутэйшых жыхароў, мы знайшлі дакументальнае пацвярджэнне. Памятаю: дзядуля ў вёсцы Міхайлова пераказваў нам успаміны прадзеда пра тое, як у іх хаце спыняўся рускі генерал. На першы погляд падалося — легенда. Аднак пазней, вывучаючы архіўныя матэрыялы, мы пераканаліся: факт меў месца. Пётр Вітгенштэйн, які праследаваў са сваімі салдатамі французаў, прыпыніўся ў гэтай вёсцы. Нават праз такі доўгі час удалося знайсці ў архівах шмат цікавага. Напрыклад, захавалася карта бітвы пры Смальянцах, спісы параненых французскіх афіцэраў і інш.

**— А як завязалася супрацоўніцтва з калекцыянерамі-краязнаўцамі?**

— Мы абменьваліся інфармацыяй, набылі ў іх зброю той пары. Асабліва плённым было супрацоўніцтва з гомельскім даследчыкам Уладзімірам Лякіным.

**— Створаная ў 1990-я калекцыя папаўняецца?**

— Уявіце сабе, папаўняецца. Гады тры таму чашнічанін Віталь Ганчар, які вельмі цікавіўся падзеямі Айчыннай вайны 1812-га, перадаў у фонд музея самаробную калекцыю алавяных салдацікаў у форме рускай арміі таго часу. Усё гэта і шмат іншага прадстаўлена цяпер на выстаўцы, прысвечанай 200-годдзю бітвы каля Смалянцаў.



*Помнік на месцы бітвы каля Чашнікаў.*

Новы фармат

# Ці быць фестывалю?

Аграгарадок Радамля Чавускага раёна можа стаць унікальным турыстычным цэнтрам і месцам правядзення фестывалю славянскіх плямёнаў.

**Вольга СЕМЧАНКА, фота аўтара**

Гэтая перспектыва абмяркоўвалася падчас семінара-трэнінгу, арганізаванага ў рамках праекта “Чавуская школа развіцця аграэкатурызму”.

У вёсцы захаваліся рэшткі старажытнага паселішча. Вучоныя мяркуюць, што Радамля ў даўніну была буйным горадам радзімічаў (паводле некаторых версій, нават сталіцай). Магчыма, яна бачыла самога Радзіма — легендарнага заснавальніка славянскага племені. На месцы старажытнага гарадзішча ў XII — XVII стст. стаяў замак, які быў сведкам мноства гістарычных падзей, у тым ліку і Лівонскай вайны. Тут бываў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт І Стары. Пра старажытную гісторыю гэтага месца цяпер нагадвае толькі Замкавая гара, на якой не засталося нават падмурка ад колішніх збудаванняў.

Дзіўна, што такое славутае і адметнае месца не прываблівае да сябе натоўпы вандроўнікаў. А між тым развіццё турызму магло б стаць залогам росквіту аграгарадка з трохсоценным насельніцтвам. Як выправіць сітуацыю і што канкрэтна для гэтага трэба зрабіць? Адказы паспрабавалі знайсці ўдзельнікі семінара-трэнінгу “Падзейны турызм і яго роля ў развіцці сельскіх тэрыторый”, якія абмеркавалі праблемы і перспектывы развіцця Радамлі і мясцовага аграэкатурызму. У якасці аднаго з галоўных дакладчыкаў быў запрошаны Алег Сівагракаў — кандыдат эканамічных навук, эксперт па ўстойлівым развіцці тэрыторый.

Жыхар суседніх Благавіч Мікалай Шамро прапанаваў праводзіць у аграгарадку фестываль, звязаны са славянскімі плямёнамі, і ў першую чаргу — з племенем радзімічаў. Але, як прызналі ўдзельнікі дыскусіі, гістарычны і этнаграфічны аспекты гэтага пытання патрабуюць дадатковага вывучэння.

Удзельнікі семінара прыйшлі да высновы: развіваць у Радамлі аграэкатурызм варта. Гэта паслужыць на карысць аграгарадку: прыцягне інвестыцыі, створыць новыя працоўныя месцы, прываблівае моладзь, стане стымулам для развіцця арганічнага земляробства і пашырэння традыцыйных рамёстваў. Безумоўна, у Радамлі ёсць пэўны патэнцыял: старадаўняя гісторыя, маляўнічыя краявіды ўдалечыні ад буйных прамысловых аб’ектаў і магістралей. Тут нямала народных умельцаў, якія маглі б ствараць сувеніры для турыстаў. Дарэчы, у аграгарадку маюцца ўжо дзве аграсядзібы, адну з якіх і наведалі ўдзельнікі семінара. Паблізу яе знаходзіцца загадкавая Замкавая гара.

Галоўнае, што паказала гэтая сустрэча, — у мясцовых жыхароў і кіраўніцтва аграгарадка і раёна ёсць не толькі канкрэтныя прадуктыўныя ідэі, але і жаданне ўвасабляць іх у жыццё. Ажыццявіць задуманае дапаможа навучанне ў “Чавускай школе развіцця аграэкатурызму”. Гэты праект рэалізуецца Магілёўскім экалагічным грамадскім аб’яднаннем “ЭНДО” ў партнёрстве з аддзелам фізічнай культуры, спорту і турызму Чавускага райвыканкама, Інфармацыйным цэнтрам па ўстойлівым развіцці і экатурызме і ТДА “Чавускі бізнес-цэнтр”.

— У рамках праекта мы вучым мясцовых жыхароў асновам стварэння турыстычнага бізнесу ў вёсцы, — тлумачыць кіраўнік “ЭНДО” Андрэй Пахоменка. — Пачынаем з таго, як прывабіць турыстаў, ствараць цікавыя для іх аб’екты і атрымаць ад гэтага пэўны прыбытак. Мы фарміруем групы жыхароў раёна, якія займаюцца або жадаюць займацца аграэкатурызмам, знаёмім іх з лепшым вопытам у гэтай сферы. Праводзім і семінары-трэнінгі з удзелам беларускіх і замежных экспертаў. На бліжэйшы час запланаваны выязныя адукацыйныя мерапрыемствы, адно з якіх пройдзе на тэрыторыі Чавускага раёна, у аграэкасядзібе “Лецішча ля Проні”.

Ці зможа рэалізацыя ідэй устойлівага развіцця тэрыторый і аграэкатурызму прыжыцца ў Чавускім раёне? Многае залежыць ад ініцыятывы саміх мясцовых жыхароў. І калі задумка правядзення фестывалю ў Радамлі ажыццявіцца, калі аграгарадок пачне прываблівацць турыстаў, — гэта будзе агульная перамога.



*Загадкавая Замкавая гара.*

Цікава ведаць

# Непаўторная мелодыя

Выстаўка “Петрыкаўскі роспіс — жамчужына Украіны” адкрылася ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

У шматгалоссі вырабаў народных промыслаў Украіны вось ужо два стагоддзі спяваюць сваю непаўторную мелодыю вядомыя на ўвесь свет майстры Петрыкаўкі — вёскі ў Днепрапятроўскай вобласці, жыхары якой пачынаючы з канца XVIII стагоддзя размалёўвалі сваё жытло: фасад хаты, сцены ўнутры памяшкання, печы, мэблю, а з пачатку XIX стагоддзя — прадметы хатняга ўжытку: посуд, куфры, брычкі.

Класічнымі элементамі петрыкаўскага жывапісу сталі расліны. Калі глядзіш на маляўнічае перапляценне раслiннага арнаменту, здаецца, адчуваеш водар ягад і кветак прывольных стэпаў Прыдняпроўя. У матывах арнаменту пераважаюць яркія, насычаныя тоны. Роспісы прыцягваюць увагу не толькі каларытам, але і дзівоснай цэласнасцю творчай ідэі. За прастатой малюнка хаваецца доўгая і карпатлівая праца аўтараў роспісу, якія філігранна адлюстравалі драбнюткія дэталі.

Экспазіцыя дае магчымасць гамяльчанам і гасцям горада дакрануцца да самабытнай украінскай культуры, ажывіць і ўпрыгожыць зіму яркімі і цёплымі фарбамі, што сагрэты любоўю да роднай зямлі. Падчас адкрыцця выстаўкі майстры петрыкаўскага роспісу Таццяна Гаркава і Галіна Назаранка правялі ў палацы Румянцавых і Паскевічаў для ўсіх жадаючых майстар-класы і атрымалі шмат прыязных водгукаў.

# Дзіцячы ўзрост дарослай керамікі

**Выстаўка "Кола агню" па выніках X Міжнароднага пленэру па кераміцы "АРТ-ЖЫЖАЛЬ" ладзілася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. З 2003 года ў Бабруйску штогод праводзяцца міжнародныя пленэры па кераміцы "АРТ-ЖЫЖАЛЬ", якія сталі ўжо традыцыйнымі, вельмі вядомымі і цікавымі.**

**Раіса МАРЧУК, фота Кастуся Дробава**

У сёлетнім узялі ўдзел 25 прафесійных керамістаў з Азербайджана, Беларусі, Венесуэлы, Латвіі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі і Украіны. Дэвіз праекта — "Вопыт майстэрства — традыцыі і сучаснасць", а тэмай абрана "Скульптура ў прасторы інтэр'ера".

— Падчас пленэру, які праходзіў у форме майстар-класа, група керамістаў са звыклай штодзённай руціны патрапіла ў свет мастацтва, у бесперапынны творчы працэс, — распавёў арганізатар і кіраўнік пленэраў, мастак Валерый Калтыгін. — Мастакі атрымліваюць выдатную магчымасць выпрабаваць свае сілы, з'яднацца ў творчасці з агнём-стваральнікам. Напрыклад, пры абпале заняты ўвесь калектыў, бо паасобку нічога не зробіш. Тут можна эксперыментаваць, займацца творчымі і тэхналагічнымі пошукамі, абменьвацца вопытам. Таму на пленэр ахвотна прыязджаюць і маладыя майстры.



*Максім Калтыгін (Беларусь) "Субліміраваны графін". Шамот, глазур, соль, дымленне.*

А яшчэ пленэр па кераміцы — гэта паэзія складаных, парой цяжкіх працоўных будняў керамістаў, перамяшаных з гаркотай няўдач і радасцю творчых дасягненняў. Яго ўдзельнікі раскрываюць у сваіх работах своеасаблівасць спецыфічных прыёмаў, спосабаў і асаблівасцей у фармаўтварэнні керамічнай скульптурнай пластыкі, яе дэкаратыўнай і каляровай разнастайнасці. Мастакі папоўнілі свае творчыя набыткі шэрагам эксперыментальных работ і прадставілі творы скульптурнага характару для афармлення Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі імя А. Гайдара ў Бабруйску, як і было прадугледжана канцэпцыяй, распрацаванай арганізатарамі пленэру. Акрамя таго, кожны перадаў па адным аўтарскім вырабе ў фонды Бабруйскага мастацкага музея імя Г. Паплаўскага.

— Высокамастацкія керамічныя вырабы ў духу сучасных тэндэнцый, наватарскія па задуме і выкананні, ствараліся з выкарыстаннем найстаражытнейшых беларускіх тэхналогій: ручной і ганчарнай фармоўкі, дымлення, абвару ў розных кампазіцыйных спалучэннях, — падкрэсліў Валерый Калтыгін. — Такім чынам, X Міжнародны пленэр па кераміцы "АРТ-ЖЫЖАЛЬ" стаў сумеснай творчай працай вельмі розных па ўзросце, вопыце, прафесійным узроўні, тэмпераменце і характары асоб. Нам цікава было назіраць, як кожны па-свойму адлюстроўвае тую ці іншую тэму. І ў гэтым бачыцца залог поспеху.



*Яўген Адзіначэнка (Беларусь). Вясна-лета. Шамот, глазур, рэдукцыя.*



*Падчас адкрыцця выстаўкі "Кола агню".*

У кераміцы вялікая будучыня — рэфрэнам гучалі падчас адкрыцця выстаўкі словы выступоўцаў. Дзесяць гадоў — быццам дзіцячы ўзрост, але прадстаўленыя вырабы сведчаць пра "дарослую" кераміку, пра талент творцаў, іх крэатыўнасць і смеласць у пошуку сваіх шляхоў у такім цікавым відзе мастацтва. Таму ў экспазіцыі слабых работ не было.

— Кожны раз, калі ладзяцца падобныя выстаўкі, яны выклікаюць вялікую цікавасць, бо экспазіцыі заўжды розныя, — зазначыла дырэктар сталічнага Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Наталля Шаранговіч. — І справа не толькі ў тым, што мастакам прапаноўваліся самыя розныя тэмы. Да гэтых пленэраў, як і да самой керамікі, сёння зусім іншае стаўленне, чым было раней. Мы бачым работы, створаныя прафесіяналамі, — іх можна ставіць на адзін узровень са скульптурай.

Як толькі завяршылася гэтая выстаўка, пачалася падрыхтоўка да наступнага пленэру. Значыць, аматараў высокамастацкай керамікі чакаюць новыя адкрыцці, прыемныя ўражанні і сустрэчы з аўтарамі непаўторных вырабаў.

## Афарызм

*Кожная тая кніга добрая, калі яна ўзбівае чалавека на сталыя і важныя думкі.*

**Кузьма ЧОРНЫ**

## З глыбінкі

# Бібліятэка ў музеі

Гісторыка-этнаграфічны музей г. Чачэрска рыхтуецца да адкрыцця бібліятэкі. Рашэнне яе стварыць, як распавяла дырэктар музея Алена Новікава, было прынята ў раёне яшчэ вясной, калі адзначалася 290-годдзе з дня нараджэння графа Захара Чарнышова, які быў прызначаны Кацярынай Вялікай генерал-губернатарам горада.

І хаця граф не шмат часу праводзіў тут, у яго маёнтку была створана бібліятэка. Сёння знайсці выданні, што складалі яе, вельмі цяжка. Таму было вырашана прадставіць у экспазіцыі іншыя кнігі. Напрыклад, музей ужо набыў руска-лацінскі слоўнік 1880 года, Вялікую энцыклапедыю 1903 года, Служэбнік (1905) — гэта і свецкая, і царкоўная літаратура, усяго на сённяшні дзень 25 выданняў. Ёсць у сховішчах і старадрукі другой паловы XVIII — пачатку XIX стагоддзя.

Дарэчы, экспазіцыя, адкрыццё якой запланавана на наступны год, будзе мець лагічны працяг — у выглядзе ўжо створанай раней "Савецкай бібліятэкі".

Што адметна: нездарма ў музеі новую экспазіцыю называюць бібліятэкай. Бо, паводле задумы арганізатараў, яна і павінна выконваць гэтую функцыю: утульны пакой, шафы з кнігамі, стол, за якім можна пасядзець, пагартаць рарытэтныя выданні. Таму ніякіх зачыненых для наведвальнікаў шаф!

**Арцём ВАСІЛЕВІЧ, г. Чачэрск**

# У лепшых традыцыях

Добрай завядзёнкай стала ладзіць у Мірскім замку цікавыя выстаўкі, што дапаўняюць асноўную экспазіцыю музея. Таму кожнае новае наведванне гэтага цудоўнага месца падорыць новыя незабыўныя ўражанні.

Да 22 снежня, напрыклад, можна азнаёміцца з 45-й выстаўкай жывапісу, скульптуры і графікі "Таварыства перасоўных мастацкіх выставак, Санкт-Пецярбург", якая прыбыла ў мястэчка пасля гадавога турнэ па музеях Украіны і Гомельшчыны.

У экспазіцыі, якая размясцілася ў так званай Сланоавай зале, прадстаўлена 73 работы — лепшае са створанага рускімі мастакамі з Санкт-Пецярбурга і Масквы цягам апошніх дзесяцігоддзяў. Гэта жывапіс, графіка, скульптура. Калі называць імёны, нельга не згадаць такіх творцаў, як Мікалай Рэпін, Васіль Братанюк, Уладзімір Сакалоў-Шыршоў, Барыс Дзергачоў і іншыя.

Таварыства імкнецца адрадзіць лепшыя традыцыі рускага мастацтва і разам з тым ідзе ад праверанай часам школы да эксперымента. Што атрымалася, раскажа і пакажа выстаўка.

**Наталля МАРЭЦКАЯ, Карэліцкі раён**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага
рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Выдавецкі дом "Звязда".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2713
Умоўна друк.
арк. 5,58

Нумар падпісаны
ў друк
13.12.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 5540

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686